УДК 821.161.1
ББК 84(4Беи)
І-25

Укладанне і прадмова
Сяргея Чыгрына

Кніга выдадзена рупнасцю ўнука Анатоля Іверса
спадара **Аляксандра Міско**

**Іверс, А.**
І-25 Аўсяныя росы : вершы, успаміны / Анатоль Іверс. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 292 с.
ISBN ISBN 978-985-7007-34-9.

У кнігу старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) (1912–1999) увайшлі выбраныя вершы і ўспаміны, напісаныя ім на працягу шматгадовай літаратурнай дзейнасці.

**УДК 821.161.1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-34-9**

# Паэт служыў Радзіме

У Слоніме ў доме № 8 на вуліцы Дабрыяна цяпер жывуць іншыя людзі. Я стараюся ў тым раёне бываць рэдка. Бо калі праходжу каля хаты, дзе жыў паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) са сваёй жонкаю Нінай Паўлаўнай, сэрца пачынае шчымець ад таго, што ўжо няма гэтага сціплага чалавека і цікавага паэта. Яго не стала ў кастрычніку 1999 года, а крыху раней памерла і Ніна Паўлаўна.

Калі бываў вольны час, я спяшаўся ў гэтую хату. Адчыняў знаёмыя веснічкі, праходзіў па невялікім дагледжаным надворку, заходзіў у сенцы, дзе пахла бульбаю і сушанымі яблыкамі ці грушамі. З парога мяне вітала шчырая Ніна Паўлаўна — сяброўка па жыцці і жонка паэта. А Іван Дарафеевіч, як звычайна, сядзеў за сталом у сваім чысценькім невялікім пакойчыку і нешта пісаў.

«Пажаніліся мы летам 1945 года, — расказвала Ніна Паўлаўна. — Вось з таго часу і разам. А пазнаёміліся ў рэдакцыі слонімскай газеты “Вольная праца”, дзе я працавала літработнікам. Мне ён тады вельмі спадабаўся. Раней у Слоніме я не бачыла і не сустракала прыгажэйшага за яго мужчыну. Хаця, на першы погляд, здавалася, што Іван звычайны, як усе. Але заўсёды, у адрозненне ад іншых, ён быў і заставаўся паэтам. Вершы яго мне таксама падабаюцца. Я, напрыклад, як выйду зімою на вуліцу, заўжды прыгадваю яго радкі:

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.

Асабіста мне муж прысвяціў толькі адзін верш — “Развеяліся хмары”. Але я ніколі на гэта не крыўдавала…».

Гэты верш быў надрукаваны ў апошнім зборніку Анатоля Іверса «Травень» (Слонім, 1997). У ім ёсць і такія радкі:

Сяброўка трапілася мне
Не горшая, чым марыў.
І перастала ўжо цямнець,
Развеяліся хмары.

Так, хмараў у жыцці паэта са Слоніма было шмат. Нарадзіўся ён 15 траўня 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Праз два гады сям’я падалася ў бежанства. Жылі ў Казанскай губерні і ў Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе.

Як ні цяжка было, але за гэты час маленькі Іван навучыўся чытаць па-руску, а калі вярнуўся з бацькамі ў родныя Чамяры, пайшоў «перавучвацца» ў польскую пачатковую школу. Але гэтыя мовы былі для яго чужыя. Хлопчыку хацелася вучыцца ў беларускай школе. Аднойчы летам з Віленскай беларускай гімназіі прыехаў у Чамяры Казімір Чартовіч, які за лета падрыхтаваў чамяроўскіх дзяцей да паступлення ў гімназію. Сярод гэтых вучняў быў і Іван Міско. У 1926 годзе ён становіцца вучнем Беларускай гімназіі ў Вільні. Там чамяроўскі хлопец знаёміцца з Алесем Салагубам, Язэпам Урбановічам, Міхасём Васільком. Раскідвае лістоўкі, носіць у турму мапраўскія перадачы для вязняў, расклейвае плакаты, ходзіць на дэманстрацыі рабочых. Аднойчы паліцыя разагнала забастоўшчыкаў, а некалькі дзясяткаў навучэнцаў былі выключаны з гімназіі, у тым ліку і Іван Міско, якога пад канвоем прывезлі ў Чамяры і пад распіску здалі бацькам.

Потым былі яшчэ дзве спробы працягваць адукацыю — у Клецкай і Навагрудскай гімназіях, але і адтуль

«бунтар» Міско быў выключаны. У 1931 годзе юнак вярнуўся ў родную вёску.

У адзін з вечароў да Івана Міско зайшоў незнаёмы хлопец, перадаў прывітанне ад Валянціна Таўлая і папрасіў згоды на подпіс пад Дэкларацыяй сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Дэкларацыя і першы верш Івана Міско пад псеўданімам Анатоль Іверс былі апублікаваныя ў студзеньскім нумары часопіса «Літаратурная старонка» за 1934 год. Праўда, наклад часопіса быў канфіскаваны, з друкарні ўдалося вынесці толькі некалькі нумароў.

Праз пэўны час вершы Анатоля Іверса сталі часта друкавацца на старонках выданняў «Літаратурная старонка», «Калоссе», «Беларускі летапіс», «Шлях моладзі», «Наша воля», «Асва». А ў верасні 1939 года ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песні на загонах».

Аб чым пісаў малады паэт са Слонімшчыны? Ды пра тое, як шуміць жыта, як «хтось расчэсваў зялёныя сосны», як «заігралі ветры ў полі», як «залацілася раніца ападаючым шэлестам». Ці пра тое, як «ціха гарэлі аўсяныя росы…». А яшчэ паэт пісаў пра Беларусь, пісаў шчыра і светла, натхнёна і радасна:

Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

Калі прыйшлі «першыя Саветы» і ў Слоніме пачала выдавацца раённая газета «Вольная праца», яе першы рэдактар Іосіф Чарняўскі запрасіў Івана Міско на пасаду літсупрацоўніка рэдакцыі. А ў 1940 годзе на выязным пасяджэнні ў Беластоку кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі БССР прыняло Анатоля Іверса ў Саюз пісьменнікаў.

У гады Другой сусветнай вайны Іван Міско ўзначальваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю і быў намеснікам камандзіра партызанскага атрада імя Дзяржынскага па разведцы. У лесе выдаваў антыфашысцкую газету «Барацьба», лістоўкі, дапамагаў выпускаць падпольную «Вольную працу».

Вайна прайшла праз сэрца і душу Анатоля Іверса. Ён страціў першую жонку і бацьку, ды і сам быў на валаску ад гібелі. Але, нягледзячы на ўсе яго асабістыя пакуты і заслугі перад Айчынай, для савецкай улады паэт Анатоль Іверс у Слоніме заўсёды заставаўся чужым. І нават другі паэтычны зборнічак вершаў выйшаў з друку ажно праз 31 год пасля першага. «Не хацелі камуністы выдаваць», — казаў ён мне. Зборнік называўся «З пройдзеных дарог». Дарог, сапраўды, было пройдзена шмат. Нялёгкіх дарог, пакручастых, небяспечных і палыновых. Таму выхад другога зборнічка вершаў для Івана Дарафеевіча быў вялікай радасцю. У яго ўвайшлі вершы, напоўненыя пачуццём шчырай любові да роднага краю і яго працавітых людзей. У сваіх паэтычных радках Анатоль Іверс стараўся праўдзіва адлюстраваць перамогі над усімі акупантамі, якія не давалі спакойна жыць і працаваць на роднай зямлі:

Перамога! Перамога!
Абіваем з ботаў пыл.
І на пройдзеных дарогах
Ставім новыя слупы.
Вецер гутарыць з ліствою,
Ад кастра адносіць дым.
А слупы ўсе пахнуць хвояй,
Нашым лесам маладым.

Але як цяжка Анатолю Іверсу ні было і дзе б ён ні працаваў, заўсёды пісаў вершы, ніколі не цураўся матчынай мовы. «Я заўсёды размаўляў на сваёй мове. За гэта мяне называлі нацыяналістам. Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотні разоў, але двойчы

звальнялі з працы за тое, што “не внушал политического доверия”», — часта шчыра ўспамінаў паэт.

Але слонімскі аўтар трываў і «шчасце спазнаваў» у сваіх вершах. Трэці зборнік паэзіі «Жыву ў бацькоўскім краі» пабачыў свет у Мінску ў 1982 годзе. Ва ўступным слове да яго прафесар Алег Лойка трапна заўважыў, што «вершы Анатоля Іверса другой паловы 60–70-х гадоў раскрылі жыццёвы лёс паэта найбольш шырока і глыбока, і іх дэкларацыі — часцей за ўсё менавіта ёмістыя паэтычныя формулы жыцця і барацьбы, вернасці Радзіме, праўды лёсу чалавечага, як, напрыклад, гэтыя:

Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,
Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

Нялёгка было ў правінцыі жыць, але вершы пісаліся, і выдаваліся новыя кнігі: «Я пайшоў бы ўслед за летам…» (Мінск, 1987), «Прыдарожныя сосны» (Слонім, 1995), «Травень» (Слонім, 1997).

Для мяне, а таксама для ўсіх землякоў, Анатоль Іверс найперш застаўся ў нашай памяці як паэт, які шчыра служыў свайму народу і Бацькаўшчыне. У вершы «На Дзяды» ён сам падвёў вынікі перажытага і сказаў пра ўсё смела і адкрыта:

Я тры рэжымы перажыў:
Быў пан, быў гітлерац, «таварыш».
І памяць кажа: беражы,
Каго яны закатавалі.
Палегла многа без віны
За мову родную ў змаганні.
А голас іх дасюль звініць
На гістарычным скрыжаванні…

На гістарычным скрыжаванні па-ранейшаму гучаць і вершы слонімскага паэта Анатоля Іверса. Лепшыя

з іх склалі гэту кнігу. Сюды таксама ўвайшлі некаторыя ўспаміны паэта. Адны з іх друкаваліся некалі ў рэспубліканскім друку, іншыя — узяты з архіва складальніка гэтай кнігі. Іван Дарафеевіч пісаў і друкаваў іх на машынцы па некалькі экзэмпляраў. А калі я да яго прыязджаў, ён казаў: «Вазьмі сабе на памяць, няхай будуць. Можа, калі спатрэбяцца ці дзе-небудзь апублікуеш…».

Цяпер такі час наступіў. Гэты аднатомнік — даніна яго светлай памяці і сустрэча з новым пакаленнем чытачоў. Успаміны вельмі цікавыя і нясуць у сабе гістарычную каштоўнасць, таму што паэт быў асабістым сведкам тых падзей, пра якія напісаў. А вершы паэта — нібы пачатак і працяг гэтых успамінаў.

*Сяргей Чыгрын*

# Вершы

## На далёкіх курганах

Зорныя сігналы —
Яркія агні —
Недзе заігралі
Ў сіняй шырыні.
Нехта выліў звонка
Песню на траву —
Там сасна з сасонкай
Хіліць галаву.
І на тых курганах
Будуць кветкі ныць,
Будуць кожны ранак
Гнуцца палыны.
Хіба сонца з косаў
Вытча палатно —
На зялёных росах
Гурбу дываноў.
Ды на родных гонях
Зашуміць быллё,
Ў шэрым переразвоне,
Што за волю лёг.

*1937*



Каб не злыя шугавеі
Разматалі чорну ніць, —
Сонца яснаю лілеяй
Калыхала нашы дні.
І каб Нёманавы хвалі
Ды не білісь аб пяскі,
Можа, песень не пяялі б
Аб нядолі сівых скіб.
І ляшчэўнікі густыя,
Струны звонкія сасён
Шэпчуць казкі залатыя
Пра сялянскі цяжкі сон…
Ну, чаму ж не скінуць камень,
Ды пайсці у той паход
Разам з сонечнымі днямі,
Куды рушыў веснаход?
Дык прыйдзі душою зліцца,
Так, як з росамі трава, —
Будзем разам весяліцца,
Будзем разам гараваць.
Там, дзе краска напілася
І паветра, і вады,
Дзе шуміць кудлаты ясень
І калыша белы дым;
Там, дзе ў стрэхах саламяных
Месяц затачыў нарог, —
Мы паможам сонцу рана
Пералезці праз парог…

*1937*

## Песні на загонах

Як выйдзеш на поле і глянеш навокал:
Лясы, сенажаці, дарогі і нівы —
І дыхаюць грудзі свабодна, шырока,
А ветры расчэсваюць жытнія грывы.
Таму ў нас і песні цвітуць на загонах.
Ў нас кожны — паэт, калі з сэрцам гарачым,
Смяецца ў парывах цымбалістых тонаў,
А гора прыцісне — дык скрыпкай заплача.
Ды песня часамі бывае няўдала, —
Праціснуцца трудна праз лёс наш пакутны.
А хмары плывуць з зарумяненых даляў
Густым караванам на шлях сухапутны.

*1938*



Я выйду ў прастор безбярэжжаў —
Балотаў, палёў, азярын —
І гора сваё перарэжу
На струнах сасновых ў бары.
Я век прыкаваны да хаты
Нядоляю нашай, як раб...
Ды з выраем думак крылатых
Мне будзе іскрыцца зара.
І там — на дарогах расстайных, —
Не буду я там варажыць.
Ўсе чыста заклятыя тайны
Павешу на першым крыжы.
Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай —
На славу табе, Беларусь.

*1938*

## У шуме жыта

У шуме жыта —
Даль адкрыта,
Над палямі вецер-хват.
Я іду ў туман ракітаў,
З цесных вуліц, з душных хат!
Там, на полі
На прыволлі —
Шырыня і шырыня, —
Мо заглушыць ў сэрцы болі
Залацісты золак дня.
Хай на росах
Сонца косы
Загарацца, як тагды,
Калі хлопчыкам ў пракосах
Раскідаў свае гады…
Хай на нівах палахлівых
Задрыжаць парывы хваль, —
Ў жоўта-сініх пералівах
Закурыцца сіня-даль.
А ў тым моры на прасторы
Вартаваць буду зару
І туды — з арбіты зоркай
Я паклічу Беларусь.

*1937*

## Вёска

Разляглася вёска
Хатамі у рад.
Дзе-нідзе бярозка
Блісне паміж хат.
Сонца лье без ласкі
Вогненную плынь.
Жудасную казку
Шапаціць палын.
А ў сялянскіх хатах
Хлеб як рэдкі госць.
Ў далях сіняватых
Лес шуміць чагось.

*1933*

## За варштатам

Гэй, пілуй хутчэй, падпілак!
Мацней стукай, малаток!
У мяне сягоння — сіла
І бадзёрасці паток.
Я не знаю соннай зморы
І не маю чорных дум,
Бо ў грудзях бушуе мора,
Гоніць прэч нуду і сум.
Шасцярня за шасцярнёю
Барацьбы спяваюць гімн —
Мае думкі, мае мроі
Над варштатам — не сваім.
Я — працоўны, дык працоўным
Я кую шчаслівы лёс.
Малады і жыцця поўны,
Слаўлю я блакіт нябёс.

*1934*

## З чужыны

Да родных ніў, ваколіцаў
Пара ўжо мне, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды — у родны край.
Туды, дзе хвалі Нёмана
Палошчуць берагі,
Дзе бор сасновым гоманам
Вясне спявае гімн.
Туды, дзе красак звіткамі
Смяецца сенажаць,
Дзе ў даль кладуцца ніткамі
Каля мяжы мяжа;
Туды, дзе шчоткай шчыльнаю
Ячмень да сонца стаў,
Дзе на дарогу пыльную
Сплывае сонца сталь. —
Я там змагаўся з голадам,
Пазнаў там Беларусь,
Спаткаў сваю моладасць
І ўсходзячу зару...
Да родных ніў, ваколіцаў
Пара мне ўжо, пара,
Бо сэрца кліча, моліцца
Туды — у родны край...

*1937*

## Звоняць дні

Вершам мо няўдалым,
Але проста — з сэрца
Прывітаю далі
Ў руністых каберцах!
Жменяй сыпну поўнай
Буйных думак — росы,
Дзе туману воўна
Затуліла просінь.
Сонца азалоціць
Росы на загонах...
Звоняць дні на дроце,
Звоняць, звоняць, звоняць...
Пацягну я смыкам
Па сталёвых жылах —
Ды каб хмелем дзікім
Песня закружыла!
Каб на пералах,
Палыном заросшых,
Стаць гарою, скалай —
Долю сваю рошым!

*1937*

## Зорныя дарогі

Ёсць ў жыцці нямала светлых летуценняў,
І гарачых думак, і мазольных рук.
Толькі трэба ўмела выплыць з чорных ценяў,
Вёсламі расплёскаць ў попеле зару.
Можа, глушыць вецер медныя парывы,
Можа, цёмным дымам ўкрыты кругазор, —
Але часам ночы залатую грыву
Кіне на гасцінец, вытканую з зор,
Каб душою зліцца з новаю сустрэчай
На шляхах гусіных ў зораў грамадзе…
Пасля горкай ночы — хто мне запярэчыць?! —
Ярка загарыцца ў сініх кудрах дзень!

*1937*

## У сінеючыя паплавы…

У сінеючыя паплавы,
Моладасць, яшчэ раз паплыві!
Каб таемна зноў вабіла даль,
Каб не знаць, што такое бяда,
Каб смалою запах белы дым,
Каб у сэрцы бялелі сады…
Праўда, бульбы тады не было,
Ды смяяліся прасторы балот.
А калі і скацілась сляза,
Дык аб гэтым не варта казаць.
Лепей ўспомніць ля лесу агні,
Лепей ўспомніць бясхмарныя дні…
Што было, ўсё пайшло у нябыт.
Зацягнуўся тугою блакіт…
Тыя ж крыгі наехаўшых хмар
Мы адкінем грудзьмі на папар,
Каб ад чорнай і слізкай жуды
Закурэўся бялеючы дым…
Моладасць! Яшчэ раз паплыві
У сінеючыя паплавы!..

*1937*

## Хтось расчэсваў зялёныя сосны

Хтось расчэсваў зялёныя сосны,
Што адкінулі кудры назад.
Аб тых ночах смалістых і росных
Я ніяк не магу расказаць.
І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
Паліць смагаю мяккую сінь,
Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
Калі можна падняць парусы!
А што далі імгляцца тугою —
Гэта толькі сінецца дым, —
Расспяваная медзь пад дугою
Не пытае, чаго і куды…
З процьмы думак — не вытканых кроснаў —
Застанецца узор — дзераза…
Былі ночы — іх зблыталі сосны,
Што адкінулі кудры назад.

*1938*

## Малюнкі

Балота, балота
І песня, як рунь, —
Цвіце пазалотай
Мая Беларусь.

А там — пералівы
І золата сінь.
Скажы, мая ніва,
Чым доўг аддасі?

Ці зернем звінячым,
Ці песняй палос,
Дзе голад маячыць
Над шэрым сялом?

І коцяцца хвалі
Па сівых жытох.
Жыццё не пахвалім,
Што кінуў нам хтось.

Чаму ж не паверыць
Ў агні, што мігцяць,
Што зменіцца шэры
Парадак жыцця?

Малюнкі, малюнкі
Па ўсёй старане.
Ў сасонніках стрункіх
Распырскана медзь.

Ў алешынах цёмных
Сінее сіта. —
Там шолах таёмны
Мяне прывітаў…

Іду на дарогу
У сонечны дым,
Бо збітыя ногі
Плятуцца туды…

*1938*

## Пад ранак

Неяк марудна ў павуціну
Зляталі згубленыя зоры,
Дзе вечар наміткаю сіняй
Накрыў апошнія узоры.
Ў такую ноч люблю паслухаць,
Як сцежкі ў полі заміраюць
І толькі часам звоніць глуха
Над рэчкай асака густая.

*1938*

# Над Шчарай

Заігралі ветры ў полі,
Заігралі пераліўна —
І калышуцца па полі
Ў небе ласкавым і дзіўным.
І вясёлкай серабрыцца,
Паясом ў даліне Шчара,
А з-пад вёслаў — пэрлы быццам
Пырснулі із казкі чараў.
Між далінаў і між гораў
Лезе лодка плаўкім клінам.
На узмежку, нібы мора,
Шумам пеніцца каліна.
І кацілася з аддалля
Песня — сонца пазалота —
І злівалася на хвалях
Ў гібкім гомане чаротаў.
Берагі: шумяць калоссяў
Схваляваныя палотны,
Ў шыр кладзецца зыб пакосаў
Асакі й сіты балотнай…
Ў даль па зрэбных каляінах
Распаўзліся дні і ночы —
Іх збярэ мая Краіна
У вясёлкавы вяночак!
Дзе ні глянь — ўсё сэрцу блізка:
Вёска, лес, вузкі палетак.
Пэўна, маці над калыскай
Напяяла мне пра гэта.

*1938*

## Веснавыя думы

Над палямі вецер,
Над палямі звонкі, —
Зашумела вецце
Меднае сасонкі.

Веснавыя думы —
Каласістым роем
У вясеннім шуме
З ранняю зарою…

Там, дзе былі горы,
Горы снегавыя, —
Там вада разорай
Пеніцца і вые.

А над цёмным гаем —
Смелыя акорды:
Пацякла ручаем
Маладая гордасць…

Але тыя думы
Не даюць спакою
У вясеннім шуме,
З ранняю зарою…

Прытаілась вёска
Ў полі паміж гораў…
Сум я свой расплёскаў
Ў сонечным прасторы.

Сонца лье праменні,
Звоніць на палетках,
А зярнят ні жмені, —
Што пажну улетку?

З вузкіх тых палоскаў
Вецер б’е па твары,
А над ціхай вёскай —
Сонечныя мары…

*1938*

## Спатканне

Калі расплаўлены прастор
Аўчынай звіс ў палях зялёных,
Скажы, спаткаў цябе нашто
На паркалёвай лешцы лёну?
Хацелася спытацца мне:
Ці твае вочы сіней неба
Заўсёды будуць так сінець,
Ці засумуюць калі-небудзь?..
Ды бровы чорнаю смугой
Апалі ўніз — на пыл дарогі…
І я лагчынаю між гор
Паплёўся далей па разлогах.
І можа, век у сінь нябёс
Ўглядацца будзе соснаў грэбень…
А ўсё ж на свеце нешта ёсць
Сіней за сінь, сіней за неба.

*1938*

## Гэта вясна

Можа, не ясна яшчэ уваччу —
Раніца мляўка туманам цвіце.
Прыслухайся сэрцам, душою пачуй,
Як разыходзіцца згушчаны цень.
Сонца кранула зубчату сцяну —
Лес адазваўся у тысячы струн,
Вецер парывіста даль сцебануў,
Жаўранкі звоняць ў зялёную рунь…
Гэта вясна!.. А па хаце яшчэ
Поўзае гора ў задуме нямой…
Толькі электрыка з яркіх вачэй
Сыплецца ў пропасць жывых перамог.

*1938*



Я шукаў яшчэ вясною
Песняў звонкіх па палёх.
Ды задумаю лясною
Заківала мне галлё…
Што ж, пайду, мо там у лесе
Сіні шолах абтрасу
І вязанку новых песень
Весялейшых прынясу.
Днём няма у лесе соваў,
Пахаваліся, ці што?
Ў перагудзе струн сасновых
Ўвесь калышацца прастор.

*1938*



Апошнім шолахам скрываўленыя раны
Хацела ліпа ўчора патушыць.
Ды пасняшыў з усходу свежы ранак,
Сарваўшы нешта цяжкае з душы.
І мо таму зазелянелі нівы
На полі мяккім полымем вясны,
А па садах малочныя узрывы,
Ну проста — казка, хоць прысні!
І не чакаў я больш чароўных гукаў,
Што мне прарочыў з вечара прыліў,
Мяне ізноў цягнула ў даль разлука
Да той схвалёванай раллі,
Дзе, змыўшы пот з сінеючай дубровы,
Прыйдзецца часам смачна адпачыць,
Дзе сонца паліць залатыя бровы,
Цяжкія зняўшы шолахі начы.

*1937*

## Да жніва

Ты, радзімае поле, скажы
Каласістым павевам вясны,
Хай не хіліць аж да мяжы
Пазалочаны жытні траснік.
Можа, песню араты згубіў
На шнурах — на барознах крывых,
А з ёй пеніцца вецер між ніў
Ў сонца брызгах — чырвонай крыві.
І заціснуўшы туга жывот,
Дзяцей просіць цярпець… да жніва…
Галаву перакінуў праз плот
Пазалоту вачыма зрываць…
Помніць: летась звінелі сярпы —
Пераборысты шумны акорд…
А ў далі, нібы матавы пыл,
Па балоце — туман-малако,
І напеваў жывых пераліў,
Што не знаюць былля і мяжы…
Прыйдуць трактары ў полымя ніў,
Там, дзе некалі колас тужыў.

*1938*



Раз таварыш піша:
— Песні дзе бліскучыя?..
А мне хвоі шышак
Наскідалі кучамі…
Песняў яшчэ многа
З нашых струнаў скоціцца.
Звонам па дарогах
Разліваць іх хочацца.
На пракосы сена
Пырснуць ў далі росныя…
Вечар прынясе нам
Дыму папяроснага…
Натаміўшы плечы —
Сон туманам сцелецца.
А па Шляху Млечным
Зоры ўсё мяцеляцца.
І назаўтра — ранак
Павялічыць клопаты.
Толькі вецер раны
Засыпае шопатам…

*1937*

## Максім Багдановіч

Мора шэрай парусіны —
Жыта хвалямі ўзнялося.
З таго поля пару сініх
Васількоў прынёс з калоссем.
Стала ўтульна ў нашай хаце.
На стале «Вянок» паэта —
Вось і ўсё маё багацце,
Наш куточак ім сагрэты.
Са сцяны заўсёды юны
Пазірае Багдановіч.
Закранае ў сэрцы струны,
Такі ласкавы і новы.
І загадкавы, як зорка,
Што гарыць над родным краем.
І на бой з нядоляй горкай
Кліча. Праўдай дакарае.

*1937*

## Загарэліся іскрамі зорнымі

Загарэліся іскрамі зорнымі
Над дрыгвою балот, над разорамі
Зоры ясныя, зоры бліскучыя,
Што з зямлёю навекі разлучаны.
І шумела палоска калоссямі,
Ды шумела да позняе восені…
Не вятры праляцелі над хатаю
І не хмары — цяжкія, кудлатыя, —
Не арлы наляцелі, не сокалы —
З неба яснага, з неба высокага…
Не пыталі, ці зжаты, ці скошаны,
Ці хоць дзве засталіся гарошыны;
Не пыталі, ці ў пору пасеена,
Ці ў гумно хоць прывезена сеніна…
Засталіся пяць пар вочкаў сіненькіх,
Засталіся чакаці на вынікі…
Ды шумела, шумела да восені…
Недажата палоска калоссямі.

*1938*

## Ноччу

Зорныя стрэлы
У нетрах балотаў
Меддзю сустрэлі
Туманную слоту.
Ціха гарэлі
Аўсяныя росы
На акварэлі —
Сярэбраны россып.
Песня лунала —
І ў песенных ўзлётах,
Ў зораў крышталах
Шапталі чароты.
Рэха няслося, —
Звінела па лесе, —
Спуджаным лосем
Запеніўся месяц…
Нешта гавораць
Аб будучай долі
Шэлесты зораў
Ды з росамі ў полі…

*1937*

## Залацілася раніца

Залацілася раніца ападаючым шэлестам,
Вецер лістам іржавым дарогі прыслаў,
І не бачылі мы, як зара загарэлась там, —
Восень дробную ймглу на палях растрасла.
А ў далі патухала рабінавым полымем
Нашых бедных палёў набалеўшая сінь, —
Гэтак ніклі у цьму дні жыцця невясёлыя —
Паміж соснаў зялёных і голых асін…
Мо прыйдзецца яшчэ зімаваць недагрэтымі —
Хмары воўкам кудлатым паўзуць з-пад Карпат.
Але песню сваю дапяём недапетую
Сярод ніў залатых, пад напевам сярпа.

*1938*

## Ці то песні?

Ці то песні ў пазалоце
На аўсянішчы густым?
Ці то вецер гай малоціць,
Меддзю злітыя кусты?
Ці то з шумам адцвітання
Сэрца збуджаны парыў
Запаліў зарою ранне
Да вячэрняе зары?
Ці то ў сонечным прасторы
Сокал хмары варушыў?
Ці то радасць, ці то гора
Накіпела на душы?

*1938*

## Восень

І рассыпалась звонам —
Медным лістам з асінаў,
На вынослівых клёнах
Залаціла чупрыны.
Я і сам не паверыў,
Што наскочыла восень.
І вось тут на паперы
Шапацеў бы калоссем.
Эх, імглістая восень,
Не цябе я засватаў!
Ты ж з ваўкамі між сосен
Прыпляцешся пад хату.
На пажоўклай бярозе
Не дагледзеў я смеху…
Эх, вясне на дарозе
Я паставіў бы вехі!
А то хутка завеі
Будуць плакаць сярдзіта:
Можа, хто не пасеяў
Ані каліўца жыта;
Можа, хто без адзежы,
Можа, хто і без хаты,
Ты, марозісты снежань,
Ахінеш хіба ў вату.
Будуць вочы іскрыцца,
Будуць зоры гарэць.
Ўсе шляхі і гасцінцы
Перапутае вецер.

*1937*



Ізноў ліюцца песні, песні…
Узварушы запас крыніц,
Што яшчэ схаваны пад плесняй,
І ў сэрцы струны закрані.
Дажджэцца лепшае пары
На скамянелым жоўтым твары,
Адчуе радасць і парыў,
Можа, не я, а мой таварыш.
Так, чарадою дзён харошых
Не можна долі замяніць.
Дарогай польнаю заросшай
Пайшоў бы ў гушчу камяніц —
У Беласток або у Вільню —
На блеск — прызыўныя агні,
Якіх не зможа вецер пільны
Туманам сінім засланіць.

*1937*

## Збуджаны верш

Мы не плакалі ўчора, як ціснуў мароз.
Сёння мутнае неба не хоча звінець.
На дарозе ў сустрэчным паходзе бяроз
Мы рассталіся неяк ў тваёй старане.
За імглою імгла налятала не раз
На шляхі маладыя і вольную шыр,
Дзе заўсёды займаецца жарам зара, —
Яе вецер расхіне — не можа стушыць!
Вочы сінія вабяць цябе мо й цяпер,
І плывеш ты у думках на хвалях жытоў…
Успамінамі раннімі збуджаны верш
З грудзей вырваўся ў даль — я не знаю нашто.

*1938*

## З песняй

Можа, знаеце, — песня
Дае сілаў прыліў.
Гляньце, — смелыя весляць —
Паплылі, паплылі...
Дык чаму не пацешыць
Маладую пару, —
Між лазы і алешын
Раскудзеліць зару?
Хай сягоння мы гнёмся, —
Ды не ломімся ўсе!
Але вось — зарунеўся
Маладняцкі засеў!
І на той на дарозе,
Што палын заглушыў,
З песняй мы пабарознім
Камяністую шыр.

*1938*

# Пра сэрца

Зялёны край. Сінее даль.
Ім кланяюся ў пояс.
З маленства сэрца ім аддаў —
Яму ж няма спакою.
Ледзь вецер гайдане сасну
І пах нясе жывіцы —
Яно зрываецца са сну,
Каб неспакойна біцца.
Жаўрук зазвоніць — не кажы,
Не затрымаеш дома.
На Шчару глянеш — задрыжыць,
Плыве туды, на Нёман.
З праменняў ранішніх, касых
На травах пазалота.
Калі пачуе спеў касы —
Давай яму работу!
Пра барацьбу з ім гавары,
Пра шарахценне кельні.
Яно гатова сталь варыць,
Прайсці праз жар пякельны.
І сэрцу ўсё кароткі дзень
Зімою, як і ўлетку.
Шпікі ж дастаць хочуць з грудзей
І пасадзіць у клетку.
І калі там яно памрэ,
То застануцца песні,
Што напаўняюць шумам рэк
Прасторы напрадвесні.

*1938*

## Сялянскі паэт

Выйшаў з плугам на палетак,
Так, як водзіцца ў народзе, —
То экзамен для паэта
У працоўным асяроддзі.
І ні кроку ўбок — наперад,
Хай гарыць душа паходняй!
Кінеш зерне на паперы —
Стане песняй навагодняй.
Новы год… Дастойна стрэне,
Можа, шчасце ў хату гляне…
На каня! І ногі ў стрэмя!
Не паэт ён без змагання.
Пра сябе ён мала дбае:
Абы добра ўсім жылося.
Можа, ніва залатая
Летам буйна закалосіць.

*1936*



Восень, восень, восень…
Гаманілі дрэвы.
Не шуміць калоссе
Шумам і напевам.
Не жартуе ў полі
Вецер з васількамі…
Голыя таполі…
Ў сэрцы нібы камень.
Хутка па-над лесам
Хмары косы звесяць,
Зорную завесу
Не расхіліць месяц.
Ды вярнуцца мусіць
Вогненная сіла,
Што для Беларусі
З сонцам закацілась!

*1936*

## На бруку

Штось закралася ў душу — не знаю, —
Мо трывога за лёс нашых сёл.
Шэрай восенню з песняй па краю
Я паеду аддаць ёй усё…
Беларусь!.. Не, не будзеш ніколі
Па-за межамі з торбай хадзіць!
Сёння ў даль з-за густых частаколаў
На сінеючу даль паглядзі.
Гэта зоры рассеяны густа,
Каб прарэзаць туманаў плыты,
Каб калоссе зары з нашых пустак
Зашумела ў агнях залатых.
Ці не радасць прыйдзе пасля суму,
Ці не ўдараць ў званы пасля сну?
Не нам думу горкую думаць
Спатыкаючы нашу вясну!..

*1938*

## Касьба

Навакол трывожны шум,
Пякуць сэрца раны.
З ранку з самага кашу
Не сабе, а пану.
Эх, калі пачнуць звінець
Косы звонка ў сёлах?..
Разлівае чырвань-медзь
Свежым раннем золак.

*1936*

## На этапнай дарозе

Думкай даль авеяна
Над жытнёвай ніваю.
Я пытаю: дзе яны,
Тыя дні шчаслівыя?
Пагражаюць кратамі,
Мае рукі звязаны.
Развітацца з хатамі
Шчыра абавязан я.
Вочы сінь паклікала
Увысь падняцца сокалам —
Шырыня вялікая,
Шырыня навокала.
Песня там пасеяна —
Чую пералівы я…
Зноў пытаю: дзе яны,
Тыя дні шчаслівыя?
І сярпом, і молатам
Шчасце звоніць весела,
Дзе ў краіне волатаў
Волі сцяг развесілі.

*1936*

## Мая песня

Эх, песня мая вольная,
З табой яснейшы дзень,
Хоць ты і з падняволеных,
Прыціснутых грудзей!
Хоць ты сягоння складзена —
Заўсёды у душы
Імкнеш часінай згаданай
У зорыстую шыр.
У кузні звоніш молатам,
Гартуеш просты люд.
І сыпле сонца золатам
На шэрую зямлю.
І дні жыцця калючыя
Зразорылі мне твар.
Не толькі я — замучана
Працоўная братва.
Але іскрацца вочы іх
Ў змаганні і агні:
Сяляне і рабочыя
Запаляць сонца дні.
Чаму ж змаганню ўпартаму
Не скласці сёння гімн?
Над Вільняй, над Сувалкамі
Развесім мы сцягі.
З бадзёрай песняй новаю
Працоўныя рады
Ідуць і заваёўваюць
Заводы, гарады.

*1936*

## Верасень

Серабрыстая нітка —
Павуціна плыве.
Нехта прозалаць выткаў
Па зялёнай канве.
Гэта верасень сёння
Пахадзіў па лістах,
Пераскочыў сасоннік,
Нібы кнігу лістаў.
На раскрытай старонцы
Размалёўваў дубы,
Перад захадам сонца
Ў мох рассыпаў грыбы.
Пах антонавак свежых…
«А хто лета забраў?» —
Лось бяжыць ў Белавежу
Распытаць у зубра.
Мы сарвалі ўсе ружы,
Сумна ў полі пустым.
Не сумуй, лясны дружа,
Прыйдзеш — сена дадзім.

*1938*



Часамі сумна быць паэтам
У нашы дні, як ў цёмным боры,
Дзе сплыла кроўю на палетак
Ўся моладасць зары з задорам.
Ды не таму, што на рабіне
Асыпаўся ўвесь жар караляў, —
Што некаторых погляд стыне
Ў задымчывых тугою далях…
Але калі павее вецер
І хмары ў далях тых затопе, —
Я прынясу пахучых веццяў
І пасаджу на чорны попел.

*1939*

## Сон

Мяне на полі сон змарыў,
І гуслі гралі — струны-межы,
І з тонкім звонам камары
На пах зляцелі крыві свежай.
І мне прысніўся сон такі:
Што быццам я ля Гвадарамы
Пасля змагання на штыкі
Прапаласкаў рубцы і шрамы.
І пасля доўгіх перамог
Паплыў туды, дзе край сінее,
І, скінуўшы сваё ярмо,
Ступіў на Новую Гвінею…
І вось — прачнуўся на мяжы:
Крычалі конікі аб нечым,
І нечакана пераджыў
Яшчэ адзін галодны вечар.

*1939*

## Вясёлай раніцай

Вясёлай раніцай цвіце
Расою вымытая рута.
Парву я тысячу ніцей,
Што лучаць з горкаю атрутай.
Як палахлівыя да дня
Згарну рукамі страхі-цені,
Тады з паўночы на паўдня
Збяру я зоры-летуценні.

*1939*



Чым прыкавала ты, вёска, мяне —
Доляй сваёй ці нядоляй?
Ведаю — смутак, бяда праміне
Ветрам гуляючым ў полі.
Не падкрадзецца зара, як калісь, —
Самі яе мы прывабім...
Будзе кружыць ападаючы ліст
Ў хор заміраючы жабі.
Ды вераб'і на гумне на страсе
Спрэчку аб нечым падымуць,
Толькі адходзячых вырай гусей
Знікне балюча у дыме.
І распаложыцца снежная бель
Ўзорам бялейшых палотнаў —
Тады, можа, песню злажу я табе
Рукой мазалістай і потнай.

*1939*



Трапяткімі лісцямі каштана
Не пакрыеш даўжыню пуцін,
Што ляглі ў закінуты паўстанак
І што далей трапяцца ў жыцці.
Не прыпомню быўшае сустрэчы,
Толькі помню жытнія палі…
І тады нікому не пярэчыў,
Калі нават вецер запыліў.
Не спрачаўся з сонцам пажаўцелым,
Што тваё цяпло я больш адчуў…
Пакахаць паэта захацела,
Каб сказаць праз месяц: «Не хачу».

*1943*

## Дык прыходзь

Дык прыходзь — і будзем слухаць
Ветру свіст і шэпт начы.
Улягласяя завіруха
Ў пажарышчах адпачыць.
І з курганаў, і з развалін —
Зоры вечныя ўгары.
І аб чым яны пазвалі
Гэтай ночкай гаварыць?
Аб далёкім і цудоўным
Дні пад нумарам адзін?
Растрасае хмарак воўну
Вострым рогам маладзік.
Ці аб казачна-чаканай
Перамозе нашых сіл?
Дык прыходзь — для свежых ранаў
Толькі радасць прынясі.
Дык прыходзь — ніхто не ўбачыць.
Людзі мучацца у сне.
Цёплых вуснаў шэпт гарачы
Разагрэе белы снег.

*1943*

## Верш

Агорне сум мяне часамі,
І цяжка робіцца тады.
Чаму — дагадвайцеся самі,
Калі вы з сэрцам маладым.
Згадаеце — і толькі слова
Сваё пашлеце мне ў адказ.
А я… А я ізноў нанова
Пачну жыццё наступны раз.

*1943*

## Я выйду ў поле рана

Агнём сплываюць раны
З маёй душы сягоння…
Я выйду ў поле рана,
Дзе ветры хмары гоняць.
Другі раз восень лістам
Асыпала загоны…
Я помню, як калісь там
Жыццё звaніла звонам.
Я помню… Ўсё мінула.
Ды вернецца, напэўна,
Ізноў вясёлым гулам
І з песняй звонкаспеўнай!
Бо мы ідзём няўхільна
У бітвы агнявыя.
Над пропасцю магільнай
Хай вораг дзіка вые.

*1942*

## Ліст у Нямеччыну

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.
Ці чуў ты, таварыш, пра тое,
Што нашае вёскі няма?
Фашысты яе падпалілі,
Пабілі малых і старых.
Чарнеюць курганы-магілы
Усюды — ў палях і ў бары.
Увесь мазалісты прыбытак
Аграбілі немцы ўвясну.
Варожаю куляй прабіты,
Твой бацька навекі заснуў.
Пішы, як жывецца ў няволі…
Заводы і склады палі…
А сэрца, налітае болем,
Няхай па Радзіме баліць.

*1943*

## Аганёк

Хата схілена, забыта
Ў шуме палыну.
Запрацованы здабытак
Вораг праглынуў.
І за лесам, і за садам,
На глухой шашы
Партызанская засада —
Не мінеш, фашыст!
А як лёгкі стук у дзверы —
Гасне аганёк.
Хоць не бачыць, але верыць,
Хто ідзе здалёк.
Заўтра сонца рана ўстане,
Высахне раса.
А як вечар — зноў туманам
Ляжа паласа.
Аганёк у цьмянай шыбе…
І шляхі, шляхі…
Беларускі край — пагібель
Ворагам ліхім.

*1943*

## Горад у тумане

Горад у тумане. Не адбіты.
Калі ж золак сыпне чырвань-мак?
Мне лягчэй было б цябе забыць так,
Сэрца ж стукае: няма цябе, няма.
Будзе дзень. Над вызваленым краем
Зноў сцягі ад ветру зашумяць.
Асцярожна буду браць за край іх
І прыгадваць, называць імя.
А пакуль што на сцяжынках вузкіх
Перад намі вербы хіляць стан.
Раяць людзі з вёсак беларускіх:
«Сумаваць аб прошлым перастань».
І калі пасля паходаў — вольны —
Прыпаду на родную мяжу,
Раскажу аб тым, што выйграў войны,
А каго я страціў — не скажу.
Толькі ўжо не выйду на змярканні,
Як калісьці, на знаёмы тракт,
Каб сустрэць цябе на скрыжаванні,
Распасцёршы рукі, як вятрак.

*1944*



...Перамога! Перамога!
Абіваем з ботаў пыл.
І на пройдзеных дарогах
Ставім новыя слупы.
Вецер гутарыць з ліствою,
Ад кастра адносіць дым.
А слупы ўсе пахнуць хвояй,
Нашым лесам маладым.

*1948*

## Гляджу на лес

*Памяці жонкі,*
*замучанай фашыстамі*

Далёкі лес — зялёны грэбень,
І пасмы хмарак залатых
На ранішнім прыгожым небе, —
І ўсё глядзіш на золак ты.
Такою я цябе запомніў,
Такою ты тады была.
Нібы сама з тых яркіх промняў
Сягоння да мяне прыйшла.
А я стаю ўсё на паверцы,
Як верны друг твой, як салдат.
Заўжды ў маім збалелым сэрцы
Гарыць агонь надзей і дат.

*1949*

## Другу юнацтва

Праз лес ідзе то моцны гул,
То цішыня нямая.
Дарыць я кнігу не магу.
Чаму? Яшчэ не маю.
Знаёмы мне дарогі, гаць
І ціхі гоман клёнаў.
Мне даручылі вартаваць
Радзімы шум зялёны.
Мінаю гладкую шашу,
Іду паміж снапамі.
А пакуль кнігу напішу —
Шлю верш табе на памяць.

*1962*

## След рукі

Зямлю спацеўшую накрыла
Начная стома. Цішыня.
А я ляцеў яшчэ на крылах
Туды — за водбліскамі дня.
Яшчэ віднеўся лес, як прасла.
Ледзь-ледзь ружовы небасхіл.
І толькі думка ўсё не гасла
Пра новы ўзлёт юнацкіх крыл.
Хоць чалавек у вечнасць кане,
Але пакіне след рукі.
Хачу, каб нашае спатканне
Пайшло за думкай — у вякі.

*1962*

## Малюся я

За маладым зялёным гаем
Бяжыць сцяжынка па траве.
А над сцяжынкаю мільгае
Блакітнай безданню Сусвет.
Зіхцяць на стужцы ў зоне рацый
Далёкіх пазыўных сляды,
Сляды упартай, мужнай працы —
Працяжнік, кропка — як гады.
А мы жывём не так далёка,
Зусім без сувязі, без слоў…
Малюся я, каб пасму к зоркам
З акна ў Сусвет не занясло.

*1962*

## Шчасце

Плыву я па Шчары
Ці стану на камень,
Мне просіцца ў душу
Прастор-шырыня.

Ды шчасце не ўзяць мне
Сваімі рукамі,
Як папараць-кветку,
Як прабліскі дня.

Аднак я шчаслівы
Як, можа, ніколі.
Мне вецер прыносіць
Густы цветабой.

Гарачае сэрца
На родным прыволлі,
Радзіма, заўсёды
Напоўню табой.

І шчасце кругамі
Расходзіцца шырай.
У клетку яго
Не пасадзіць ніхто.

Маланкай імчыцца
На ТУ-104,
А часам дарогай
Ідзе пехатой.

А нашы дарогі!
Ім хіліцца збожжа
І коса кладзецца
Бярозавы цень.

Ці хочаш, ці не,
А цябе заварожыць,
Калі Беларусь
Майскай кветкай цвіце.

*1962*

## Прыляцелі снегіры

Я пайшоў бы ўслед за летам,
Але край застаўся тут,
Дзе я ласкаю сагрэты,
Дзе лугі вясной цвітуць.
У чырвоных фарбах восень.
Што ж — і гэта ёсць краса:
Паміж сосен — неба просінь,
Пах мядовы ў верасах.
Па сваіх іду дарожках —
Партызанскіх, дарагіх.
Вось знаёмая бярозка,
Ціхай рэчкі берагі.
Колькі тут крыві праліта!
Сенажаці і палі.
Наша воля, працавітасць
Зробяць шчасце на зямлі.
Вось і снег упаў абрусам,
А усё наўкол гарыць.
Па рабінавыя бусы
Прыляцелі снегіры.

*1964*

## Сасна

Ўсё вышай, і вышай, і вышай!
Радкі бярэ з песні сасна.
Цяпер ёй чупрыну калыша
І сілу дае ёй вясна.
Дзе сонца разбілася ў росах
(Мінае за годам гадок),
Збірае сасна гэты россып,
Ізноў бярэ з песні радок.
А потым пахучай жывіцай
Той россып сцякае з сасны…
І як тут, скажы, не дзівіцца
І светлыя мары не сніць!
Нікім не разбуджана ціша.
Сасне і цяпер не да сну —
Ўсё вышай, і вышай, і вышай!
І часу не знойдзе заснуць.

*1964*

## Жураўлі

На дарогі і рэчкі
Восень кідала цень.
І бярозы, як свечкі,
Дагаралі ўвесь дзень.
У нябёсах — як стрэлы —
Жураўлі, жураўлі,
Што знянацку сустрэлі
І праз сэрца прайшлі.
Паляцелі далёка.
Я іх смутак адчуў.
Ах, той жаласны клёкат, —
Быццам сам я лячу.
І пад крык жураўліны,
Што асеў на лясы,
Сумавалі яліны,
Сумавалі ласі.
І чаго я не маю —
І палі і бары!
Нават поўнач нямая
Ў яркіх зорах гарыць.
Мне і сонца пасвеціць
Праз асінавы шум.
І хаджу я па свеце,
Сум і радасць нашу.

*1962*

## Паэзія

Лясная даль — сасоннікі,
Трава — званочкі сінія.
На небе з ясным сонейкам
Ляжаць шляхі гусіныя.
Сарваны з плота весніцы,
І вецер вые ў коміне.
А ты, мая равесніца,
Пра радасць мне напомніла.
Што ж, гавары аб радасці —
Калі дамоў хто вернецца.
І я наперад рад ісці,
Бо ў будучыню верыцца.
І ў полымя палезу я
Супроць любога ворага,
І ты са мной, паэзія, —
Вось гэта мне і дорага.
Ідзём насустрач сонейку,
Памераемся сілаю...
Сасоннікі, сасоннікі
З зялёнай парусінаю!

*1962*

## Унучка рыбака

Садзіцца з сонцам рана ў лодку,
Прыначку з клумка дастае.
Вакол разносіць пах салодкі
Вяслом закрануты аер.
Дзесь у чаротах плюхне качка,
Па лозах пройдзе вецярок…
Ты задаволена, рыбачка, —
Зрабіла першы ў працы крок.
Гуляюць хмаркі ў небе сінім,
І ледзь хвалюецца рака…
Так моцна хочацца дзяўчыне
Адведаць шчасце рыбака.

*1959*

## Спарышы

Поле ўкрыта снапамі
Залатымі, як восень.
І бяру я на памяць
Спарышовы калосік.
Я нясу асцярожна
Гэты здвоены колас,
А шурпатая пожня
Ногі босыя коле.
Ну і як тут не верыць:
Спарышы — гэта шчасце.
І ў дзень заўтрашні дзверы
Адчыняю я насцеж.

*1959*

## Слонім — мой родны горад

Мной перажытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё даражэй.
Ціхія воды Шчары,
Песні гарачы парыў.
Хто ў барацьбе не марыў
Аб шчасці мірнай пары!
Свецяцца зоры ярка,
Ў вокнах ярчэй агні.
Будзе ў дамах і ў парках
Вечная радасць званіць.
Хай перажытае гора
Памяць мая беражэ.
Слонім, мой родны горад,
Ты мне за ўсё прыгажэй.

*1960*

## Тры сасны

На мурамскай дарожцы
Стаялі тры сасны…

*З народнай песні*

Адкідаю прасла вясніц —
І адразу не адзін:
Тры сасны з далёкай песні,
Не, не з песні, паглядзі!
Ля дарожкі, дзе імгліцца
Маладосці далячынь,
Адчуваю, як ігліца
Села ціха на плячы.
Удыхаю водар смольны,
Пах ядлоўцавых кустоў.
Ў сэрцы просіцца няўмольна
Рэха дзён трывожных зноў…
Мокнуць ногі ў росных травах.
Мне здаецца: вунь будан!..
Я ў тваёй цішы, застава,
Зноў стаю, бы партызан.
Хай бягуць няспынным цягам
Дні і ночы, нашы сны.
Паўтарыць хачу прысягу,
Вось і сведкі — тры сасны.

*1964*

## Лясная ідылія

Вецер прайшоўся па соснах —
Па клавішах залатых.
І ловіш той звон дзівосны
Задумы і дабраты.
Лес — гаспадар, прыяцель
Звяроў і птушак лясных.
Слухаеш — стукае дзяцел,
Кідае шышкі з сасны.
І што тут дзівіцца: родам
Я з гэтых лясных мясцін.
І гоман люблю, і водар,
І шум маладых ялін.

*1960*

## Блакітная хусцінка

Гармонік доўга цінкаў
На тонкіх галасах.
Блакітная хусцінка
І чорная каса.
І сіні летні вечар,
Туман, як белы дым.
Аб долі чалавечай
Не думаў я тады.
Ці шчасця быў пачатак —
Таксама не скажу.
А ноч на лес зубчаты
Накінула кажух.

*1962*

## Лісткі календара

Як толькі з хаты выйду я —
Насустрач мне зара.
Штодзень на вецер кідаю
Лісткі календара.
І толькі той не страчаны,
Што да цябе вядзе.
Пачуццямі гарачымі
Асветлен гэты дзень.
Чакаю год наступны я,
Зрываючы лісткі.
А ты ўсё недаступная…
Зара гэта ці ты?

*1957*

## Мосцік

Пералескі радзімы,
Рэчка, ціхі аер.
Тых мясцін, што прайшлі мы,
Не пазнаеш цяпер.
Помню мосцік. Прыселі.
Што ні слова — агонь.
Пасля ў горад з аселіц
Перайшлі праз яго.
Мосцік той ля крыніцы
Я ж ніяк не міну.
Еду — мушу спыніцца
Хоць на пару мінут.
П'ю ваду, як прычасце,
Дарагая мая.
Тут свабоду і шчасце
Здабывалі ў баях.

*1957*

## У роднай вёсцы

Калі я з хаты выйду рана —
Шумяць чырвоныя сцягі.
Перада мною светлы ранак —
Такі прыгожы, дарагі!
І трактарыст па родным полі,
Нібы на танку едзе ў бой.
Не разлучуся я ніколі
З сялянскай дружнай грамадой.
Я пагляджу ізноў з узгорка,
Як спее жыта на палях.
І ведаю, што долі горкай
Не ўбачыць вёска Новы Шлях.

*1950*

## Мой горад

Мой горад на завулках
Рассыпаўся ў бакі.
Смяецца рэхам гулка
Ў даліне ля ракі.
Яго вясна сустрэла
Ў расквечаных садах.
Наўкол памаладзелай
Звініць, сінее даль.
А вецер набягае
З ваколіцаў лясных,
І пахне свежым гаем,
Жывіцаю сасны.
Жыцця і песень творцы,
Будуем горад мы.
Ўзнімаюцца пад сонца
Дамы, дамы, дамы.

*1957*

## Валянціну Таўлаю

Ты любіў такое хараство,
Каб жыццё кіпела ў родных хатах.
Бачыў часам неба ты праз ствол
Баявога друга аўтамата.
Сцягу нашаму шумець вякі
І звінець тваім крыштальным вершам,
Бо праносіў сцяг ты напраскі,
У паходзе быў заўсёды першым.
Зноў гарыць у памяці Мадрыд,
Аб якім ты сніў тады на нарах…
Шчасце стрэўшы, плакалі наўзрыд
Вераснёвым ранкам Буг і Нарач.
Ўспомнім тых, каго між нас няма,
Хто загінуў, ды не здрадзіў справе…
Будзем вечна славіць цёплы май
І кастрычнік вечна будзем славіць.

*1957*

## У лесе

Ходзіць рэха па лесе
І знікае паволі.
Нехта шышкі развесіў
На ялінавым голлі.
Ты праходзіш палянай,
Дзе сунічная россып,
Баравік часам гляне
Праз імшаныя росы.
Ты з вавёркаю дружыш,
Не пакрыўдзіш казулю,
Хоць асцём сваім ружа
Працінае кашулю.
На мурог ляжаш ніцма —
Ўсе загояцца раны.
Напаўняе жывіца
Церпкім водарам ранак.
Потым выйдзеш з-пад кронаў
На узлескавы ўзгорак,
На шляху ўбачыш — клёны
Прабіраюцца ў горад.

*1960*



Адшумеў прастор калоссем,
І туман паплыў імглісты.
Мне здаецца, гэта восень
Асядае мокрым лістам.
А так хочацца блакіту —
Неба чыстага кавалак.
Вось такога, як адбітак,
Што ў вачах ты захавала.

*1961*

## Ключык сіні

1

За дарогай за шырокай —
Лесу вымытая сінь.
Песня ходзіць адзінока
І губляе галасы.
Адгукаецца ёй шчыра
Ўся лясная далячынь
І пад зорным небам шырай
Разліваецца ўначы.
Хто не быў у лесе — казка.
Толькі ўстанеш на зары
І пачуеш: калі ласка,
Пад зялёныя шатры!
Напішы пра даль лясную,
Дзе ступаў калісьці ты,
Напішы, што там пануе
Мора кветак залатых.
Ходзіць месяц… Жоўты ключык
Расцвітае ў лоне траў
Ля ядлоўцавых калючак,
Дзе спрадвеку расцвітаў.
Кажуць людзі, ключык сіні
Зможа шчасце перадаць.
І шукай па ўсёй даліне,
Калясі лясную даль.

2

Даль бясконцая лясная.
Колькі сонца у бары!
Што рабіць мне з ім — не знаю,

Хоць за пазуху бяры.
Награваецца — і вышай
Абтрасаць ідзе расу.
Я ж яму насустрач выйшаў,
Трэба — далей панясу.
Панясу туды, дзе крочаць
Ад сасны і да сасны
Пара ясных сініх вочак —
Сімвал ранняе вясны.
Растапіць яны гатовы
Ў чэрствым сэрцы нават лёд…
Ну, а бровы — то не бровы,
Стрэлы вострыя ўразлёт.
Прыадкрытыя ледзь вусны,
Хвалі косаў — чорны шоўк…
Мо хто скажа, для спакусы
Зранку я сюды прыйшоў?
Я люблю вясну і жарты,
І ў вачах бяздоння сінь.
Ды адкуль бярэцца жар той
З-пад навісшае касы?
І адкуль такая ўсмешка?
Заварожыць — толькі глянь.
Эх ты, бор! Лясная сцежка!
Ты да сэрца пралягла.

*1960*

# Вера

О лета, цудоўнае лета!
Зару даганяе зара.
І песень птушыных, і кветак
Набраць не магу я за раз.
Спачатку іду я сцяжынкай,
Рамонкі між пальцаў лаўлю…
Сустрэць бы ў блакітнай хусцінцы,
Якой не сказаў я «люблю».
А потым саджуся пад клёнам —
Хай скачуць навокал дразды…
Праносяцца віхрам шалёным
Аўтобусы ці паязды.
Падпальвала восень асіны —
Здаецца, і ты на агні.
А тут яшчэ крыкам гусіным,
Як ніткай, прастрочаны дні.
Жывыя малюнкі, эскізы!
Іх буду да смерці нясці:
Прырода, як песня, без візы
Па ўсім маім ходзіць жыцці.
Хадзіў я на штурмы фарпостаў,
Скідаў пад адхон цягнікі.
А тут невялікая постаць
На момант зрабіла нікім.
Вядома, і гэты выпадак
Не кіне бязлітасна ніц —
Я буду схіляцца і падаць
Прад люстрам гаючых крыніц.
Удосталь нап’юся і ўстану,
Лясную прайду далячынь.
А ты, невялікі паўстанак,

Усе цягнікі палічы.
Лаві тэлеграмы і пісьмы,
Глядзі у абодва бакі.
І ведай: не толькі калісь мы —
Заўсёды з табой землякі.
Заўсёды падзелімся весткай,
Паглядзім патоптаны жвір.
Жыві за лясной занавескай,
Заўсёды шчасліва жыві!
О лета, цудоўнае лета!
Зару даганяе зара.
І песень птушыных, і кветак
Набраць я прыйду яшчэ раз.

*1960*

## Пароль

— Пароль?
— Лясная сцежка.
— Напрамак?
— Добры Бор.
Прыветлівая ўсмешка,
Настоены чабор.
Убок сышла, направа,
А я стаю чагось.
Апроч ваеннай справы
Ў мяне і сэрца ёсць.
І кожны раз на ўзлессе
Бяру з сабой пароль.
Птушыных столькі песень
Вясенняю парой!
Былі баі, сустрэчы,
І патэфонны вальс,
І многа светлых рэчак…
Трансваль мая,
Трансваль…

*1962*

## Пачатак шляху

Рачулка сіняя, як жыла,
Што набрыняла ад дажджу,
Заззяла срэбрам, не тужыла.
А я задуманы хаджу.
Хаджу па той сцяжынцы роснай,
Дзе поле жытняе ляжыць,
Дзе павучок раскінуў кросны
На дзвюх былінках на мяжы.
Дзе вецер дыхаў мокрым пылам
І пах, як зрэзаны качан.
Пад гэтым мяккім небасхілам
Калісьці шлях я свой пачаў:
Тым майскім ранкам у прыполе
Прынесла маці — у сяло.
І вось, як выйду ў луг і ў поле, —
Яны бяруць мяне ў палон.

*1977*

## Роднаму краю

Усё тут перажыта:
Вайна і звон акоў.
На полі — жыта, жыта
З вачамі васількоў.
О край бацькоў, пацеш ты,
Дай кропель дажджавых,
Дазволь па роднай сцежцы
Ісці, пакуль жывы.
Кастрычнікам ці маем,
Як сонца, грэй, свяці.
А ўсё, што ў сэрцы маю,
Табе я прысвяціў.

*1977*

## Абеліскі

Плыве спакой здалёк і зблізку:
Прыціхлы бор, суцішны крок.
І толькі зоркі з абеліскаў
Узрушаць мне душу і кроў.
Не патухае ў сэрцы рана
З тае далёкае пары,
Калі ўзарвалі бомбы ранак
І смех вясёлай дзетвары.
І вось стаю, былое ўпарта
Вяртае да тых дзён мяне.
І не сысці мне з мірнай варты,
Пакуль трывога не міне.

*1978*



Па-над Слонімам стыне
Неба — сіні плакат.
Я стаю на вяршыні,
Над вачамі — рука.
Сонца ўсходзіць за лесам —
Іскры пырскамі ўвысь.
З-за зялёнай завесы
Ўдаль плывуць паплавы.
Можа, полк з атаманам
Тую даль варушыў?
Ці палотны туманаў
Разыходзяцца ўшыр?
І блішчаць, нібы пікі
(Ўсё гляджу з-пад рукі),
Сонца сыплюцца блікі
На праталкі ракі.
Полк з уяўнасці, чараў
Адышоў пакрысе.
І адкрылася Шчара
Ў непаўторнай красе.

*1979*

## Песенны край

Праходзяць леты, зімы,
А ў памяці — сляды.
Ці ж мог бы без Радзімы
Пражыць усе гады,
Якія лёс прызначыў,
Як беззваротны дар?
Былі, былі і ўдачы,
Ды адляцелі ўдаль.
Таму і цягнуць далі,
Дзе сіненькі лясок
У шышках, бы ў медалях,
Пад сонца калясом.
Малюся за ільготы,
Што лес прываражыў.
Сярод яловых готык
Заўжды я не чужы.
Калі на сэрцы млосна,
Каб смутак не прыліп,
Ўдыхаю водар соснаў
І чую сіл прыліў.
На партызанскіх сцежках
Не знойдзеце залом —
Квітнее наша ўсмешка
Ўсім ворагам назло.
І не крадуся з лесу
На поле, як калісь,
Рассоўваю завесу —
Жывы, зялёны ліст.
А поле каласіцца
Да самае шашы.
Далей — блакітным сітцам

Цвіце льняная шыр.
Яе ніхто не засціць,
Не стопча нам траву.
Ізноў убачым шчасце —
Камбайны паплывуць.
Як камбайнёр рукою
Вазьме штурвал ямчэй, —
Бурштынавай ракою
Пшаніца пацячэ.
І новы хлеб, як сонца,
Мы пакладзём на стол.
Наш хлеб мацней за стронцый
Разоў, можа, у сто.
Бо што без хлеба значыць
Рабочы і паэт?
Хто з боханам гарачым,
Таму — шырокі свет.
Як добра: песня поруч
Са мной ідзе ў нагу.
Ёй адгукнецца з бору
Сасновы перагуд.
І радасць славіць будзе
Вясну, птушыны грай…
А як засну — разбудзіш,
О песенны мой край!

*1977*

## Лясны паклон

Вятры сняжынкі ў полі гналі,
Працяжна вылі, бы знарок.
Навокал ноч. І мы не зналі,
Што здарыцца, як ступім крок.
Засады ў полі не чакалі —
У полі змерзне подлы гад.
Мароз мацнее, шчокі паліць,
Дранцвее, курчыцца нага.
Уперліся ў чыгункі насып —
Не то ісці, не то чакаць?
З фашыстам стрэліся сам-насам,
Ды нам не трэба «языка»...
Перамахнулі цераз рэйкі,
Як збоку кулямёт ажыў.
І працялі на момант нейкі
Хмызняк чырвоныя нажы.
І нібы свет згарнуў хтось жменяй
І сціснуў скроні да крыві.
Мы папаўзлі паміж каменняў
(Прымі падзяку, ледавік!).
І клікаў лес: хутчэй пад сховы,
У зелень кронаў — церпкі пах.
Ізноў я той хлапчук вясковы,
Што быў заблытаўся ў снапах.
Дзяцінства ўсё, як на экране,
Пратупацела басанож
І цеплынёй далёкіх раніц
Змякчае жудасную ноч.
Нарэшце лес — бярозы, ёлкі.
Пападалі мы зноў у снег.
На гэты раз спачыць каб толькі

На гэтай яве, нібы ў сне.
Але мароз даймае крута.
І нас разведчык вёў далей:
— Заманліва зайсці на хутар,
Ды штосьці голасна ў сяле.
Ішлі сцяжынкамі па лесе —
Асіннік голы, беразняк.
Высока вецер куралесіў,
Бы падаваў умоўны знак.
І мы прайшлі на знак дзівосны.
Яліна голле разняла,
Нібы прыкрыла свае вёсны,
Тугу развеяных балад.
І расхіліўшы тое голле,
Што дасягала да зямлі,
Нібыта ў дом, зайшлі павольна.
Душа, ад радасці замры!
Нас чатырох. А можа сорак
І пяцьдзясят змясціцца тут.
У завіруху тут не сорам
Адчуць лясную дабрату.
Трава пажухлая пад кронай,
Паклаў хтось сена ля ствала.
І ў гэтай хаце, век зялёнай,
Нібы зіма і не была.
Тут снег не сыпаўся на галаў
І дождж не падаў за каўнер.
Мог дакучаць часамі голад,
Ды ён не вечны — праміне.
Лічы, шанцуе партызану,
Бо пад рукамі дровы ёсць.
І хоць сюды ён трапіў нанач,

Ўсё ж гаспадар ён, а не госць.
І ўміг агеньчык дзіўнай кветкай
Расцвіў на вогнішчы старым.
Спакойнай ноч вам, палеткі!
Спакойнай ночы, хутары!..
Да першае вайны, як пушча,
Тут красаваўся стройны лес.
Алень выходзіў з гэтай гушчы,
Ліса вадзілася, але
Пусціў пілу ў жывое цела,
Праўляў грабежнік «новы лад».
І толькі елачка ўцалела,
Бо невялікая была.
Расла яна тут на прыволлі,
Увысь расла, расла ўшыркі.
І птушанят гайдалі ў голлі
Вясной і летам вецяркі.
І вось цяпер, у час суровы,
Народных мсціўцаў, як дзяцей,
Прымае шчыра ў свае сховы,
Пакуль фашыстаў згіне цень…
Прайшло нямала мірных вёснаў.
Калі дакладна — трыццаць пяць.
Жывём у краі мы дзівосным:
Спакойна людзі нашы спяць.
Але нічога не забыта:
Ні тыя зверствы, ні разбой.
Усё запісана, нібыта
Застыла жудаснай разьбой.
І хоць гады ляцяць імгненна,
Бацькамі сталі ўжо сыны,
Мы знаем кожнага пайменна,

Хто не вярнуўся з той вайны.
Як бура снежная завые
І замятае ўсе сляды,
Перад вачамі, як жывыя,
Ідуць таварышы туды,
Дзе некалі стаяла ёлка —
Гасцінны дом для партызан.
Дым лезе ў нос сасновай смолкай,
Як трыццаць год таму назад.
Дыміць касцёр, як кепскі бровар
Ці смалакурня за сялом.
Стаіць Валодзя, хмурыць бровы,
Збірае Міця буралом….
Зрывала ліст апошні восень
З асін прыглушаных, з бяроз,
Калі ізноў мне давялося
Прыпомніць тое, што збярог.
Даўно няма ўжо той яліны.
Мо скрыпкай стала ў скрыпача,
Каб граць «Па ўзгорках і далінах»,
Каб жар душэўны не зачах.
Стаю на гэтым самым месцы,
І нешта сэрца апякло.
Я не магу на пень той сесці,
Паклон табе, лясны паклон!

*1979*

## Дзівосны свет

Здаецца, вельмі проста
Дастаць рукой блакіт.
Ступіў за тую ростань —
Дзівосны свет такі:
Край неба адступае
І кліча ўсё далей,
Дзе лес — піла тупая —
Гамоніць весялей.
Было такое лета
Ў дзяцінстве. І не раз
Я рваўся на край свету —
За вёску са двара…
А потым, калі вырас,
Пазнаў цану жыцця.
Чакаў вясною вырай,
Ці птушкі не ляцяць.
У родны край любімы,
Што порахам прапах,
Што засланяўся дымам —
Гарэў, ды не прапаў…
І дачакаўся змены
Пасля ліхіх гадзін.
Унучак гільзу ў жмені
Трымае: «Паглядзі!»
Гарэзны непаседа
Ў пяску начысціў медзь.
Не ведае, што дзеда
Мінула з гільзы смерць.

*1977*

## У зімовым лесе

Лес зімой прыгожы, дзіўны —
Цішыня і ўсюды бель.
Там без песень пераліўных
Жыве шэры верабей.
Пераскоквае сініца
З густой елкі на сасну.
Пэўна, птушцы ноччу сніцца
Пра зялёную вясну.
А наогул, лес — загадка,
Калі ты ў ім першы раз.
Ужо вельмі роўна, гладка,
Хоць зімовая пара.
Як уважліва паглянеш
Навакол туды-сюды,
То пакажа снежны глянец
Незлічоныя сляды.
Нехта ціш тую парушыў
(Крык савіны прагучаў).
Скочыў дзік, падняўшы вушы,
Праз яловы праз гушчар.
А ўгары мільгнула вёртка —
Хвост паджары і густы.
Гэта рыжая вавёрка
З дрэва падала ў кусты.
Нехта ў лесе, нібы ў хаце,
Моцна стукае: стук-стук.
То асіну лечыць дзяцел,
Што чуваць аж за вярсту.
Нейкі след глядзець прыйшлося,
Бы карова тут прайшла.
Гэта след старога лося

Павярнуў на біты шлях.
Потым скажаш: след, як лапаць,
Нам падкінула зіма.
То была б мядзведзя лапа,
Толькі ў нас яго няма.

*1977*

❊ ❊ ❊

Пакасілі мае лугі зялёныя
Косы сталёвыя,
вятры шалёныя.
Не шумяць яны
канюшынай, мятліцай.
Курапатка не можа
там прытуліцца.
Я са скрухай іду,
дзе травы віліся.
Ды і ногі цяжкім
свінцом наліліся.

*1980*

## Ты стала песняю

Сцяжынкай вузкаю
Між каласоў ішла —
Чырвонай блузкаю
Паказвала мне шлях.
Калі баразнамі
Я на «жалезку» йшоў,
Начамі грознымі
Ў вачах ірдзеў той шоўк.
За радасць веснюю
Не грэх згарэць душой…
Ты ж стала песняю —
З ёй не прапаў, дайшоў.

*1962–1979*

## Сонца і краты

*Прысвячаецца былым*
*вязням Картузскай Бярозы*

Па адзін бок — схуднелы араты,
Па другі — недзе сонца ўставала.
І прыціснулі чорныя краты
Сілу мужнасці, волі ў сто балаў.
Сонца ўстала, пайшло па краіне.
Чалавек жа сядзеў у падвале.
Але верыў, што мур перакіне,
Свайго ката пад цэглы падваліць.
Гэта вера мацней, чым стыхія,
Гарачэй, чым гарачая лава.
І ўзнімаліся сілы такія,
Што няволлю сатруць і расплавяць.
Пад ударамі рухне Бяроза,
І пакоціцца рэха ў Асвенцім.
І тады на шляхах і баразнах
Па-сапраўднаму сонца засвеціць…
Не стрывала напору жалеза —
Чалавек быў мацнейшы за ўдары.
Пакуль сонца праз краты пралезла,
Ён ішоў пад чырвоным штандарам.
І дайшоў ён, і добры і грозны,
Даў народам свабоду — хай свеціць!
І той факел з Картузскай Бярозы
Ён прынёс у Дахау, Асвенцім.

*1966*

## Тое поле

Вось і поле. Тое поле,
Дзе звінеў мой красавік.
Спамінаю з горкім болем
Кожны камень-патайнік:
Баразной брыду за плугам,
Покуль стукнецца ў нарог.
Паднялося ўжо над лугам,
Паліць сонца, бы знарок.
Залівае потам вочы
(Камень з бацькам дастаем).
І так хочацца ў цянёчак
Да бярозкі да тае…
А сягоння ўсё іначай,
Поле — роўная далонь.
Толькі бацька не пабачыць,
Як арэ сталёвы конь.
Не пабачыць хвалі жыта,
Лёну сіняга разліў.
…Больш за трыццаць год ляжыць там,
У калдычаўскай зямлі.

*1978*

## Зацесна Нарве ў берагах

Зацесна Нарве ў берагах —
Вясною на папасе.
Па лазняках і па лугах
Шырока разлілася.
Шукае новыя шляхі
Ад самае заранкі,
То круціць вір каля альхі,
Дзе зімавалі ракі.
Яшчэ трава не парасла,
Ледзь толькі выглядае,
А над усім шуміць вясна
Такая маладая.
Ах, колькі качак на вадзе,
І кнігаўкі над імі!
Гудзе над Нарваю, гудзе
Вясна з цудоўным імем.
Бывай, рака! Змагу — прыйду
Ў лугоў прастор бясконцы,
Дзе сонца кідае ў ваду
Гарачыя чырвонцы.

*1977*

## Дзе тыя Пясчанікі?

Вёска ёсць Пясчанікі —
Так ці мо не так?
Запрашаў на дранікі
Беларус-зямляк:
— Запытай Лісоўскага,
Кожны скажа дзе.
Вельмі была коўзкая
Сцежка для людзей.
Нас лічыў крамольнымі
Паліцэйскі чын.
Логіка няўмольная —
Як абвергнеш, чым?
Так мы разляцеліся
З Плоцка ў свой куток:
Я — дзе Шчара сцелецца,
Ён — пад Беласток.
Час ляцеў ракетаю,
Куляю свінца.
Песня не дапетая
Сёння да канца.
Дзе ж тыя Пясчанікі
Сябрука майго?
Недзе пахнуць дранікі.
А ўжо сорак год!

*1976*

## На братняй зямлі

Бяжыць дарожка роўная
За самы небакрай.
Цвіце зямля чароўная,
Ну так, як родны край.
З цікавасцю праехалі
Ўжо не адну вярсту —
Дамы з клінамі-стрэхамі
І дзятлаў перастук.
Бярозы — тыя самыя,
Асіны шалясцяць.
Нібы прыйшла вясна мая
З юначага жыцця.
І кветкі тут ружовыя
Прымаю з белых рук —
Шляхі перакрыжоўвае
Так Польшча, Беларусь.
Абдымкі, словы шчырыя.
Размова ў лад ідзе.
Гляджу на рэчы шырай я,
Чым некалі глядзеў.
Заняты творчай працаю
Шахцёр, араты — ўсе.
І слухаюць па рацыі,
Што заўтра прынясе.
А заўтра — будуць новыя
Здабыткі, як і ў нас…
Шумяць лясы сасновыя —
Такая старана.

*1977*

## Закаласуе новы дзень

Лісцё на ўтоптанай сцяжыне
Гарыць як жар: не наступі!
І з хвой плыве смала бурштынам,
Нібыта мёд хто растапіў.
Іду я ў мройлівую просінь
Цераз сасновы маладняк.
І навакол шугае восень
Лагодным подыхам паўдня.
І мне здаецца — гэта лета
Ў чырвоным полымі дубоў
У лес прыйшло і на палетак,
Каб затрымаць зіму сабой.
Ды што прайшло, таго не вернеш,
Не ўзнімеш ліст, які ўпадзе.
...Дзесь прарастае ў глебе зерне —
Закаласуе новы дзень.

*1977*

## Беларусь у кожнай кроплі

Пад Новы год чакалі шчасця.
Але ці з’явіцца яно?
А небасхіл агністай масці
Ірдзеў на ўсходзе, як вянок.
Там Беларусь спраўляла свята,
Свой найвялікшы юбілей.
Тут паліцэйскі лез у хату,
Каб чалавек нутром балеў.
Мы дваццаць год ішлі праз турмы
Да светлых, сонечных вышынь.
Былі мы песняй, былі штурмам, —
Што вырывалася з душы…
Дымяць увысь заводаў трубы,
Шумяць пшаніца і жыты.
І вусны самі шэпчуць: любім,
У бой пайдзём, як скажаш ты.
На скрыжаванні дзён Еўропы
Стаіш і свеціш, як маяк.
О Беларусь, ты ў кожнай кроплі,
Бо ты — рэспубліка мая!

*1980*

## Пачатак вясны

Аб гэтым сведчыць каляндар
І месяц сакавік.
І пацягнула штось удаль,
Ўзнімае тэмп крыві.
Шпака, напэўна, тое «штось»
Трывожыць, як мяне, —
Звініць паток, зіме на злосць,
Сярэбраных манет.

*1979*

## Першы снег

У гэтым студзені ён першы.
А колькі іх было ў мяне,
І дзён аснежаных, прамерзшых,
Што не змаглі закамянець?
І белы снег зноў адкрывае
Штосьці непаўторнае ў жыцці.
Адкуль вядзе мяне крывая,
Каб не вярнуцца, не прыйсці.
А можа, снег мне толькі сніцца,
Маленства крок, юнацтва ўзлёт?
Ды не. Бо чую: на расніцах
Растайвае сняжынак лёд.
...Імчыць кагосьці поезд дачны,
Пазбавіўшы трывог і дум...
За першы снег, за ўсё я ўдзячны,
Што па сваёй зямлі іду.

*1977*

## Мірная раніца

Ах, нашто гэты свіст рэактыўны
Раніць душу ад самага рання?
Мне хапіла б і рэк пераліўных,
Што ўліваюць спакой, а не раняць.
Мяне бор векавы ў госці кліча,
Дзе страха на зямлянцы апала,
І на полі сасна, нібы клічнік,
Уцалелы ад штурму, напалму.
Там я свой, да знямогі аддany,
Нават лось не баіцца, падходзіць.
Толькі дзесь за далёкім курганам
Чую тупат — я зноў у паходзе…
Сёння вёску маю дарагую
Засланяюць ад чорнай напасці.
І, скажыце, чаму не магу я
На спакойную думку напасці?

*1976*

## Скарына

Ён бачыў: кінулі на горад
Магнаты цемру, цень — крыжы.
На радасць нам, а ім на гора
Ён працаваў і ўпарта жыў.
Першадрукар тварыў, прарочыў,
І час дарэмна не мінуў:
Аззяла кніга людзям вочы,
Адкрыўшы праўду і ману.
Ён першы кнігу даў славянам,
На простай мове ўзорны ліст.
Ён знаў: з-за хмараў алавяных
Праб'ецца сонца да зямлі.
Нішто народ наш не скарыла —
Працуе, творыць, будзе жыць.
Шкада, не бачыць наш Скарына:
Якія сёння тыражы!

*1978*



Быў цудоўны ранак сіні,
Шапацелі дрэвы ціха.
Па сасонніку ў асіннік
Пераходзіла ласіха.
Ласяня ступала следам,
Абівала з траваў росы.
Не маглі прадбачыць, ведаць
Аб трагічным сваім лёсе.
Грымнуў выстрал нечакана —
І ў вачах ласіхі-маці
Пахіснуўся сіні ранак,
Асядаў і колер страціў.
Браканьер душыўся смехам,
Ласяня лавіў між лісця.
Рагатала ў нетрах рэха,
Як зарэзаны нячысцік.

*1970*

## Перамога

Яна адтуль ішла, дзе сонца
Ўставала з мужнымі людзьмі.
Яна ў грудзях, як сок у гронцы,
Штодзень брыняла, кожны міг.

*1971*



Дні бягуць, і мы старэем.
Маладзее родны край.
Чым мацнейшыя завеі,
Прыгажэйшым будзе май.
Вось і май, зялёны поўдзень.
Я прашу цябе ізноў:
Мо вясне насустрач пойдзем
Жытнім полем, баразной?
Не магу я надзівіцца
На прыроду, на вясну.
Родны край мне будзе сніцца,
Як прылягу, як засну.

*1969*

## Памяці Міхася Васілька

Прачытаў «З сялянскіх ніў» —
Акунуўся ў водар.
Недзе жаўранак званіў
Песню пра свабоду.
З хваляў жыта Васілёк
Мне паказваў вочы.
І над полем плыў здалёк
Ціхі сум дзявочы.
Селянін кляпаў касу
У варожым стане…
І зліваўся гэты сум
З гневу нарастаннем.
Заклікаў паэт зару
З блізкага усходу,
Бо любіў ён Беларусь —
Край бацькоў, свабоду.

*1981*

## Твой дзень

*М. С.*

Прыносіць вецер пах жывіцы —
Ўстае ў вачах зялёны бор.
Усім жадаю я: жывіце!
А захапляюся табой.
Цяпер зіма. Бяжыш насустрач.
А мне здаецца, што з сасны
Нібы ляціш вавёркай шустрай.
А можа, гэта я прысніў?
Гляджу на ўсход — гарыць над светам
Твой дзень у полымі зары,
Зялёнай лапкай-эстафетай
Махае ў сонечным бары.

*1972*

## Жыву ў бацькоўскім краі

Жыву ў бацькоўскім краі,
А ён ва мне дрыжыць.
Таму і не ўміраю,
Хачу яшчэ пажыць.
Каб бачыць цуд — світанне
І ў золаце палі,
Пачуць зямное гранне,
Дзе сэрца зазямліў.
Усё цудоўна, міла
У родных берагах.
Тут маладосць хадзіла
З касою па лугах.
І басаног за плугам
Ступала баразной.
(Хоць гэта не заслуга,
Прыемна ўспомніць зноў.)
Штогод рабіў абнову
Сасновы маладняк.
Я матчыную мову
Ўдыхаў, як водар дня.
Жыву ў бацькоўскім краі,
Ўстаю з зарой — да дня.
Няма фашысцкай зграі,
Бо вымелі да дна.
Што дзень сягоння — свята,
Іду у даль-прастор,
Шлю прывітанне хатам
З усіх дарог, мастоў.
Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,

Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

*1981*

## Чаму стралялі ў нас паны?

*Прысвячаецца ахвярам*
*Косаўскага расстрэлу*
*3 лютага 1927 года*

Чаму стралялі ў нас паны?
Што нам няволя іх абрыдла,
Што не хацелі ў турмах жыць,
Што не хацелі жыць, як быдла.
За тое, што хацелі быць
Свабодным і шчаслівым людам,
Што зразумелі: не рабы,
Гатовы даць адпор прыблудам.
Была ўжо сіла ў Грамадзе
Па ўсёй Заходняй Беларусі.
І нарастае, гром ідзе,
І чутны голас: «Не скаруся!»
Ішлі. А думка пра вясну
Не аднаму ж у скронь калола…
Ды кулямёт як паласнуў, —
Убок хіснулася калона.
На белы снег праліўшы кроў,
Няслі параненых, забітых.
Не дачакаліся сяброў,
Але ніхто з іх не забыты!

*1987*

## Мяне зямлянка берагла

Я да зімы ў бары прывык,
Да клімату цвярозага.
А тут з'явіўся сакавік
Над стараной бярозавай.
І хоць зіма яшчэ ляжыць,
Нібы бяльмо, навокала,
Рытмічна звоняць капяжы
З сасонніку высокага.
І так прыемна бачыць, мець
Зеніт вясенняй просіні,
Бярозаў бель і соснаў медзь,
Што мерзлі з шэрай восені.
Мяне ж зямлянка берагла —
Падзяка ёй сардэчная!
Сцяжынка, бачу, пралягла
Цераз бары зарэчныя…

*1986*

## Разгарнулася лета

І раскрылася неба,
Нібы зонт-парашут.
Ні вады, ані хлеба
Не хачу, не прашу.

Разгарнулася лета
І калоссем шасціць.
Праз аўсяны палетак
Трэба мне перайсці.

І далей хмызнякамі
Аж да самай шашы.
За шашою ёсць камень,
Там сустрэча ў цішы.

А сустрэча, як песня,
Пад зялёны той шум
Можа весткай балеснай
Растрывожыць душу.

...Там сям'ю расстралялі
Ні за што ні пра што...
Эх вы, родныя далі,
Неабдымны прастор!

...Вёску з дымам пусцілі,
Заграблі ўсё дабро...
Дай, Радзіма, мне сілы,
Болей мужных сяброў!

Дай мне гнеў чалавечы
Супраць дзікіх прыблуд!
Ў надыходзячы вечар
Я засаду зраблю.

А пакуль — сонца паліць.
Дзе ж той камень, шаша?
І кладу я свой палец
На кручок ППШ.

*1986*

## Сляды

Сэрцу блізкія прасторы —
Поле, ельнік малады!
Памяць вас не раз паўторыць,
Дзе губляў свае сляды.
Партызану добра летам:
Скінуў поезд, тут жа знік.
Ў жыце, дымцы фіялетнай
Паспрабуй знайдзі, вазьмі…
Родны край — заўсёды родны,
Без яго ты — сірата.
Тыя дні — альбом прыроды —
Так і хочацца гартаць.
Ды не вернеш маладосці,
Што шыпшынай адцвіла.
На прастор радзімы ў госці
Мяне восень прывяла.
Зноў іду па кладцы тонкай,
Там, дзе немец даў нырца.
Можа, ўспомніць хто з патомкаў,
Што прайшоў я да канца.

*1985*

## Перамога

Я не мог памыліцца:
Ты была — у душы.
Вось іду памаліцца
Ў неабдымную шыр.
І цяпер на паперы
Праступае мой лёс.
Вось той сонечны бераг,
Перазвон ціхіх лоз.
Вось слядоў тых трасіры,
Штоляглі на пяску.
Ласкі мы не прасілі —
Па нас білі з ляску.
Дні бягуць. А я помню,
Як закончыўся бой…
Месяц жоўтую поўню
Пакаціў цераз бор.

*1985*

## То было не на праспекце

То было не на праспекце —
На дарожцы на лясной.
Шалясцела пушча веццем,
Навявала мары сноў.
І цяпер перад вачыма
З аўтаматам на плячы
Чарнабровая дзяўчына —
Час не сцёр яе нічым.
Ледзь прыкметны пырск усмешкі,
Нібы спелы лушчанец
Пакаціўся ў мох са сцежкі,
Не, не ў мох, а ў сэрца мне.
І лаўлю я пошум пушчы
Ад мінулае вайны.
І прыносіць дзень відушчы
Ўцеху, сэрцу каб не ныць.

*1985*

## Успамін далёкі

Успамін далёкі
Зноў па сэрцы рэжа.
А блакіт высокі
Кліча ў безбярэжжа.
Ясная пагода —
Ёй і разгарацца!
Я прыбыў з паходаў
Да жыцця, да працы…
Не было сустрэчы
Пасля ліхалецця:
Ўсё фашыст знявечыў,
Расцягнуў па свеце…
Бусел стаў пад вязам,
Дапамогі просіць.
Вось крыло падвяжам,
Зажыве — і ў просінь!
Вандраваць не пойдзем:
Хто ж траву пакосіць?
Прытамлюся ў поўдзень —
Лягу на пакосы.
Калі сон зачасціць,
Кнігаўка разбудзіць.
А вясна ды шчасце
Не адзін раз будзе.

*1986*

## Ад чаго дрыжаць асіны?

Цёплы, сонечны і сіні
Ранак. Вецер нат не дзьме.
Ад чаго дрыжаць асіны,
Не магу я зразумець.
Вось стаяць сасна, бяроза,
Ну і елка, як страла,
Што нацэлена сур’ёзна
Ў даль касмічную страляць.
Ні адна язык не вострыць,
Хоць прывабныя сабой,
Бы сапраўдныя медсёстры,
Што гатовы з намі ў бой.
Ну і мне спакой патрэбны
На зыходным рубяжы…
Жаўрука званочак срэбны
Ў вышыні будзе кружыць.

*1985*

## Узнімаўся раніцай туман

Цяпер ужо з далёкіх дзён,
Ваенных дзён і працы,
Пульсуе ў сэрцы «Ціхі Дон»,
Нібы струмень гарачы.
Сярод няхітрага дабра
(Яшчэ дымела вёска)
Вялізны том я падабраў
З крываваю палоскай.
Ўзнімаўся раніцай туман,
А сонца — яшчэ вышай.
Чытаў я прыхапкам раман,
Калі было зацішша.
Ды не сціхала барацьба,
Яна — салдат і донар…
Перад вачамі — ўсё Кубань
З блакітным ціхім Донам.
Здавалася, што п’ю настой
З лугоў данское поймы.
І том бадзёрыў мне настрой,
Ляжаў каля абоймы.
…Жніво. Гарачая пара.
Шуміць пшаніца, проса.
Хачу наведаць гэты край,
Калі мяне запросяць.

*1986*



Затужыла пры лузе бяроза,
Счуўшы жаласны крык жураўлёў.
І застыў у кустах вербалозу
Вецярок, прыляцеўшы з палёў.
І бясконца плыла павуціна,
За былінкі чаплялася ніць.
І здалося, зусім беспрычынна
Пачыналі ў цымбалы званіць.
Ціха так чараты зазванілі,
Калі чоўнам парушыў я гладзь.
Сярод многіх затокаў і звілін
Пуцявіна мая пралягла.
Яшчэ змалку зрадніўся з прыродай,
Па-сяброўску ў разведку вядзе.
Пачынаецца дзень без прыгодаў,
Проста восеньскі сонечны дзень.

*1986*

## Акраец хлеба

Ў акно зірнула сонца краем
З глыбокага прадоння неба,
Праменні ўпалі на акраец
Мукой падсыпанага хлеба.

І ажылі малюнкі тыя,
Крывой сцяжынкай што прабеглі:
Два каласочкі залатыя
Прайшлі праз спаленыя цэглы.

Зярняткі, шчуплыя заморкі.
Радком садзіў іх на загоне,
І хлеб хай будзе нават горкі,
А смерць на той свет не загоніць.

Пайшло дзяцінства за вароты,
А дзень халодны і бясхлебны
Дзесь дагараў за паваротам,
Як згублены і непатрэбны.

Малюнак сумны: даль гарэла,
Хаціны ў кветкавых гірляндах.
Што не згарэла — азвярэла
Фашыст цягнуў да фатэрлянда.

Прыпомніў я адну хвілінку:
Маленькіх бульбай корміць маці.
— Сынкі, частуйцеся, — скарынку
Нам падае… і пуста ў хаце.

Ад голаду ў грудзях заныла.
Гаворым жа: «Зайшлі напіцца».
Як не за Шчарай, а за Нілам
Пустынным поўднем ходзім быццам.

Прабач, матуля, за адмову.
Дзеля дзяцей хлусілі ўчора…
А сёння хлеб я слаўлю новы, —
Няхай не вернецца больш гора!

*1985*

## Плач жалейкі

Дзень гарачы. Ясны дзень.
Жніўны поўдзень.
Не стрымаюць нас нідзе —
Ўсюды пройдзем.
Нас прыгорне родны лес —
Даль лясная.
Хлебаробы на сяле
Нас пазнаюць.
Думку думаў партызан
Перад боем.
Ў сэрца матчына сляза
Ўпала болем:
— Ой, чакаю я здалёк
Дні і ночы.
Прыязджай жа, Васілёк,
Васілёчак...
А ў даліне — перабор —
Плач жалейкі.
Адгукнуўся сівы бор
Сумам нейкім.
І паплыў удаль матыў
Песні жніўнай
Над палеткам залатым
Пераліўна.
Выліў скаргу ўсю да дна
Люд прыгонны,
І дайшла яна да нас
На загоны.
І трывожыць, і заве
Ў бой на катаў —
Не схавацца галаве

Ў трох накатах…
Перамога адгула
Ў завірусе.
І да роднага вугла
Ён вярнуўся.
І за плугам ён пайшоў —
Кінуў лейцы,
Ўчуўшы: грае пастушок
На жалейцы…
І зноў сэрца, як тады,
Затраслося,
Як шугаў злавесны дым
Над калоссем.
І дагэтуль сніць пажар
(Столькі ж вёснаў!)
І камбайнам не пажаў
Плач жалосны.

*1986*

## Сустрэчы

Вятры як шугалі — шугаюць,
Здзіраюць пясок з пагорка
І водар чаромхавы з гаю
Даносяць: ён пахне горка.
Сасна ўсё стаіць як стаяла,
Скрануцца з гары не можа
Туды, дзе вясеннім валам
Шуміць у даліне збожжа.
А можа, асколак ад міны
Рэжа нутро ёй употай,
Бо рана смыліць штохвіліны,
Жывічнай гарыць пазалотай?
Затое сюды на сустрэчу
Нябачнаю цягне сілай
Таго, што ў ваенны той вечар,
Як маці, сасна засланіла.
І нельга забыць той часіны
І з памяці вёснаў не сцерці…
А дзень дадае новай сілы,
Раны рубцуе на сэрцы.

*1985*

## Песня недапетая…

Эй, старонка мілая,
Дзён тваіх паэт я…
Дрэўца ты пахілае,
Песня недапетая…

*Міхась Васілёк*

На зямлі лясістай, роўнай
Хто нас будзе сустракаць?
Толькі вёсачка Баброўня
Дарагога Васілька.
Там ён сеяў жыта ў полі,
А найболей — добрых слоў.
Збожжа ціснулася з болем,
Слова дружна прарасло.
Тыя словы, тыя песні
Падхапіў працоўны люд,
Бо яны свабоду неслі
На пакутную зямлю.
Я ляцеў туды, бы ў космас,
Праз усё сваё жыццё.
Распускала сонца косы,
Але вецер перацёр…
І сустрэліся мы позна
(Ліхадзей на край налёг).
Бралі зброю мы без позваў,
Каб не крыўдзіцца на лёс.
Колькі крочыў я праз жыта,
Васілька ўсё сустракаў!
Памяць сэрца зберажы ты,
Саламяная страха!
Паўстагоддзя йшоў у сені

Да паэта Васілька.
Там з пустэчы дзень асенні
У бяздонне ўцякаў.
Не ўцячэш! Дагоніць песня,
Недапетая за век.
І на новым на прадвесні
Ўдаль паэтаў пазаве.

*1986*

## У Гута-Міхаліне

*Памяці Іосіфа Паўлавіча Урбановіча*

Боль ад страт не пагасіш нічым,
Хоць і будзе завейна, студзёна.
Я прыходжу сюды не спачыць,
А паслухаць лясную штодзённасць.
Тут аднолькава — ліпень ці май, —
Неба стынь з фіялетавай сталі.
Мне здаецца, тут птушак няма.
Абеліскі маўкліва пасталі.
Перад паўшымі вечна ў даўгу,
Дзень сустрэўшы свабодны і новы.
Але ж хіба забыць я магу,
Што ляжыць тут Язэп Урбановіч?!
Яшчэ ў школе пуцёўку мне даў,
Навучыў за свабоду змагацца…
Яркім сонцам гарэць будзе даль,
Дзе кіпіць наша вольная праца.

*1986*

## Сцежкі юнацтва

Мякка між пальцаў калоссе цячэ
Шэра-зялёным патокам.
Хочацца ў вёску вярнуцца яшчэ,
У дні маладосці далёкай.
Сніцца мне хата (якое няма),
Нібы жывая істота.
Ў госці дадому прыходжу на май
У нерашучасці: што там?
Вуліца вырасла (дзе не было)
З двухпавярховых катэджаў.
Водарам цягне з палёў і балот, —
Сцежкі юнацтва агледжу.

*1985*

## Жывая крыніца

Дай напіцца з жывое крыніцы,
Што цячэ з-пад высокай гары!
Нізка небу свайму пакланіцца,
Што зарою на ўсходзе гарыць!
Гэта — цуд дарагі, першабытны.
Ні купіць, ні прадаць тую даль.
За яе мы хадзілі на бітвы
І маглі толькі сэрца аддаць.

*1986*

# На родных загонах

Разгарэўся дзень, а я стаю.
Я стаю на тым пагорку сонным,
Дзе калісьці маладосць сваю
Праз зялёны перавёў сасоннік.
Палавее сонечная даль
Пад гарачым, спрасаваным небам.
Хаты роднай бацькавай шкада,
Што карміла лебядой без хлеба.
Тут я рос, і шчасце спазнаваў,
І пайшоў у свет занадта вузкі.
Ах, як пахла мята і трава
Пры дарогах вёсак беларускіх!
Тая хата урасла ў зямлю,
Правалілася страха на хаце…
Родны край, мо скажуць, не люблю
І забыў пра бацьку і пра маці?
Не, таварышы, нічога не забыў,
Калі гэта слабасць, то адкіну.
Мне б прайсці праз жытнія гарбы
І крануць касою канюшыну.
Я хачу адчуць, як край цвіце
Пасля цяжкай, страшнае навалы,
Слухаць песні звонкія дзяцей,
Як і сорак год таму, бывала.
Беларусь, заўжды жыву табой,
Багацей і сілы загартоўвай.
І калі труба пакліча ў бой,
Зноў з'яўлюся і скажу: «Гатовы!»

*1985*

## Па дарогах вайны

Хоць не ўсе я абышоў мясціны,
Беларусь жа пазнаваў па тым,
Як гарэлі родныя хаціны,
Лез туман на золку праз платы.
Халадзілі гліняныя печы
І душу, і цела — толькі глянь.
Неймаверным цяжарам на плечы,
Ўся вайна на плечы налягла.
І не плакалі малыя дзеці —
Маці несла іх ў далёкі бор.
І не знала, што рабіць, дзе дзець іх,
І пыталася: ці ёсць на свеце Бог?
І калі гарэлі раптам танкі
І крыжы на танках, — то не цуд,
То не Бог пускаў на іх маланкі,
А з разбітых хатаў мужны люд.
І святлелі вочы, твар жанчыны,
Што дзяцей туліла да грудзей…
Туманы ўзнімаліся з лагчыны,
І на ўсходзе пачынаўся дзень.
…Па знаёмай зноў іду мясціне:
З белай цэглы вёска — Беларусь.
Бабка выйшла на асфальт-гасцінец,
Адпраўляла ў школу дзетвару.
Затрымала крок ля абеліска,
Скінула набегшую слязу.
А мо вецер мокры ў вочы пырскаў,
Што гайдаў каліну і лазу?

*1985*

## Ты жывеш пад небам сінім

Мяне маці тут нарадзіла,
Як сасонку ў бары пасадзіла.

*Данута Бічэль*

Сорак год вярэдзіць раны
Пасля цяжкае вайны:
«Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!»
Плыла песня па-над вёскай
Ад начлежнага кастра.
Ты — сасонка,
Ты — бярозка,
Наша родная сястра.
Ты не знала гэтай песні
Ў тыя грозныя гады,
Бо малую ў бор прынеслі
Ад навалы, ад бяды.
Ты жывеш ў такой краіне,
Там, «Дзе ходзяць басанож».
Ты жывеш пад небам сінім —
Гэту сінь яшчэ памнож!
Ты ж — бярозка,
Ты ж — сасонка
З беларускай глыбіні.
Мо таму і песняй звонкай
У душы маёй звініш.

*1985*

## Гэта Новы год

Вось і снег.
Кусты і верас
Гнуцца ад зімы.
Але ў будучыню верым,
Як заўсёды, мы.
Нам не страшны
Вецер колкі, —
Хай сабе мяце.
Неадкладна
Ў лес па ёлкі
Для малых дзяцей!
Ім патрэбны
Ранак светлы,
Смех і пах лясны.
І зялёныя прыкметы
Будучай вясны.
Рушым працу
Дружным валам!
(Гэта ж Новы год!)
Сэрца помніць:
Калыхала
Маладосць паход.

*1985*

## Прыдарожныя сосны

Спрадвечныя нашы гасцінцы
Па роднай зямлі праляглі.
Трымціць на глухой павуцінцы
Дзень — бабіна лета — як ліст.
І ветрык ад самага ранку
Ўплятаецца ў срэбную ткань.
І коціцца ўдаль абаранкам,
Накручвае пасмы матка.
Бярозы, абапал бярозы
Радамі стаяць па баках.
Іх ставіў калісьці наш розум,
Унук каб ішоў, не блукаў.
Ішоў я па іншай пуціне,
Дзе соснаў зялёных убор
Таксама трымцеў павуціннем,
Прасіўся да сёстраў у бор.
Ці, можа, мне так падалося,
Бо сам павярнуў у гушчар.
Ступаў асцярожна між сосен,
Каб кожны сучок не трашчаў.
Не лішняй была асцярожнасць,
Дзе можна фашыстаў сустрэць…
Хай сонца гуляе па пожнях,
Спусціўшыся ніжай са стрэх.
А я пастаю пад ялінай
Далей ад зялёных прысад.
Вунь едзе вазок каляінай,
Скіроўвае ў вёску, у сад.
Знаёмы да болю мне побыт
(Сціскаю мацней аўтамат).
Сасна прыдарожная побач —

Дарогі ж дадому няма.
Па гэтым шляху без аркестра
Пры панстве хадзіў не адзін.
Звінеў ланцугамі тут Пестрак,
Таўлай у кайданах хадзіў.
Той час адзваніў страшнай казкай.
А соснаў зялёных рады
Завуць у паход: калі ласка,
Чакаюць сябры, гарады…

*1990*

## Святое пачуццё

*Памяці маці*

Не растапчу святое пачуццё
Ні пры якой пагодзе і нагодзе,
Цяжкі ўспамін ўразаецца асцём
І па спіне мурашкамі паходзіць.
Матулі рукі пахлі лебядой,
Калі са свету звёў яе памешчык.
Асірацеў на хутары наш дом,
Здавалася, і я тады паменшаў.
Я на магілу часта прыбягаў
Аддаць пашану, васількі пакласці.
Гадзюкай поўзала ў душы туга
І асядала на пялёстках шчасця.
Магчыма, шчасця поўнага не знаў —
Яно драмала ў аўтаматным дыску.
І павяла праз жыта баразна,
Дзе небасхіл агнём крывавым бліскаў.
Вярнуўся я на радасць ці бяду,
Калі фашыстаў наш народ адужаў.
Ды толькі ўжо магілы не знайду,
Не пакладу ні васількоў, ні ружаў.
Даруй жа, маці, крыжа не збярог
Дубовага, што пастухі спалілі.
Табе, як сын, я з пройдзеных дарог
Вянкі прыношу з вершаваных лілій…

## Ты — як песня

Квяцістым і сонечным раннем,
У промнях жывых, залатых,
Паўстала жывой на экране,
Хоць гэта была і не ты.
На фоне зялёнай дубровы,
Бы казачны цуд наяву,
Усмешка, знаёмыя бровы
З экрана міргаюць, завуць.
Няўжо ты прыйшла на Украіну
Ў паўторных спляценнях жыцця?
А я ж Беларусь не пакіну,
Не ўзняўшы цябе з небыцця.
Ды ўзняць — не ў людской гэта сіле,
Каб лугам прайшла, баразной.
Паплачу на брацкай магіле,
Бо сэрца сціскаецца зноў.

## Хлеб і мова

Змяніўся год, пейзаж зімовы,
Пачуўся больш лагодны шум.
Ці ж я магу пражыць без мовы?
Без хлеба жыў. І вось пішу.
Ласкава маці гаварыла,
Праз сэрца просьба пралягла.
І я цярпеў. Нібы на крылах
Ляцеў за самы далягляд.
Там воблакі плылі па небе,
Прымалі выгляд жураўлёў.
І лесу вышчарблены грэбень
Часаў ім пух, як чэшуць лён.
Я засынаў пад родны голас
І абуджаўся ў новым дні.
Спявалі птушкі навакола —
Яны ж сябры маёй радні.
І так пражыў без хлеба суткі —
Без роднай мовы я не жыў…
А маці моліцца ціхутка
Перад Ісусам на крыжы.

## Паперка

Не трапіла рыбіна ў венцер,
Наводмаш адкінь страту-мару,
Бы кінуў паперку і вецер
Панёс яе ўздоўж тратуару.
Паперка… Бывае й такая:
На ўзроўні жыцця або смерці.
Вось следчы данос спатыкае,
Эсдоўскі, і круціць і верціць.
«Зачем же вам эта бумажка?
Давай подошьем ее к делу…».
Кажу, што насіць мне не цяжка,
Хай сведчыць, што смерць праглядзела…
Аднойчы ўсхадзіўся вясковец,
Прыстрашыў паперкаю нават:
— Рыхтуйся, паклічуць на «споведзь»…
Чаму ж адступіўся Цанава?
І ўсё ж раўнавагу парушыў:
Заснуць не магу, як прылягу.
Засну — дзікі крык лезе ў вушы,
Пацею ў кашмарным ГУЛАГу…
Дай Бог, каб не ведалі ўнукі,
Як цісне пакута нямая.
«Бумажку»-данос бяру ў рукі —
Нібы сам сябе паднімаю.

## Дзякуй небу і табе, Радзіма

Расцвітае кожны год каліна,
Атрасае белы свой убор.
Набягаюць думкі: ну, калі нам
Перастане сніцца сівы бор?
Там было свабодна і дзівосна,
Хоць цягнула вёска да сябе
На сталёвы звон бліскучых косаў,
Па палетку крочыць на сяўбе.
І хачу спытацца: што я маю,
Хіба восем тых дзясяткаў год,
Што бягуць ад светлых хваляў мая,
Часам у нязведаны паход?
Хопіць мне таго, калі старонка
Будзе вольнай без усіх «аднак»,
Каб з бядою на сцяблінцы тонкай
Не была расінка ні адна.
Гэта, праўда, не даецца лёгка
Без змагання супраць здзекаў, пут…
Маладосць мая цяпер далёка,
Як яна спатрэбілася б тут!
Дзякуй небу і табе, Радзіма,
Праз пякельны прысак правялі.
Без цябе падняцца немагчыма
Нат на райскай, казачнай зямлі.

## Дамkatканыя кашулі

Колькі сцежак праз палі,
Праз пагоркі і лагчыны
Пратаптаныя былі,
Палічыць іх немагчыма.

Па адной ідзеш — жыты
Выплываюць каласамі.
Адчуваеш, што і ты
Наліваешся таксама

Тым вясновым хараством,
Што у сэрцы непрыкметна
Адлюстроўвае прастор,
Такі родны і прыветны.

Па другой ідзеш — і лён
(Нібы неба ўпала ў мора),
Сініх кропелек мільён
Растварыўся ў тым прасторы.

Потым выспелы лянок
Церабілі рукі ў поце,
Малацілі і ля ног
Рассцілалі на балоце.

З незапамятных вякоў,
Колькі продкі існавалі,
Церлі, пралі і снавалі
Ўзор цудоўных ручнікоў…

Ўжо не тая сенажаць,
Кужаль-бель не раскашуе.
Ў Калыме касцы ляжаць,
Даматканыя кашулі.

Дзе ж падзеўся цуда-лён —
Наша радасць і надзея?
Стаў валютаю ўжо ён
На карысць не тых, хто сеяў.

## Не быць жабракамі

Шыбанула ластаўка за хмары,
У бязмежны, велічны прастор.
Чалавеку — што, не трэба марыць,
А гібець да скону за нішто?
Злыя сілы злосна наступалі,
Думку, цела гнулі ў небыццё:
Божа крый, паходню ён запаліць
І тады, лічы, — ад «ладу» ўцёк.
Неба сіняе паказвае раздолле —
На зямлі такое ж нам зрабіць,
Засяваць свабодна сваё поле,
Жабракамі вечнымі не быць.

## Лясы і пералескі

Лясы і пералескі,
Рамонкі і багун.
І рэчку пералезці
Па жэрдачцы магу.
Такія тут дзівосы
У роднай старане
Здараліся пад восень
Не раз убачыць мне.
Праскочыла казуля
З-над рэчкі ў маладняк.
Спяшаецца, кажу я,
Як быццам, мала дня.
Прыбег, скруціўся вожык,
Жывот, пэўна, баліць,
І вырашыў, што, можа,
Я — доктар Айбаліт.
З дзяцінства павялося:
У лес іду з дабром.
Сустрэўся мірна з лосем,
Што пераходзіў брод.
І на рабіне птушка
Сядзела, нібы ў сне.
А вецер сонца гушкаў
На стромкай на сасне.

## Да нашага сонца

Няўжо я не дома жыву,
Што мова чужая наўкола
Ў сівую маю галаву
Пускае балючыя ўколы?
Даходзяць да сэрца яны.
Ды тыя атрутныя зерні
Маны, гістарычнай маны
Ссыпаю ў пяскі ў заазер'і.
Хлусня не прыстане да нас,
Сатлее, як жаба у выдме.
Скідае ланцуг старана,
І праўду віхура не выдзьме...
Загадкава дзед мне казаў,
У бочкі ўстаўляючы донцы, —
Пра бацьку, як стражнік вязаў
За покліч «Да нашага сонца!».
Як кліч разгадаць той да дна,
Здаўна прабягаў што па гонях?
Не будзе памылкі аднак:
За мову! За сцяг! За Пагоню!

## Калдычэва — Курапаты

Быццам свет хтось перайначыў
Ўздоўж шашы на Навагрудак.
Майскі дзень, а я не бачу,
Што наўкол пануе цуда.
Не лаўлю птушыных спеваў,
Што ўзнімаюцца да сонца.
Проста еду ў Калдычэва
Пакланіцца бацьку, жонцы.
Пакланіцца ўсім ахвярам,
Нерасцвіўшым летуценням.
А знямога чорнай хмарай
Навалілася на цемя…
Не адзін я — вецер з гаю
Тут прыціх між дрэў шурпатых.
Ад здранцвення застываю:
Ёсць у нас і Курапаты…

## На Шпаковай гары

А на той гары Шпаковай
Гаварылі з небам сосны.
І вясёлкі там падковай
Напіналі свае кросны.
Пад зялёнаю ігліцай —
Перазвон бярвенняў медных.
І не грэх ісці маліцца
Ў гэты дзіўны запаведнік…
Шчыравалі нашы продкі —
Маладняк садзілі ў лесе.
Ну і мы ў свой век кароткі
Не павінны марна плеснець.
Буры снежныя насілі
Караваны хмар кудлатых.
У фашысцкае насілле
Гэты лес быў нашай хатай…
А дзе ж сосны? Іх шалёна
Не адна піла зразала —
Эшалон за эшалонам
Расплываўся за вакзалам…

## Валобрынка

Ці варт казаць, як многа значыць
Для нас крынічная рака?
Я ўспомніў рэчку дзён юначых,
Якая бегла ў хмызняках.
А колькі ракаў там вялося!
Вадзіліся і шчупакі.
Птушынае рознагалоссе
Ўзнімалася аж у блакіт.
Перамахнеш чыгункі насып,
Паклон раздоллю аддасі —
І апынешся сам-насам
З прыродаю, як родны сын…
Цяпер Валобрынка не тая,
Не тая чыстая вада.
Туды і рак не завітае,
І шчупака ўжо не відаць.
Як быццам луг у каранціне —
Састрыглі дрэвы ўздоўж ракі.
І мне нібы падкарацілі
Жыцця кавалак, дзве рукі.

## Дарога палявая

То дожджык палівае,
То сонейка пячэ.
Дарога палявая,
Жывая ты яшчэ?

Такія вось дэталі:
Рамонкі там цвілі,
Да васільковых талій
Схіляліся чмялі.

І перапёлка ў жыце
Ўвесь час прасіла піць…
Ці ж быць глухім, скажыце,
Калі жыццё кіпіць?

Туды імкнеш па лета,
Душою адпачыць.
Той водарны палетак
Пакінулі драчы.

Цяпер дарога тая
Завецца ўжо «бальшак».
І чмель не прылятае
Да васількоў ніяк.

З хімічнае праполкі
Пыл воблакам ляціць.
Не чутна перапёлкі,
Няўжо не хоча піць?

З бяроз датэрмінова
Лісты апалі ўсе.
Такую вось «абнову»,
Скажыце, хто нясе?

А што, як, не дай Божа,
Дур атамны прыйдзе?
Шапоча, просіць збожжа
На выручку людзей.

## Жураўлі і гусі

Над палямі — крыку поўна —
Нашай Беларусі,
Пацягнуліся на поўнач
Жураўлі і гусі.
На Браслаўскія азёры
Без супынку — прама,
Каб прыбыць хутчэй, а зоры
Ўказвалі напрамак.
Па-над Брагінам махалі,
Ціснулі на крылы,
Каб чарнобыльскія хвалі
Морам не накрылі.

## Шлях да зорак

Дзесь за цёмнаю ліпаю
Шлях да зорак пралёг.
Вецер ціхенька ўсхліпвае,
Ледзь гайдае быльнёг.
Спяць начлежнікі покатам,
Дзень сапхнуўшы з плячэй.
Ці ёсць людзі далёка там?
Што ім сэрца пячэ?
У адказ яркай znічкаю
Хтось міргнуў з вышыні.
Кажуць, дні нам падлічваюць,
Што прайшлі, — тыя дні.
А ў прасцяг думка коціцца.
Стой! Спыніся! Замры!
Ты ж не знаеш, ці хочацца
Мне зрывацца з зямлі…
— Паляціш, — вецер ўсхліпвае, —
Думка — толькі пралог.
Нездарма дзесь за ліпаю
Шлях да зорак пралёг.

## Касцёл святога Андрэя

Гісторык мо адслоніць
Старонкі пра жыццё,
Як панараму Слонім
Шырока распасцёр,

Што збудаваў, што знікла
Ў часы ліхіх падзей,
Як у паходзе звыклым
У заўтра ён ідзе.

А сёння жалем свежым
На фоне сінявы
Касцельныя дзве вежы
Яшчэ глядзяць у высь…

І не адзін быў ранак,
І дзень быў не адзін,
Як продак наш без кранаў —
З насілкамі хадзіў.

Даў помнік чалавечы,
Вядома, не на здзек.
Ды вось яго знявечыў
Наш варвар у наш век…

Яшчэ стаяць і сцены,
Стаяць з апошніх сіл,
Бо гэты гмах касцельны
Распрануты зусім.

Здалёк ён нібы цэлы
І сніць адвечны сон:
Ды смокча, точыць цэглы
Драпежны вірус — соль.

Прамовы на парадах
Задзірыста гучаць.
А помнік* — дайце рады —
Знікае на вачах.

*1988*

## Упершыню на Свіцязі

Цудоўная Свіцязь пры яснай пагодзе,
Як сонца асенняе промні кладзе,
Як ветрык пяшчотны спакойна паходзіць,
Бы іскры ўзнімае на ціхай вадзе.
А чырвань дубоў паміж соснаў навокал
Яшчэ дапаўняе той казачны цуд,
Што падае ў сэрца, не толькі на вока,
Каб скласці падзяку прыродзе-тварцу.
Пайду, сутыкнуся з тым цудам да ўпору,
Міцкевіча ўспомню на гэтай зямлі.
Напэўна, дзесь крочыць душа яго поруч, —
О шчасце, будзь вечна, ніяк не замры!

---

* Гэты помнік архітэктуры пабудаваны ў Слоніме ў 1775 годзе. Пасля вайны са згоды раённага начальства ў касцёле быў склад солі. Адноўлены на сродкі вернікаў, дзейнічае з 1993 года.

# Шлях у маладосць

Слонім — Вільня. Ды ізноў назад.
Быў такі мой шлях у маладосць.
І спачатку ўсё ішло на лад,
Бо я верыў: шчасце блізка ёсць.
Гэту веру ў сэрцы запаліў
Сам Дварчанін, што мяне вучыў:
«Трэба выйграць бітву за палі,
Селянін каб меў ад іх ключы».
Бег цягнік па тых лугах, палях,
Рассякаў прастору напрасткі.
Беларуса выціскаў паляк
На падзол, бясплодныя пяскі.
Шчасце бліснула праз дваццаць год,
За «казой» калочкі білі ўглыб,
Ды не ведалі яшчэ таго,
Што зямлю абрэжуць па вуглы.
Селянін застаўся… без зямлі.
Многіх косці дзесь на Калыме.
Будуць сэрцы ўнукаў палымнець,
Каб той след дзядоў не замялі.

## Падкова

Калі плыве ў душу цяпло
З вясеннім першым сокам,
Успамінаю горад Плоцк
Над Віслаю — высока.
Тады хадзіла маладосць
У шынялі уланскім,
Перажывала ўсё, што ёсць,
І не прасіла ласкі.
Прымала толькі хараство,
Сяброўскую сардэчнасць.
І тое ўсё, нібы раствор,
На дне душы — навечна.
Людскую помню дабрату,
Сялян цяжкую долю.
Каня сядлаўшы, ведаў: тут
Бяду не змыць вадою.
Яна такая, як і ў нас
Над Нёманам ці Шчарай:
Калі галодная вясна,
Не да прыродных чараў.
І ўсё ж плыве ў душу цяпло
З-пад мнагаводнай Віслы,
Як прыгадаю горад Плоцк
І ў майскім цвеце вішні.
Аднак няхай яно згарыць
З бядою выпадковай:
У Віслу ехалі з гары —
Згубілася падкова.
А заўтра раніцай парад
(Вось трасца падвярнула),
Бо шэф сурова дакараў:

«Згубілэсь шчэнсьце, улан».
Прызнацца, шчасця я не знаў,
Ці ёсць яно на свеце, —
Была б кабыла, баразна,
І сонца хай пасвеціць.
І вось праз пяцьдзясят гадоў
Падкову мне прыслалі.
Падкова, кажуць, — шчасце ў дом.
Давай яе праславім!

## Засталіся толькі мары

Лезуць думкі мне спрасоння
(Адагнаць іх немагчыма):
Да чаго дажыўся сёння
І што маю за плячыма?

Вецер снегам замятае
Мае родныя палеткі.
І скуголіць замець тая,
Дзе вясной хадзіў і ўлетку.

І хадзіў не мала — многа,
Залатое сеяў збожжа.
І прасіў не злыдняў — Бога,
Хай у працы дапаможа.

І ў прыродзе быў парадак,
Глянеш — сонечна наўкола.
І ад працы ў сэрцы радасць
Налівалася як колас.

Елі хлеб з той цяжкай працы
(На дубовым пяклі лісці).
І да хлеба было, братцы,
У мінулае «калісьці»...

У чарзе чакаеш хлеба,
Аж займае дых за пасам.
Цэны лезуць аж да неба —
Ты ж без грошай і запасаў.

Зноў хацеў бы гаспадарыць —
Ні зямлі тае, ні сілы.
Засталіся толькі мары,
Пакуль смерць не падкасіла.

А чым «корміць» тэлевізар?
Аглушае дзікім гвалтам…
Трэба выжыць! Трэба выжыць
Мафіёзны бруд упарты!

*1994*

## У дзень перапісу

Сказаць, што мне сумна, — не тое,
Пражыў весялосць я і сум.
Ды сэрца ніяк не затоіць
Таго, што з маленства нясу.
Ламаў перашкоды і крочыў
Да праўды па роднай зямлі.
Пяском зацярушвалі вочы,
Змаглі каб — і след замялі б.
Кажу пра сябе, ды не толькі,
Усіх я ў кагорту бяру.
Даказваць прыходзіцца толкам,
Што ты не вярблюд — беларус.

## Марозны ранак

Бывала, дзень прысядзе
І ападзе зара,
На хутарок пры садзе
Я ехаў — і не раз.

Жыла там сувязная,
І быў умоўны знак.
Усё дакладна знала,
Што трэба было знаць.

Бярог яе, як вока,
Ды толькі не збярог…
Я абабег навокал
Той хутар, як звярок.

Няма… А вецер свішча
Праз вокны і праз плот:
Крывавае ігрышча
Фашысцкі ладзіў зброд.

…І праляцелі гулам
Гады, а памяць — не.
Нястрымна пацягнула
Ізноў туды мяне.

— Ты запражы Гнядога, —
Прашу я земляка, —
І так занадта доўга
Я гэтага чакаў.

І хутка сноп аўсяны
Нясе, як каравай.
На ім саджуся ў сані:
— Давай, Гняды, давай!

Заносіць снегам раны,
Што конь капытам тне.
Звініць марозны ранак
Па белым палатне.

## Белая чарэмшына

Па-над рэчкаю лясок,
Белая чарэмшына.
Згубіў мілы паясок —
Вестка не пацешыла.
І шукаць яго знай дзе —
Пад вярбою, сліваю?
Калі дзеўчына знайдзе,
То будзе шчаслівая.
Так гавораць на сяле
Дошлыя кабеціны.
Толькі вяжа нас, але
Не той пояс плецены.

## Бярозы на шляху

Бярозы, яшчэ голыя,
Пабеглі ўздоўж шашы,
Высока ўзняўшы галавы
Да сонечных вышынь.
Туды іх клікаў жаўранак,
Дзе зніклі берагі.
На правадах пражжаўленых
Звінела песня-гімн.
Каб кроны сталі пышнымі,
Каб зелень прарасла,
Мільённымі пупышкамі
Абсыпала вясна.
Ну, як жа тут не выхваліць
Бярозы з майскім днём,
Калі пупышкі ўспыхвалі
Салатавым агнём!
І колеры чароўныя
Мяняліся штодзень.
Красы, што зачароўвае,
Не ўбачыш больш нідзе.

## Роздум

Я сакрэтаў тут не выдам,
Як кажу пра родны кут:
Прыгажэйшых краявідаў
Не пабачыў на вяку.
Колькі жыў, душа ўбірала
Сваю мову, мову ніў.
За далёкім переваламі
Яе голас зазваніў.
Вось з Канады ліст, паверце,
З беларускіх літар, слоў.
На канверце і ў канверце
Толькі ў нас не пранясло.
Зганьбавалі нашу мову,
Як той ліст на грунт ступіў,
Распаролі напалову:
«Поврежденный поступил».
Растапталі чалавечнасць.
Агарнула край смуга.
І няўжо так будзе вечна?..
Эх, пайду ў зялёны гай!
Мо адстануць крыху «будні»
Ў хмызняках, імхах рудых.
Каўтану з гаючай студні
Хоць глыток жывой вады.

*1995*

## Наша слова

Устану рана — і на поле,
Адразу зніме боль з грудзей,
Гаючым водарам напоіць
І прадвяшчае светлы дзень.
А дзень ідзе сваёй хадою,
Хоць полымем збівалі ўбок.
Ды з вечнай сілай маладою
Ўзышоў на вогнішчы дубок.
Жаўрук між воблачных праталін
На сваёй мове нас заве.
А на зямлі маю стапталі
Прышэльцы жудасных завей.
Яны скалечылі і душы
Не аднаму з маіх сяброў...
На роднай мове, хто відушчы,
Няхай жа звоніць серабром.
Звіні, звіні ты, наша слова,
Падхопім хорам, грамадой!
Ты будзеш скарбам адмысловым,
Святлом напоўніш кожны дом.

## Па зямлі я хадзіць прывык

На іголкі зялёнай травы
Асыпаліся зоры, як грушы…
Па зямлі я хадзіць прывык,
Перуны не маглі нават зрушыць.
Завіруха зрывала не раз.
Ад зямлі прыбаўляліся сілы.
Разлівалася ў небе зара,
Пахла мёдам, што пчолы насілі.
Поле. Луг. Па сцяжынцы бягу,
Дзе рыдлёўкай кратовіны зрэзаў.
Там праклаў па балоце дугу
Трактарыст, не падняўшы жалеза.
Што ты скажаш! Яму не баліць,
Абы выканаў норму, як робат.
Без старшынь, аграномаў былі,
Ды мінала такая хвароба.

# Думкі аб вясне

1

Часамі капае са стрэх,
Ды радавацца не спяшы.
Бо надвячоркам ледзяшы
Растуць імгненна, як на грэх.
Граху, вядома, тут няма,
Затое ёсць свае законы.
Вясною возьмемся за коні
І павязем на полі май.
Ізноў кажу я неўпапад,
Няма зямлі, няма і коней.
Перахрысціся прад іконай,
Няхай спыняе снегапад.

2

Прасіла ты не проста так,
Каб я наведаў сваю вёску.
І дзе быў хутар, свечку з воску
Каб запаліў. О, прастата!
Я запаліў бы свечак сто!
Але дарма, мая суседка.
Ішоў разбой. Ты была сведкай,
Як скалыхнуўся наш прастор.
А я ж люблю сваю зямлю!
І Беларусь люблю без меры!
Прышэльцы знікнуць, трэба верыць,
Пакуль жыве працоўны люд.

## Я да Коласа прыйшоў

Я падрос аж на вяршок,
Хоць і хлеба не было.
І да Коласа прыйшоў
Ад Купалы і Буйло.
«На папасе» ў рукі браў
І ганяў каровы ў Мох.
І ад кніжнага дабра
Адарвацца я не мог.
Каб агеньчык запаліць,
Браў красала з капшука.
Прабіраўся за палі
Кветку-папараць шукаць.
Хоць падбіўся і кульгаў
З пастуховых дзён такіх,
А праз казачны курган
Бег дадому напраскі.
Маці клікала за стол
Бульбу ў семя абмакаць.
Не аддаў бы нізашто
Тую шклянку малака!
Бо я сам жа зарабіў
На вячэру, пасучы.
Процьму камароў забіў —
Лезлі ў вочы таўкачы.
У нядзелю бацька сам
Пугу ўзяў, тытунь паклаў.
Ля пліты гула аса —
Маці дранікі пякла.
Я, напэўна, пасталеў
Непрыкметна, спакваля,
Бо ляжала на стале

Кніга «Новая зямля».
Бацька зноў зрабіў сюрпрыз,
Як калісьці з «Гусляром»,
Зноў пакінуў мяне пры
Нечаканасці суздром.
Кнігу часта паўтараў
Пра нядзельку, родны кут.
І вяршка на паўтара
Адарваўся ад пакут.
Падбіраўшы каласкі —
Песняровых сваякоў,
Скідаў камень каля скіб,
Каб ступаў ратай і конь.
Каб, як ён, найбольш расло
Песняроў у нас цяпер.
Каб пустапарожніх слоў
З іх ніводны не цярпеў.

## Такая ўжо Радзіма

Прайшлі, прабеглі вёсны,
Страсалі з вішняў цвет.
Ды з тых хвілін узнёслых
Застаўся ў сэрцы след.
І з памяці не сцерці
Красу — зялёны луг.
Таму да самай смерці
Прыродзе шлю хвалу.
З пракосаў канюшыны,
Дзе звон касы асеў,
Гаючы водар вінны
Мне вецер прынясе.
Калі на міг засну я
Пад цёплаю расой,
То старану ляcную
Пачую і праз сон.
А раніца — о дзіва! —
Пакліча ў першы клас.
Такая ўжо Радзіма
Была і будзе ў нас!

## На сустрэчу

*Наталлі Арсенневай*

Паднімаецца завеса,
Расшыраецца абсяг.
На сустрэчу іду лесам,
Можа, горыч выйдзе ўся.
Не зваліся яшчэ злыдні,
Не падох і падхалім.
Набрахалі на тым тыдні,
Што я ворага хваліў.
Ну скажыце, ці то вораг,
Калі славіць Беларусь
У цудоўных сваіх творах?..
Я ж на сэрца ўсё бяру.
А яно прайшло праз церні
Непрадбачаных падзей.
Як шкада — ахвяр не вернеш,
Не прадкажаш, хто ўпадзе!..
Колькі я згрызот наўючыў,
Сэрца просіць: не магу!
Сустракай жа, лес гаючы,
Адцягні з грудзей тугу!

## Сам Забэйда тут хадзіў

Не той думкі, можа, вы,
Толькі ёсць пара святая.
Прачынаешся — жывы!
І навокала світае.
Гэта шчасце Бог стварыў
Для такіх, як я, бяздомных,
Даў прытулак лес стары,
Патаемны і бяздонны.
Пад зялёнаю страхой,
Дзе сасонкі лёгка звоняць,
Устае птушыны хор
З таямнічага прадоння.
Трэба зноў ісці туды,
Скуль даносяцца раскаты,
Дзе ў туманы ўеўся дым
Між лугоў, палёў стракатых.
Вось і скончыўся той міг
У лясным кутку Ла Скала.
Лавіў музыку грудзьмі,
Што трывожыла, ласкала.
І напэўна, тут хадзіў
Па зялёнай акварэлі
Сам Забэйда і наўздзіў
Салаўіныя браў трэлі.

## Ой, лясы…

Ой, лясы і пералескі,
Ой, зялёны родны гай!
Зацвілі ў гаі пралескі,
А на сэрцы ўсё туга.
Для каго цвітуць — не знаю,
Бо таго даўно няма,
Што сустрэўся раннім маем,
А цяпер каторы май!
Дні прабеглі. А той сіні
Колер кветак і вачэй
Праз сасоннік і асіннік
Прабіваецца яшчэ.
Бо на сэрцы не загоіш
Ранаў з «дальняга таго».
І хаджу я так з тугою
Не адзін дзясятак год.

## Разведчыца

На пушчу глядзіш — векавая.
Ёй трэба зялёнай шумець.
Ды восень жуду навявае,
Па кронах рассыпаўшы медзь.

У тую туманную пору
Праз зараснік клёнаў і ліп
Вярталіся ў лагер мінёры,
Дзяўчынку з сабой прывялі.

Яна гаварыла пра Слонім
І хоча разведчыцай быць.
— Сядзела б спакойна на ўслоне
Ды ела б у масле грыбы, —

Сказаў камандзір і паехаў
На хутар праведаць сваіх.
А гэтай зусім не да смеху,
Стаіць спахмурнелая ўміг.

— Пагрэйся, паспі, — кажа ротны,
Змахнуўшы расінкі са шчок…
З любое бяды, падваротні
Выходзіла наша дзяўчо.

Аднойчы ішла яна логам,
Хмызняк не прайшла да канца.
— Ты што тут шукаеш, нябога? —
Яе затрымаў паліцай.

Агнём прыпякалі — ні слова.
Саджалі ў калодзеж — маўчок.
І так кожны дзень, паступова
Ў СД памірала дзяўчо.

А восень глядзела з-за хмараў
І сыпала золата, медзь…
Біў ворага мсцівец і марыў:
Такую дачку яму б мець.

## Ля студні

Партызанскія ўсё будні —
На засаду, на шашу…
Раз сустрэў яе ля студні:
Адвяду цяпер душу!
П'ю ваду, як у той песні,
Бы ў гарачае жніво.
Ды не п'ецца, хоць ты трэсні,
Бо пусты яшчэ жывот.
Аб ядзе няма ўспаміну.
Аддаю вядро з вадой.
Губы — вішні (без карміну)
Паняслі усмешку ў дом.

## Звініць каса на дзічцы

Прачнуўся ноччу вецер,
Зрываў з галінаў снег.
А я і не прыкмеціў,
Што думаў… аб вясне.
Іду — штурхае ў спіну
Патронаў поўны дыск.
Ці ж сёння да ўспаміну
Пра майскія сады?
Было калісьці свята —
Здабыць яго цяпер!
Таму і лёс салдата
Кладзецца ў гэты верш…
З жыровіцкіх завулкаў
Вяла сцяжынка нас
Цераз ручай, што булькаў, —
Вясна была, вясна!
Прыйдзе вясна, вядома.
Ці стрэчу я таго,
Каго забралі з дому
Ў цяжкі, жахлівы год?
І ў лесе не сядзіцца,
Бо вораг нішчыць край.
Звініць каса на дзічцы:
Змагайся! Не ўмірай!

## За край

Адгукнулася рэха
На пачатак вайны,
Хто пабег, хто паехаў
З дарагой стараны.
Не маглі ўсе пакінуць
Родны дом, родны кут,
Паказаць немцам спіну.
А яны ўсё лятуць.
І сякуць кулямёты
Ўцекачоў на шашы,
Не пытаюцца: хто ты?
А таму не спяшы.
Колькі люду палегла
На дарогах, палях,
Мудрацоў і нягеглых,
Беларус ці паляк.
Хто ў кустарнік патопаў,
Той застаўся жывы,
Падкачала Еўропа,
Асцярожна жыві.
Назбіралася нанач
У густым хмызняку
Не зусім партызанаў —
Гэта толькі пакуль…
Сэрца ціснула болем
Ад навалы і страт.
Хто араў калісь поле,
Браў ружжо, аўтамат.
Вось табе ён і мсцівец
За падпалы і кроў.
Не карміў міласціва

Акупантаў ікрой.
Ну, не так усё проста,
Як малююць цяпер,
Зведаў беды з каростай,
Ды за край не цярпеў…
Не пацерпіць і сёння,
Хто з сумленнай душой,
Стане-ўстане спрасоння,
Мо яшчэ не дайшоў.

## Мяне кліча перагуд

Я лаўлю сябе на тым,
Што мне хочацца пад сосны,
Ў царства медна-залатых
Беларускіх дрэў дзівосных.

Апусціўшыся на мох,
Дыхаць водарам смалістым…
Дуб зялёны занямог,
Не варушыць нават лістам.

Прад вачыма, як тады,
Ўсе знаёмыя сцяжыны,
Дзе хадзіў я малады
Праз маліны і ажыны.

Ды не рваў іх у той час —
Партызанскія паходы
Гартавалі, грэлі нас
І ў дажджлівую пагоду.

Па вайне — ізноў у лес:
Нарыхтоўваць пні, жывіцу,
Каб чужынцу на стале
Было смачна пажывіцца.

Пацякла ў Маскву рака:
Марка, фунт, зялёны долар.
Засталіся на руках
Мазалі, пустая доля.

Бо былі мы пад пятой,
Загадалі — пустку робім.
Вось таму і лес не той —
Засталіся расцяробы.

І ўсё роўна не магу
Пазіраць на лес нейтральна.
Мяне кліча перагуд,
Саснякоў жыццё і тайна.

## Веснавы разліў

Вясеннім днём, вясёлым, гулкім
Прыходжу я на бераг — і
Не пазнаю малой рачулкі:
Прыселі ў пойме трыснягі.
Ледзь вецер ім чупрыны гладзіць,
А ты, вясна, паклон прымай!
Ды толькі як па воднай гладзі
Перабярэцца месяц май?

## Зноў у лесе

Ўжо суніцы наліліся
Вінным сокам — проста цуд.
Ані зайца, ані ліса
Не забіў ніколі тут.
Я іду сюды бы ў госці,
Не зламаў галінкі нат.
Ды не бачу ў лесе штосьці
Такіх жвавых зверанят.
А бывала, зайчаняты
Прыбягалі аж да ног.
Вось як свет змяніўся надта,
Хоць было не так даўно.
Сёння «госці» — браканьеры,
Што ім заяц ці барсук.
Чалавека, ні то звера,
Затаўкуць за каўбасу.

## Цвіце чабор

Мяне ловіць за нагу
Дзераза, што выпаўзае.
Міг — і заяц на бягу,
Нібы з торбы выпаў заяц.
Шугануў з ялінкі дрозд.
Паляжу хвілінку ніцма,
Хоць не поўнае вядро,
Бо прыйшоў я па чарніцы.
Ах, чабор! Цвіце чабор,
І расце трава-зуброўка.
Расступіўся сівы бор
Перад божаю кароўкай.
І казельчыкі растуць,
І зязюльчыны панчошкі…
Мо прайду яшчэ вярсту,
Заблуджуся хоць на трошкі.

## Ціхі вечар

Я яшчэ не абышоў
Родныя мясціны.
Успрымаю ўсёй душой
Сонца ў небе сінім.
За дарогай сонны гай
Зашуміць, прачнецца,
У зялёных берагах
Шчара разліецца.
Ціхі вечар дзесь плыве.
Цішыня ў прыродзе.
Толькі думкі ў галаве
Чарадою ходзяць.
Можа, мова загучыць
Так, як гэта трэба.
І ад злосці нейкі чын
Бразнецца аб глебу.

## Бусел

Сонечны дзень.
За трактарам бусел
Смела ідзе:
Ды я не баюся.
Страху было,
Як ляцеў на гумно
З дальніх балот,
Бо гарэла яно.
Знікла гняздо,
Маладая сям’я.
Дом, ты мой дом,
Ці патрэбны сам я?
Пырснуў увысь,
Каб адтуль старчмака…
А з сінявы
Самалёт: пачакай.
Пала страха.
Ды не скончыўся бой.
І памахаў
Небарака… у бор.
Сэрца баліць
На зламанай сасне.
Ночы былі,
І ніяк не засне.
Ён не адзін —
Паляцелі буслы,
З поля, нізін
Ціхі крык панyяслі.
А на вясну
Ўжо з сяброўкаю лом
Клаў на сасну —

Будаваў новы дом.
Мірны тут дзень,
Бязлюдна-дзівосны.
Ноч у гняздзе, —
Шумяць толькі сосны.

## Травень

Месяц травень — і я ў доме,
У той дзень на свет прарос.
І на леташняй саломе
Абсыхаў ад майскіх рос.
Хоць часамі сонца коса
Пазірала на мяне,
Падрастаў сабе ў пракосах,
Думаў, ліха праміне.
А яно паміж снапамі
Падкрадалася бліжэй.
І наскокі тыя памяць
Аж да смерці беражэ.
І паклёпы, і даносы
Пры панах, бальшавіках,
Больш пякучыя, чым восы,
Адштурхоўвала трука.
Ў лістападзе «раскулачыў»,
Загубіў сям'ю фашыст.
Толькі я адзін маячу
На сямейным дрэве — ліст.

*1996*

## Родная хата

Даўно адгула навальніца
Знішчальнай ваеннай пары.
Бядзе не дамо наваліцца
На мірныя хаты, двары!
Змаганне за волю прымаю,
Сябе аддаю як уклад…
Вось кліча дарога прамая
Ў шрапнеллю пасечаны сад.
І ўсё ж з той дарогі я збочу,
Бо цягне ў сваю старану.
Там хата стаяла на ўзбоччы —
Пякельны агонь не крануў…
Прабеглі гады тут у працы,
Прыходзіла многа сяброў.
У кожнага ў час акупацыі
На скроні лягло серабро.
Гарачыя ладзілі міны,
Ішлі на падрыў цягнікоў.
Пра тое растуць успаміны,
У снежны звіваюцца ком.
Бывала, прыходзіў на прызбу,
Каб раны душы загаіць.
А думкі, як промні праз прызму,
Праходзілі, ніклі ў гаі.

## Бярозкі

Веснавыя дарожкі
Ў лес паклікалі нас.
Для пасадкі бярозкі
Рыхтаваў трэці клас.
Потым дружна садзілі
Ўздоўж гасцінца рады,
Людзі каб не блудзілі
Ў снежны пыл, халады.
І каб летам ад спёкі
У цяньку адпачыў
Падарожнік далёкі,
Што ідзе ў далячынь.
Дрэўцы ўсе прыняліся —
Паглядзець любата.
На зялёнае лісце
Вецярок налятаў.
І зрываліся песні
З нашых вуснаў тады.
Мы іх дружна пранеслі
Праз вучобы гады.
Мы ўжо сталі другімі:
Дзе ўжо тая вясна!
А бярозы, як гімны,
Не пакінулі нас.

## Мая Радзіма

Мая Радзіма — навакола,
Дзе Гродна, Слонім, стольны Мінск.
Сягае ў Гомель, Віцебск, Полацк
І далей, толькі абнімі.
Яе абняць здаўна бяруся,
Як толькі сам на ногі стаў,
Бо на прасторы Беларусі
Чакае не адна вярста.
Ды ці ж мінеш лугі, дубровы
І хваляванні жытніх ніў?
І самаходзь паднімеш бровы
Насустрач летняй шырыні.
І рэчка спыніць: акуніся
Ў маё жывое серабро.
Не замачы сяброўскіх пісем
Пры пераходзе цераз брод.
А думкі ўперад, як эскадра.
Прырода ж раіць: не спяшы,
Прысядзь спакойна і на адрас
Паштоўку сябру напішы.
Не абысці сваёй Радзімы
Ні то за год, а і за век.
І як уважна паглядзім мы,
Яна да еднасці заве.
Радзіма любіць, каб прырода
Красу ўбірала ў берагі
І каб жывое, як пры родах,
У полі, лесе бераглі.
Ні пры якіх панах, умовах
Не адступалі ад свайго,
Каб у пашане была мова,

Як завітае ў хату госць.
Каб гаспадар з суседам ладзіў
І не рабіў са школы сквер —
Чужая мова ў перакладзе
Хай будзе ў нас, як у Маскве.

## Прадзедава мова

І вось зіма стаіць над краем,
Накрыла сцежкі і шляхі.
А наша мова не ўмірае,
Пераступае рэзкі схіл.
Мы — людзі прадзедавай мовы —
Не пусцім шэльмаў на фасад,
У летні час і ў час зімовы
Каб зіхацела як раса.

## Шумелі сосны

Шумелі сосны, з небам гаварылі,
Асіны ціснуліся між сасён.
Мы, пастушкі, у лесе не курылі.
Даўно было, здаецца, гэта сон.
Ішлі туды, нібы ў царкву лясную,
З забытых Богам родных Чамяроў…
А па тых дрэвах пілы паласнулі,
І выветрыўся, высах Мокры Роў.
Якую назву далі лесу-парку
Прапрадзеды практычныя наўздзіў!
Тут Каліноўскі піў ваду ў прыпарку,
Калі з «Мужыцкай праўдаю» хадзіў.
Іду тым Ровам, думкамі напоен:
Як добра, што падняўся маладняк,
Што па пяску ступае ён на поле,
Спяшаецца, бо мала яму дня.
А дні ў гады складаюцца, як кніга.
Ужо, напэўна, цераз сотню год
Нап’ецца праўнук з той крыніцы мігам,
Бо лес ваду дастане для яго.

## Родная мова

Яна неўміручая, родная мова,
З'явіўся на свет, а яна ўжо была.
У казках і песнях, у шуме сасновым,
Гучыць на старонках паэм і балад.
А час быў такі, што яе выбівалі
Гумовымі палкамі з цела, душы.
Не раз у катоўнях сырых пабывалі,
І кашаль крывавы нам грудзі душыў.
Давалі і срэбранікі — юдавы грошы:
Зрачыся, маўляў, сваёй мовы зусім.
І кожны па-свойму не быў тады горшы,
Змагаўся і ласкі ў паноў не прасіў.
А сёння ізноў тыя самыя здзекі
Над роднаю мовай краіны святой.
Мы кажам, мы зробім: не згіне навекі.
І сонца запалім па-над цемнатой.
А той, хто прымусы над моваю творыць,
Каб ён не дайшоў да дзяцей, да радні!..
Мы зробім усё, што на родных прасторах
Напоўняцца музыкай лепшыя дні.

## Песня

Ой, лясы сасновыя,
Звонкія бары!
Эх ты, песня новая,
Смела гавары!
Гавары, што збудзецца,
Хоць чакаць дарма…
Па шырокай вуліцы
Пахаджае май.
Сонца ззяе росамі,
Прывітанне шле…
Мы ж хадзілі босымі
Па разбітым шкле.
І з рукамі голымі
Рваліся ў палёт
Гартавала полымя
І вада як лёд.
Панскі ствол варонены
Нам глядзеў у лоб.
Песня? Забаронена!
Шчасце? Не было.
Тыя дні гарачыя
Ўсё яшчэ звіняць —
Маладосць не страчана —
Пройдзена яна.

## Родныя краявіды

Бадай, нічога больш на свеце
Нас не кранае, чым прастор,
Дзе поіць водарам нас вецер.
А ты ўсё думаеш пра што?
Не думаць мы ніяк не можам,
Пакуль працуем і жывем.
Вось прысыхае ў полі збожжа,
Хай сыпне дожджык — ажыве.
За невысокім касагорам
Іду далей — за поле ніў.
І ўспомніў словы «скосім гора»
Ў той час, як лес запаланіў.
Ён і цяпер чакае стрэчы,
Жадае шчасця і дабра,
Калі ты з сэрцам чалавечым,
Калі ты сам, як родны брат.
А вось і рэчка — цуд між цудаў.
І не пытайся: бераг чый?
На шчупакоў настройвай вуды,
Малькоў старайся берагчы…
І дажылі такой хвіліны:
Пасталі ёлкі — выбірай!
Па снезе зробім каляіны
Санямі аж за небакрай!

## Хто ж такі я?

Лезуць думкі на паперу,
Хоць гані іх кіем,
За нутро бяруць абеによる:
Хто ж я, хто такі я?
Як нас гналі між бярозаў,
Яшчэ недарослых,
Асыпаліся, як слёзы,
Буйным срэбрам росы.
Тыя росы зіхацелі
На былінках кволых.
— Камуністы! Захацелі
Беларускай школы?
З той пары паны лічылі
Мяне камуністам
І ад мовы ўсё «лячылі»,
Ад жывой, вячыстай.
Паварот — паноў не стала,
Час змяніўся крута.
Аднак мова, наша сталасць
Не квітнела рутай.
А фашыст усё парушыў,
Нішчыў школы, хаты.
Падняліся беларусы
Да святой расплаты.
Ну і я, узяўшы зброю,
Не сядзеў на печы,
Калі з ранняю зарою
Паспрачаўся вечар…
Потым чорную мякіну
Сыпанулі ў вочы —
Мову родную не кінуў,

Ні парываў творчых.
І, як бач, ярлык гатовы:
— Нацыяналіст ты!
Атрасаў даносы-словы,
Ды не стаў я «чыстым».
Новы дзень ужо наліўся
Кроўю майго сэрца.
Можа, я перамяніўся
У вачах прышэльцаў?

## Я — той самы

Я на сябе паглянуў збоку:
Як быццам гэта і не я,
А нейкі дзядзька сінявокі
Ці, можа, копія мая.
У пашпарт глянуў — я, той самы,
Што ў васільковым жыце рос,
Што майстраваў вясною сані,
Зімой на лета ладзіў воз.
Араў даўжэзную палоску
На касагорах, на пясках.
Палоску вецер выпалоскваў,
А плён мізэрны дождж пляскаў.
І воз спатрэбіўся… для панства:
Вазіў каменні на бальшак.
Ды не было тут ашуканства,
Бо быў закон: рабіць… за так.
Парадак зменіцца, напэўна,
Каб толькі пан не задушыў.
А каб мой верш звінеў напеўна,
Браў словы чулыя з душы.
Прырода наша не скупая,
Яна давала многа сіл,
Што і цяпер яшчэ хапае,
Пакуль ніхто не пагасіў.
«Мой родны кут, як ты мне мілы!»
Я хутка шлях свой завяршу,
Але да самае магілы
Агонь душы не патушу.
І заяўляю урачыста:
Сабе нічога не хачу.
Хачу, каб рэчка была чыстай,

Аб чыстым небе летучу.
Хачу, каб гай шумеў зялёны,
Каб было месца салаўю,
Каб край квітнеў блакітным лёнам —
Тады і шчасце я знайду.

## Тры сасны

Эх і стройныя сосны,
Маладосць і краса!
З вашых мачтаў высозных
Не пацешуся сам.
На зямлі беларускай
Ад відна да цямна
Вас любіць — не нагрузка,
А прыемнасць адна.
І куды б я ні ехаў,
І куды б я ні йшоў —
Там зялёнае рэха
І раскінуты шоўк.
На дарожцы і ў песні
Неразлучныя — тры…
Мо люблю вас балесна,
Што не маю сястры.

# Крыху гісторыі

Ішоў Пілсудскі — абяцаў
Свабоду беларусам.
А як рассеўся, нібы цар,
Нат не крануў і вусам.
А люд гібеў, але стаяў
За праўду і свабоду.
Былі хоць крыху, ды свая
Зямля і чысты водар.
Мінула ноч. Пабіўся дзень,
Ледзь ружавелі далі.
І з імі тысячы надзей —
Туды ж і паглядалі…
Прыйшлі свае: зямлю дадуць!
Бяры! Ды не бярэш ты?
Нібы для шчасця — на бяду
Забралі ўсю да рэшты.
Забралі плуга і каня.
За дзень заробіш «палку».
Свабода… Плач або канай
Зімою ці ў прыпарку.
Жыццё да ручкі давялі,
Усё ты гэта бачыш.
Чакаюць людзі: ну калі
Мінецца лёс сабачы?..

## Нас трое

Трэба нервы настроіць,
Каб трымаць на паверцы.
Як заўсёды, нас трое:
Беларусь, я і сэрца.
Мы бяду пераможам,
Калі возьмемся дружна.
Да нас хіліцца збожжа,
Каб адзначыць садружнасць.

## Кароткая сустрэча

Вочы трэці сустрэліся раз
(Дадамо ад сябе: не апошні).
Добры дзень, залатая пара
І дзясяткі пшаніцы на пожні!
На траву асядала раса.
— І куды ты збіраешся нанач?
З засмучэннем дзяўчына-краса
Абхапіла мацней партызана.
Ён застаўся б, калі б не вайна
І калі б не заданне — засада.
І таму не яго тут віна…
Закацілася сонца за садам.

## Жыта і пшаніца

Возьмем: жыта і пшаніца
Без марозу не маглі б…
Зноў іду я пакланіцца
Нашай матухне-зямлі.

## Думка пра Віслу

Стромкая круча навісла.
Пырскаюць промні цяплом.
І вырастае над Віслай
Горад пад назваю Плоцк.
Там два гады праляцелі
Ў службе, дзе Вісла цячэ.
Ўспомню — мурашкі па целе
Бегаюць сёння яшчэ.
З кручы высокае конна
Ехалі прама ў раку.
Выкрыкнуў вахмістр: «Спакойна!»,
Ўгору узняўшы руку.
І не прайшлі палавіны
Той вышыні, што была,
Як, загрымеўшы лавінай,
Рухнулі конь і улан…
Моўчкі даехаўшы долу,
Спешыўся ўвесь эскадрон.
З жалем салдацкую долю
Нёс у казармы ўжо ён.
Некалькі дзён на тым месцы
Мы штурмавалі абрыў.
І дасягнулі нарэшце
Мэты вайсковай, сябры…

## Навагодняе

Ізноў стаю на сутыкненні
Гадоў, а можа і эпох.
Лаўлю адвечныя праменні,
Якіх ніхто не перамог.
І не пазбегнуць успамінаў
Пра барацьбу і маладосць,
Што праляцелі над краінай,
Ды не загінулі, а ёсць.
Бязмежная і дарагая,
Свабодная, як белы дзень,
Няхай зара не дагарае,
Задума светлая прыйдзе.
Дастатак прыйдзе ў нашы хаты
Не з казкі — з працы ля станка,
Ды прынясе з палёў араты,
Як сонца ў стомленых руках.
І мір вазьмем у свае рукі,
Падвоім сілы гэтых рук!
Разматвай, студзень, завірухі —
Ці ж ёсць зіма без завірух?!

## Адкуль туга?

Адкуль туга? Даўно пара
Згарнуць мятлою гэты накіп.
Ды не іду я на парад,
Бо там чутны вайны адзнакі.
Я двойчы пакідаў жытло —
І сельскае, і гарадское.
Перад вачамі праплыло
Нямала слёз, крыві людское.
Клін трэба клінам выбіваць,
Спрадвеку мовіцца ў народзе.
Якія ж сродкі выбіраць,
Як цемрашал вайну народзіць?
Адказ адзіны быў: адпор
Бандытам хцівым і нахабным!
І нездарма падаўся ў бор,
У мірны час такі прывабны.
А да бяды — падаць рукой.
Аб чым прарочыць не бяруся.
Хоць мірны час, дзе ж супакой
На нашай роднай Беларусі?
Але пакуль я на нагах,
З дарогі простае не збочу.
Хай прападзе мая туга,
Як гэты снег, што выпаў ноччу!

## Крокі

Расхіліла маці рукі,
І ступіў я першы крок.
Для далейшае навукі
Гэта быў і першы ўрок.
А вясна шугала ўсюды,
Разлівала белы цвет.
Дзе ні глянь — краса і цуды,
Дзе ні глянь — шырокі свет.
І ў даль клікаў свет шырокі,
Ветрык жыта хваляваў.
А я ставіў свае крокі
Ад парога да хлява.
І заўсёды не хапала
Мне разгону на двары.
Птушкі ж носяцца з запалам
Аж да сонца, што гарыць.
Вось і ластаўка маланкай
Уразаецца ў блакіт.
Цэлы дзень можа ад ранку
Шыбаваць ва ўсе бакі.
Чалавеку ставяць межы:
Сюды можна, туды — не.
Ад Стаўбцоў да Белавежы
Ў нашай роднай старане.
Зразумеў я гэта позна,
Як хацеў пабачыць Менск.
Кажуць: едзь у Гданьск, у Познань.
Ты не быў яшчэ ў турме?
Так, не быў яшчэ на дзіва,
Хоць шпікі не раз траслі,
Не мінаў і дэфензівы

Ў майскім цвеце яблынь, сліў.
Паліцэйскія вадзілі
Ў пастарунак: крокам марш!
Там не гладзілі, а білі.
Дык нашто ж тая турма?
Пэўна, свет не быў бы светам,
Каб не ўбачылі братоў.
Але вылюдак Саветаў
Тых братоў без меры тоўк.
Людзей гналі на расправу,
Чуўся мат і перамат:
— Крок улева, крок управа —
Націскаю аўтамат!
Без віны мільёнаў сорак
Гналі ў пастку — па прамой.
Прайшлі рэкі, касагоры —
Не вярнуліся дамоў.
А дзе ж каты-ліхадзеі,
Што расстрэльвалі людзей?
Няўжо ўлады прагглядзелі,
Як настаў свабоды дзень?
Ой вы, крокі, свет шырокі,
Птушкі-ластаўкі ўгары!
Няўжо ранак сінявокі
Так бязмэтна дагарыць?
Не вярнуцца ж у дзяцінства
Крокі першыя стаўляць.
Ці праціснецца праз свінства
Ў гэтым свеце немаўля?
І не зможа нават Нобель
Даць ратунак дзетвары,
Як не знішчым печ-Чарнобыль,

Што ліпее да пары.
Будзем цвёрда ставіць крокі
На зямлі сваіх дзядоў!
Будзем моцна ставіць кроквы,
Будаваць свабоды дом!

## Да светлага юбілею

Кожнага з нас маці нарадзіла,
Бы адкрыла новую зару.
Прыняла ў абдымкі нас Радзіма,
А Радзіма — гэта Беларусь.
І былі парэпаныя рукі
На палях прыгонных у матуль.
Білі ў вочы шротам завірухі,
Наганялі смутак, цемнату.
А як дзеці выраслі ў асілкаў,
Разагналі хмары і паноў,
Жалі ніву трактарнай касілкай.
Ды бяда нахлынула ізноў.
І агнём, і скрыгатам метала
Пракаціўся па краіне гад —
Наша воля, праўда пазмятала
Бруд фашысцкі з уцалелых хат.
Хоць загінуў кожны з нас чацвёрты
(Колькі знішчана перад вайной!),
Мы ідзём у заўтра крокам цвёрдым,
Непахісна, з ранняй сівізной.
Быў Чарнобыль, былі Курапаты.
Спадзяёмся, іх не будзе больш,
Калі мы праявім волю ўпарта,
Не забудзем крыўду, здзек і боль.
Дзякуй Богу, час мінуў агідны,
Толькі ёсць яшчэ адно «але»…
Нашу мову заглушылі злыдні,
Гэта — цень на светлы юбілей.

## 1946–1996

Дзе нябачная каса
Перахоўвае аблічча?
Пра Купалу што пісаць,
Што загінуў таямніча
Ды апошняга пісьма
Не пакінуў для патомкаў?
Вось адказу і няма —
Разбярыся ў гэтым тонка.
Пяцьдзясят гадоў таму
Сустракаўся з цёцяй Ўладзяй.
Не паверыла, што муж
Са сваім жыццём не ўладзіў.
Атрымаў я з добрых рук
Дар з аўтографам на кнізе.
— Дзякуй Вам і Песняру, —
Галаву ў паклоне знізіў...
Завіруха будзе выць,
Як на памятнай сустрэчы, —
Юбілей паўвекавы
Адсвяткую ў гэты вечар.

## Фасоля

*Памяці Пятра Дабрыяна,*
*слонімскага паэта*

Не хадзіў Пятро па розум
Да нябогі-батрака,
А прайшоў Картуз-Бярозу,
Каб свабоду сустракаць.
А свабода, як імгненне,
Зробіць пробліск — і няма.
Так на нашым пакаленні
Праляцеў нячутна май.
Вось у чэрвені гарматы
Страсянулі краявід.
Бот ступаў з нямецкім матам
Па нявіннай па крыві.
Ды падпольшчык не спужаўся,
Трэба зброю ў рукі браць.
І пайшоў, вінтоўку ўзяўшы,
Для народнага дабра.
Раз сядзеў на прызбе доўга,
Пазіраў на хвалі ніў
І расказваў пра Міндоўга,
Крыжакоў які граміў.
Перамога. Але з бою
Не прыйшлі дадому ўсе.
З Петрусём здавалі зброю,
Селянін браў плуг і серп.
Сустракаліся мы часта,
Партызаны-землякі.
А ў тых лозах вецер шастаў,
Дзе ляжалі ля ракі.

Вось і сёння так, як звыкла,
Ў вачах — радасць-сінява.
Ды з кішэні штосьці выклаў
І фа-со-ля праспяваў.
А фасоліны, як дзеці,
Ў розных колерах былі.
Змог ва ўбор такі адзець іх
Толькі казачнік былін.
Мы фасолю размнажаем
Пасля смерці земляка.
Сэрца сцягваецца жалем,
Што няма каго чакаць.
Прабягае сум па твары,
Як фасоліны нясу,
Суп фасолевы як варым…
Прападзі, нягоднік-сум!
Барацьба ж ідзе за мову —
Ён быў шчыры барацьбіт.
Бо варожыя замовы
Хочуць збіць людзей з арбіт.

## Развеяліся хмары

*Жонцы Ніне*

На зломе дзён бывае так,
Што круціць чалавека.
І ты — прыглушаны вятрак
На ветры, што аднекуль.
І застаешся сам-адзін
На ўсенькім белым свеце.
Ва ўладзе моташных гадзін,
Дзе сонца цьмяна свеціць.
Але прыходзіць час, сям’я
Ствараецца паўторна.
І мне здаецца, што сам я
Выходжу з ночы чорнай.
Сяброўка трапілася мне
Не горшая, чым марыў.
І перастала ўжо цямнець,
Развеяліся хмары.
Часцей цікавіць нас: што, дзе
Ў эфірным хваляванні.
А ў згодзе крочым мы штодзень,
Бо, кажуць, ёсць каханне.
А без яго ў сям’і не быць
Ні згодзе, ні парадку.
Пытанні лашчацца нібы,
І то, як цень — украдкай.

## Каласы

Раскрывае дзень завесу,
Аж у вочы коле сінь.
Сонца вылезла з-за лесу —
Залацяцца каласы.
Ну, вядома, цешыць вока
Даспяванне — будзе толк.
І разносіцца навокал
Шум няскошаных жытоў.
Хлебароб рыхтуе долю,
Не спыняе барацьбы.
Каласы звісаюць долу —
Ураджай павінен быць!

## Там, за рэчкай…

Дажджу ўлетку не было,
Аж глядзець няміла.
Раптам гром. На вербалоз
Слой пяску намыла.
Сказ ідзе не пра лазу —
Пра такую шкоду,
Што гады нашы паўзуць
Цераз пень-калоду.

## Паэт-бунтар

Зарад вялікі ў малым целе
Адвагі, праўды і дабра…
Паны зламаць цябе хацелі
І тую праўду адабраць,
Каб люд працоўны крыла цемра,
Каб дзеці елі лебяду,
Давалі ў пяты, білі ў цемя,
А ты ўставаў, казаў: «Іду!»
Ішоў туды, дзе закіпала
Душа народная ў бядзе.
Перад вачыма быў Купала,
Які да светласці ідзе.
Ішоў палеткам — слухаў шолах
Мізэрных, дробных каласоў.
Ішоў на бой, каб мова, школа
Зняла з сябе пакутны сон.
Не задушылі цябе краты
І дэфензіўныя шпікі —
Ты пілаваў, не толькі кратаў,
Каваў свабоду на вякі.
Таўлай — бунтар. А словы — выбух.
Ім быць не толькі на стале…
Шкада, што ты так рана выбыў,
Цябе да болю нестае.

# Ігнат Дварчанін

Былі затуманены далі
Ад пораху і ад маны.
І людзі на пальцах гадалі:
Дакуль будуць мучыць паны?
А гнеў нарастаў у маўчанні,
Які прыкрывала страха.
І з заклікам выйшаў Дварчанін
З такіх жа прыдушаных хат:
— Захопнік людзей апаганіў,
Давёў да галоднай нуды.
Мы вырашым лёс у змаганні,
Смялей жа, шчыльней у рады!
За покліч той — панскія краты.
Завошта ж Сібір ды пурга?
Ці, можа, ўзялі Курапаты?
Хавае мо іншы курган?
У бронзе стаіш ты. Спатканне
З жывымі… праз столькі гадоў!
Клянёмся: у бездань не кане
Любоў нашых сёл, гарадоў!

## Такія дні

Даймае паясніца.
Не дзіва, бо гады.
А ноччу часта сніцца,
Што быццам малады.
Кашу мурог аселіц,
Вязу снапы ў гумно.
Такія дні аселі
Ў маёй душы даўно.
Ды іх да самай смерці
Ні вылюдкі з цэка
Ніяк не могуць сцерці,
Ні прэзідэнцкі ўказ.
Я не з Масквы, не з Лодзі —
Спрадвеку тут мой край.
І не бандыт, не злодзей —
Не забіваў, не краў.
Краінай кіньце гандаль,
Ліць масла на агонь.
Бо ваша прапаганда
Да месца аднаго.

## Стыкоўка пакаленняў

Я ізноў туды лячу,
Станаўлюся на калені,
Каб, адведаўшы, адчуць,
Дзе стыкоўка пакаленняў.
Прашчур мой ішоў у лес
Наглядаць з дуплом калоду.
І на дрэва тое лез,
Каб дастаць дзіцяці мёду.
На дзічыну — без ружжа —
З вострай тычкаю рагатай.
А цяпер — ды проста жах! —
На людзей пускаюць атам…
Вось мне хочацца туды —
У дзяцінства без трывогі:
З каміноў каб віўся дым,
У даль клікалі дарогі.
Каб унук ішоў у лес
Па грыбы — не па мядзведзя.
Каб ніколі ў танк не лез,
Што, як прывід, едзе, едзе…

## Былы партызан

На лясісты заглянуў узгорак:
Ўперамешку сасняк, беразняк.
Часам з радасці, часам і з гора
Накіроўвае ў лес баразна.
Я — ратай, адарваны ад плуга, —
Вось таму баразною ішоў.
Ад крыві набрыняла папруга,
Чырванелі і цела, і шоўк.
А кашуля была з парашута —
Я такое ніколі не меў.
Чырканула. Ляжаў пару сутак,
Ад бяздзеяння проста нямеў.
Праз паўсотні гадоў не па гора,
Што пакінуў, сплыло як вада, —
А прыйшоў на лясісты пагорак,
Каб падзяку прыродзе аддаць.
Не сасоннік — шумяць ужо сосны.
Ці прыгадваюць хлопца ў крыві?
Ды не гэта! На сэрцы зноў млосна:
Хто дарогу свабодзе скрывіў?!

## Хлеб і глянец

Так прыемна — сонца гляне,
Віхар стомлены заціх.
Кажуць, хлеб важней, чым глянец
У затыцканым жыцці.
Ноч на вуліцы — прывычна —
Са святлом да нас прыйшла.
Толькі чэрці гістарычны
Зацямняюць людзям шлях.
Пацягнуўся дзень зімовы.
І вы ў школу ідзяце,
Дзе не чутна роднай мовы
Ні ў дарослых, ні ў дзяцей.
І маўчыць мясцовы дзеяч,
Што залез у сельсавет…
Пад тым сцягам, што ірдзее,
Адпраўлялі… на той свет.
Вось пытанні. Шмат пытанняў
Неабходна вырашаць.
Будзем верыць — не патоне
Наша праўда і душа.

## Ці дажыву?

Як вядома, застаўся адзін —
Усіх родных вайна перацерла.
З тых далёкіх, крывавых гадзін
Вочы страцілі прыгаршчы перлаў.
Як і большасць, жыву з працы рук
І не маю катэджаў-харомаў...
Не хачу, каб мая Беларусь
Скалыхнулася выбухам-громам.
Мае ўнукі растуць, як і ў вас.
Ім патрэбны навука і сіла,
Каб свабодна прыйсці да жніва
І каб смерць без пары не скасіла.
І тады чалавек — гаспадар
Столькі вырасціць збожжа на гонях,
Што не будзе прасіць, каб хтось даў
Хоць скарынку, як гэта сягоння.
Можа, спраўдзіцца сон, што прысніў,
Быццам праўнука ўнук мне прыносіць!
І я крочу ў прастор родных ніў,
А ўгары пашыраецца просінь.

## Мо апошні юбілей

*Івану Чыгрыну*

Бы ступаю па смале,
Не падняць падэшвы.
Мо апошні юбілей,
Дні юнацтва, дзе ж вы?
Адбівала грунт-зямля
Навальніцаў хвалі.
А мяне паэт-зямляк
Пэўна зноў пахваліць.
Родны дом, палі, лясы —
Вось дзе мая сіла!
А ўсяго я — проста сын,
Толькі не асілак.
Родны край не прадаваў,
Зліты кроўю, потам.
І не плакала ўдава
Ад маёй «работы».
Я змагаўся так, як мог, —
Пугаю не ляскаў,
Каб адвечнае ярмо
Засталося ў казках.
Я — у школу. Нельга вам —
Паказалі кія.
Пакланіцеся панам
(А былі такія)…
Дэфензіву перажыў,
Перажыў гестапа.
Мо матляўся б на крыжы,
Каб папаўся ў лапы.
Не зхлавілі — ваяваў,

Не гуляў у фанты.
Засталася галава,
Зніклі акупанты.
Але знішчылі яны
Родных перад гэтым…
Пасля страшнае вайны
Зноў прыйшлі Саветы.
Я для іх — ні брат, ні сват,
Яшчэ «без даверу».
Лезлі ў вочы, як аса,
Выгналі за дзверы.
І яшчэ «віна» была —
Беспартыйны, брацця.
Што сказаць пра такі лад?
Дзе за працу брацца?
Так цягнуўся доўгі ўрок
Для жыцця, свабоды.
Ці зніму калісь таўро
З сэрца назаўсёды?

## Вызваленне

Цёплы вецер, шум сасновы,
Над старонкаю — зара.
Ёсць адно такое слова,
Што паўторыш сотню раз.
Вызваленне… Вызваленне…
Ты — бязмежнае як сінь,
Ты — і вечнасць, і імгненне,
Ты — прыліў магутных сіл.
Пасля буры мала маем —
Павялічым за гады,
Няхай толькі залунае
Сцяг свабоды малады.
І ахвяраў не забудзем,
Ставім шчыт на рубяжы.
Беларусь была і будзе
Красавацца, вечна жыць!

## А вёска кліча…

У думках я ізноў на вёсцы,
Дзе прабягалі зімы, вёсны.
Мяне заблытаць хочуць вось чым,
Што не вярнуць нам час дзівосны.
Такая праўда не здзівіла,
Пакуль рабуюць ліхадзеі
Ад розных скарбаў Радзівіла
Аж да сялянскае кудзелі.
Таму не дзіва, што злачынец,
Каб затуманіць нашу галаў,
Ён школу родную зачыніць:
Хай люд гібее цёмны, голы.
І будзе бэсціць нашу мову,
Чужую пусціць па калгасе.
І знішчыць кнігу ў дзень зімовы,
Што за іконай засталася.
«Мой родны кут, як ты мне мілы!»
Тваё цяпло ў душу запала.
Ажно да самае магілы
Яго не выпаліць напалам…
А вёска кліча. Там на санках
Перакуляўся ў снежным рове.
І бег на ток: ляжыць трасянка*,
Што не паклаў яшчэ карове.
А вёска кліча і паджылых,
Цягнік святлом прарэзаў хмары.
Цыганка ж мне наваражыла,
Каб пра юнацтва я не марыў…
Не, наша мова — не трасянка,

* Трасянка — сена, ператрэсенае з саломай.

Што Дземянцей у «дар» падкінуў.
Ад нашай мовы свежым ранкам
Адвеем брудную мякіну.
І з сена выберам салому,
Каб вечна быў мурог пахучы.
І з прымусовага залому
Не шыбанем у прорву з кручы.

## Майскі дождж

Дождж ідзе, як майскі госць,
Ў міг прырода маладзее.
На ўраджай надзея ёсць,
Хлебаробская надзея.
Блісне сонца — і пайдзем
Па зялёнай акварэлі.
Вось такой красы нідзе,
Як у нас, мы не сустрэлі.

## Даўно на хутары не быў

Даўно на хутары не быў,
Ды заглянуць туды баюся.
У горадзе сяджу, нібы
Перапалоханы той бусел.
Як атрымалі тут надзел
Пасля раскіданых палосак,
Абутак гумавы надзеў
І разганяў туман бялёсы.
Спачатку конік плуг цягнуў,
Але не зрэзаў дзёран нават —
Рыдлёўкай рэзаў баразну,
Капалі з бацькам мы канаву.
І асушылі верхні слой
І высеклі хмызняк з карэннем,
Каб жыта буйнае расло.
Расло… да пэўнага здарэння.
Калгас раззброіў да сярпа
І ўсю зямлю забраў дазвання.
Не змог забраць палеткаў пах
Падчас такога панавання.
Набыў калісьці, пры цары,
Пяць дзесяцін, каб мелі ўнукі.
Пра гэта бацька гаварыў,
У роспачы ламаўшы рукі.
Даўно на хутары не быў.
І хочацца на грушу глянуць
І прабірацца па грыбы
На недалёкую паляну.
І вельмі крыўдна, што калгас
Не сее збожжа ў полі роўным.
Прыйшла ж бязглуздая чарга —

Аддаў пад дачныя шпакоўні.
Што наша — можна аддаваць
Або прадаць любым чужынцам.
Хай беззямельная ўдава
Заўсёды марыць аб скарынцы.
Няўжо і сёння мы рабы,
Што на сваё правоў не маем?
Даўно на хутары не быў —
Баюся, сэрца не стрымае.

## Кветкі Радзімы

Пакуль не стукаўся аб тын,
Не пералез праз гэты плот,
Не гавары пра луг, аб тым,
Што многа кветак расцвіло.
Так павучаў мяне сусед,
Калі я праз паркан глядзеў.
А водар слалі кветкі ўсе
З павевам ветру кожны дзень.
Мае сябры далёка так,
Пасланцы тых палёў, балот.
Пісьмо падкінуў Максім Танк.
О, колькі радасці было!

## «Чыжык Беларускі» Гальяша Леўчыка

Гэтай кніжцы я — равеснік.
Леўчык быў, напэўна, рад,
Што адгукаў напрадвесні —
Выдаў вершы на-гара.
Паляцеў нябога-чыжык
З-пад рудых сялянскіх стрэх.
Пры цяжкіх нягодах выжыў
І прыхільнікаў сустрэў.
Царскі цэнзар, пан вяльможны
І савецкі — заадно ж,
І нямецкі: чытаць можна…
Толькі аўтара — пад нож.
Ні прысуд, ні гільяціна —
Без суда забіў фашыст.
Вось як страцілі мы сына,
Што любілі ад душы.
А кляймо geprüft* на кнізе
Не адзін стаяцьме век.
А значэнне гэтай візе —
Расстраляны чалавек.

* Праверана (*ням.*).

## Родная старонка

Старонка родная мая,
Ты зноў вясною расцвітаеш.
І салаўіная ў гаях
Да сэрца песня далятае.
І хочацца спакойна жыць,
За што ішлі насустрач войнаў,
Каб цвёрда стаць на рубяжы —
Магутна, творча і спакойна.
Такое месціцца ў душы,
Каб дасягнуць жаданай мэты,
Каб нас сусед не задушыў,
Што хоча ўзвысіцца над светам.

## Тры калгасы імя Сталіна

Тры калгасы імя Сталіна!
Ці не многа на раён?
Нам сказалі, што мы сталі на
Перамозе светлых дзён.
Перамога была радаснай:
Працадзень — і ў сшытку «кол».
Без закускі, саракаградуснай
Весяліся навакол.
Пра каня і плуг з калёсамі
Марыць толькі цемната.
Клапаціцца ўсімі лёсамі
Будзе першы сакратар.
Пан Пілсудскі з’еў паўсучкі,
А працоўных правадыр
З’еў сабаку за паўсуткі,
Ўзяўшы ўлады павады.
Ды нацяжка тая трэснула —
І імперыя на ўзлом.
Ўсіх генсекаў парастрэсвала,
Што прынеслі людзям зло.

## На Дзяды

Я тры рэжымы перажыў:
Быў пан, быў гітлерац, «таварыш».
І памяць кажа: беражы,
Каго яны закатавалі.
Палегла многа без віны
За мову родную ў змаганні.
А голас іх дасюль звініць
На гістарычным скрыжаванні.
Каб не забылі мы наш род
І тых, каго няма на свеце,
Каб ведалі, што мы — народ,
Што дзень свабодаю нам свеціць.
Свабодны люд стварыў бы лад
Дэмакратычны, не жалезны,
Каб Беларусь наша была
Краінай вольнай, незалежнай.

## Зорка

Радасць свеціць мне ў сэрцы
Зоркай з неба, з выш,
Каб ў нядолі, паняверцы
Мог нясці свой крыж.

*З песні секты метадыстаў*

Мелодыя жыве, трывожыць
Душу лірычнасцю напеўнай.
Ды словы не маглі стрывожыць
Таго, што ведалі напэўна.
А ведалі, што наша зорка
Паможа крыж зваліць адвечны.
Да радасці з нядолі горкай
Мы паляцім па Шляху Млечным.
І чалавек, як цуд дзівосны,
Святло зялёнае запаліць
Пад сінім небам, там, дзе вёсны
Яшчэ ніколі не ступалі.

## Гляджу ў акно

— Ты пехатой ці на калёсах? —
Пытаўся бацька ў свайго сына.
Ды разышліся родных лёсы,
Бы ветрам здула ў дымцы сіняй.
Старэйшага — у лапы катаў,
Па твары біў эсдовец рыжы…
Малодшы помсціў з аўтаматам
І на бяду, пакуту — выжыў.
Гляджу ў акно — ідуць з палону,
І радасць свеціцца ў вяскоўцаў.
Мне каб той радасці палову,
Шчаслівы быў бы я бясконца.
Не суджана было дамашнім,
Апроч мяне, вярнуцца ў хату,
Відаць, быў дзень такі ўчарашні,
Што спарадзіў страшэнны фатум…
І вось гляджу герояў фільмаў,
Вітаю поспехі, удачу.
Па тых, хто падае няўхільна,
Я мімаходзь ціхутка плачу,
Бо набягаюць параўнанні,
Якіх не ў сілах я адкінуць…
Хай дзень ідзе ў праменнях ранніх,
Спакоем вее на краіну!

## Між дубоў векавых

Ці то ўлетку, ці ўвосень —
Лес мне родны заўжды.
І іду, каб прыносіць
Сваё сэрца туды.
Неяк жыта пажалі,
Я — у лес, ад душы…
Адзін раз на пажары
Быў тады — патушыў.
Там, у вечнай малельні,
Я зусім як дзіця.
І прыемна мне вельмі,
Ды чаму так — няўцям.
А сляды на аблíччы
Адкладаюць гады.
І чакаю, мо клічуць
Мяне продкі туды?
Набірацца зноў сілы
Між дубоў векавых?
Супраць зла і насілля
Заклікаць, хто жывы?
Бо ў парыве адзіным
Пераможам мы зло.
І ніводнай хаціны
Не дазволім на злом!



Зранку сонца лашчыць
У снягах прастор.
Сказ пра лёс лядашчы?
Ды яшчэ пра што?
Вось пра што: трывожыць
Роднай мовы лёс.
Колецца як вожык,
Калі рвеш быллё.
Вырваць з мовы смецце
Ўжо прыйшла пара,
Як усе на свеце,
Выйсці на парад.
А то лезе погань,
Быццам яе край.
Не прасіць нам Бога:
Злыдняў пакарай!
Цёпла сонца лашчыць
Промнямі з гары.
Сам жа лёс лядашчы,
Знайце, не згарыць…

## Снежная зіма

Куды ні глянь — такая бель
Зраўняла сцежкі і загоны.
Хоць бы праталіна табе,
Карову нават не загоніш.
Надзіва снежная зіма,
Не памятае дзед ніколі.
Санямі пыл пара ўзнімаць,
Рабіць дарогі ў наваколлі.
Выходзяць з хаты бацька, дзед,
І каня ў санях падалі нам.
Ахапак сена дзед кладзе —
І мы імчымся па далінах.
І пажадалі нам дабра
Ў абдымках белае зімы.
А хто ж такія гэта «мы»?
Ды гэта — я, малодшы брат…
Ізноў прыйшла да нас зіма,
Зраўняла межы, рубяжы.
Ды не прыходзіць брат. Няма…
Ля Івацэвічаў ляжыць.

## Жыву ў Беларусі

Пахваляцца не бяруся,
Што жыву я ў Беларусі.
Трэба ведаць сёе-тое,
Хоць яно і не святое.
Пра Кейстута і Міндоўга
Мы не будзем — вельмі доўга.
І прыкметна «тое» вось чым,
Што радзіўся я на вёсцы.
Характэрна, што вяскоўцы
Не ўжывалі чужых слоўцаў.
Да любога прыйдзі дому —
Гаварылі па-прастому.
І хоць школ сваіх не мелі,
Ад дзядоў не анямелі:
Гаварылі мовай «хамскай»
І не польскай, не в’етнамскай.
Мы свабоду ўсе любілі,
Дык за гэта нас і білі
Ў дэфензіве, пастарунку.
Ды не стаў народ у струнку…
І другую помню дату:
Прыйшлі рускія салдаты
І, наеўшыся аладкаў,
Балбаталі вельмі гладка.
А пад’еўшы з салам кашы:
— Поле, лес, заводы — вашы.
Дзе быў пан, засеў «таварыш»
І загроб усе тавары.
Селянін зрабіўся «шчасным» —
Поле сталася калгасным.
Там за працу ставяць «палку»,

Што не сніў ніколі змалку.
З такой «радаснай» хвіліны
Шмат хто з вёскі ў горад лінуў.
Не хацеў вучыцца красці,
Не жадаў такога «шчасця».
ДПУ не горш за «пшэкаў»
Распаўсюдзіла «апеку»,
Вызначала: ты — нячысты
Пад нагамі ў камуністаў.
Калі тут замнога ўгледзеў,
Адпраўляйся да мядзведзяў.
У Сібіры свет шырэйшы,
Знойдзеш там сабе і гейшу*.
Там прастор такі шырокі,
Не замерыш яго вокам.
Там сустрэнеш сваё свята
Для такіх, як ты, заўзятых…
Крок на захад — там граніца,
Стрэл у пушчы — ляжаш ніцма…
Праўда, я не быў на Ўсходзе,
Дзе мядзведзь кудлаты ходзіць.
І на Захад не віхрыўся, —
У сваім саку варыўся…
Зусім іншы ўжо кавалак —
Фашыстоўская навала.
Не спужаліся мы сталі,
Супраць ворага паўсталі.
Партызанскія атрады
Разбівалі ўвесь «парадак».
А падпольная разведка

---

* Маецца на ўвазе сяброўка жыцця. У Японіі гейша — жанчына з культурна-грамадскімі якасцямі.

На франтах страляла метка
І ў тылах зрывала планы
Фашыстоўскіх служкаў п’яных…
На сцяне хтось вывеў мелам:
«Перамога адгрымела».
Адгрымела. І ў райкаме
Пакацілі цяжкі камень
На людзей зусім нявінных,
Хто на немцаў ставіў міны.
Не далі і тым адстаўкі,
Хто зрываў сельгаспастаўкі
Для фашыстаў у акопы,
Ствараў гадам недахопы…
Вось і я прайшоў праз тое,
Што архівы пільна тояць.
Не даваў спакою гадам
Без крамлёўскага загаду.
Звёў сям’ю фашыст са свету —
І замоўчваецца гэта…
І ніхто мяне не змусіў
Жыць у роднай Беларусі.
Веру я, што ўсе нягоды
Не ад нашае пагоды, —
Ад таго, хто тут балюе,
Намі, грэшнымі, кіруе.
Каб дайсці хутчэй да ладу,
Трэба мець такую ўладу,
Каб заўжды была з народам,
Даражыла сваім родам.
А радзіма ў нас такая,
Што свабоды ўсё чакае.

*1998*

# Успаміны

## Святлу насустрач

Свядомае дзяцінства прыходзіць паволі, праступае шторaз ясней, нібы святло пры нараджэнні дня. Помню, калі былі ў бежанстве, у Кіеве, бацька і маці, узяўшы мяне з сабою, ішлі на нейкае галасаванне і гаварылі, што аддадуць свае галасы бальшавікам. Было мне тады пяць ці шэсць гадоў. Вельмі хацелася, каб усе людзі галасавалі за бальшавікоў. Бедаваў толькі, што я яшчэ малы і не магу прыняць удзелу ў гэтай кампаніі. Ішлі і чыталі нейкую вершаваную лістоўку: «Везут меня иль сам я еду, но знаю, сидя на возу, что рано праздновать победу — гады ползают внизу».

Аб якіх гадах ішла гутарка, тады я не разумеў. Але здагадваўся, што не аб вужаках.

З той пары слова «бальшавік» глыбока запала ў сэрца, а жыццё дапамагло расшыфраваць яго значэнне.

І вось сям'я вярнулася ў родную вёску Чамяры, што на Слонімшчыне. Прыехалі на заросшы быллём двор (хата стаяла на месцы). Панавалі кайзераўскія немцы, і панаваў голад. Ад суцэльнага недаядання памерлі два старэйшыя члены нашай сям'і. Бацька, маці, бацькава маці і я неяк выжылі.

А тут пачаліся падзеі. Наступала Чырвоная Армія, праз паўтара месяца — белапалякі. Праз чатыры з

паловай месяца, у ліпені 1920 года, зноў прыйшла Чырвоная Армія. Помню, як у нашай хаце чырвонаармейцы паставілі палявы тэлефон. І камандзір «таварыш Антановіч» часта круціў ручку апарата. Чырвонаармейцы частавалі смачнай салдацкай кашай. З таго часу і «таварыш Антановіч», і байцы засталіся ў памяці як родныя людзі.

27 лістапада 1920 года часці Чырвонай Арміі на доўгія гады пакінулі Слонім. Ці варта казаць, што людзі плакалі, не хацелі быць пад уладай буржуазнай Польшчы.

З першым адступленнем бальшавікоў на нашу сям’ю навалілася вялікае гора. Польская жандармерыя лавіла бацьку, каб расстраляць, бо ён быў сакратаром валаснога Савета. Спатрэбіўся хабар, а ў нас акрамя каня, на якім прыехалі з Кіева, нічога не было. Каня завялі да знаёмага слонімскага купца, і праз некалькі дзён, абросшы доўгай барадою, бацька вярнуўся з лесу…

Як ні было цяжка, а я за гэты час навучыўся чытаць па-руску і пайшоў «перавучвацца» ў польскую пачатковую школу.

Балюча ўспамінаць тыя часы. Усё было чужое: і мова, і школа, і ўлада, якая лічыла нас хамамі, людзьмі ніжэйшага гатунку. Белапалякі называлі нас «тутэйшымі», у лепшым выпадку — рускімі. Высветліў, хто мы такія, калі трапіў у рукі зборнік вершаў Янкі Купалы «Гусляр».

Калі чалавек ведае, хто ён і што трэба змагацца за свае правы, тады яму становіцца лягчэй на душы. Нешта падобнае, у нейкай ступені, адбылося і са мною. Я даведаўся, што я — беларус і павінен вучыц-

ца ў беларускай школе. Да таго ж пачалі трапляць у рукі лістоўкі КПЗБ, якія заклікалі народ змагацца за родную школу.

Жаданне вучыцца ў беларускай школе захапіла і іншых аднавяскоўцаў. І ў вёску Чамяры прыехаў з Віленскай беларускай гімназіі вучань старэйшых класаў Казімір Чартовіч, каб за лета падрыхтаваць нас да паступлення ў гімназію.

Пэўна, мы былі тады нядрэннымі вучнямі. Я, напрыклад, з чацвёртага класа польскай пачатковай школы пасля летняй падрыхтоўкі ў 1926 годзе паступіў у чацвёрты клас гімназіі, што адпавядала шостаму класу цяперашняй сярэдняй школы, бо ў гімназіі было толькі восем класаў.

Бурлівыя школьныя гады. Для мяне ж яны былі асабліва прыўзнятымі. У Віленскай гімназіі я стаў камсамольцам-падпольшчыкам. Вучобу прыходзілася спалучаць з нелегальнай дзейнасцю. Раскідваў лістоўкі, вывешваў сцягі, насіў у турму мопраўскія перадачы для вязняў, перад выбарамі ў сейм расклейвалі па гораду плакаты ППС-лявіцы, хадзілі на дэманстрацыі рабочых. А вечарамі ў інтэрнаце чыталі беларускія кніжкі, што траплялі да нас з Мінска. Усё гэта давала такі ўздым, што мы гатовыя былі варочаць горы.

Будучы гімназістам, у Вільні, пазнаёміўся я з такімі старэйшымі выдатнымі сябрамі, як Язэп Урбановіч, паэт Алесь Салагуб. Там я сустрэў першы раз ужо добра вядомага ў Заходняй Беларусі паэта Міхася Васілька, які выступаў са сцэны Віленскай беларускай гімназіі.

Гэта былі сапраўды незабыўныя дні. Помню таксама, як нам, вучням, прыходзілася ў інтэрнаце

вечарамі запаўняць дзіцячым почыркам членскія білеты Грамады і ТБШ. Словам, рабілі ўсё, што вымагала ад беларускай моладзі тая рэвалюцыйная пара.

А тым часам падбіралася да нас дэфензіва. Пэўна, не без яе ўказкі дырэктар гімназіі Радаслаў Астроўскі не дапусціў да заняткаў некалькі вучняў старэйшых класаў. Гэта выклікала ўсеагульны пратэст, бунт. Астроўскі доўга не думаў, пазваў паліцыю, якая ўмела рабіць подлую справу. Усе нашы барыкады ў класах былі зламаны націскам адкормленых і добра ўзброеных паліцаяў. Пасля пагрому некаторых старэйшых хлопцаў арыштавалі, а каля сотні малодшых, у тым ліку і мяне, пад канвоем адвезлі і здалі бацькам пад распіску.

Дома чакалі непрыемнасці. Аднак на сямейнай нарадзе вырашылі, што паеду паступаць у Клецкую беларускую гімназію. Самымі першымі з віленскіх выгнанцаў Сяргей Іскрык і я з'явіліся ў гэты гарадок якраз на калядную ёлку. Дабіраючыся з Ляхавіч у Клецк на балагольскіх санях, мы добра прамерзлі. У інтэрнаце на вуліцы Слабадской нас вельмі шчыра сустрэлі хлопцы, паілі гарачым чаем і ўсё распытвалі пра віленскія падзеі, аб якіх пісалі нават польскія газеты. А як мы адагрэліся і адпачылі, павялі нас на ёлку.

Стройная зялёная ёлка, багата абвешаная ўпрыгожаннямі, стаяла пасярэдзіне найбольшага класа. Была музыка, была дэкламацыя вершаў, выконваліся цудоўныя беларускія песні. Кіраваў хорам, як я потым даведаўся, наш зямляк з вёскі Мялькanавічы Слонімскага павета Антон Міхайлавіч Валынчык. Асабліва спадабаліся песні на словы Якуба Коласа і

Уладзіміра Жылкі «Ліпы старыя» і «Я люблю густыя шумы» і яшчэ адна, якая пачыналася словамі «Вось і паў ужо змрок і заціх дзённы рух, а агонь у аблоках дагарэў і патух». Я не ведаў тады, што музыку да гэтых твораў напісаў сам Антон Міхайлавіч.

Потым не раз я сустракаўся з гэтым самадзейным кампазітарам, дырыжорам, нястомным энтузіястам развіцця беларускай нацыянальнай культуры, і заўсёды, як убачу яго, перада мною плывуць чароўныя гукі Валынчыкавай музыкі. Трэба сказаць, што гэты чалавек меў добрае чуццё, густ і здольнасці. Мне самому вельмі падабаецца паэзія Коласа і Жылкі, якія так маляўніча апісвалі родную прыроду.

Першыя ўражанні аб Клецкай беларускай гімназіі мяне не абманулі. Многа што падабалася мне ў гэтай школе і самім гарадку. На працягу амаль года вучобы я ўбіраў у сябе ўсё лепшае, што нас акружала. Часта глядзеў на ўсход, дзе разам з сонцам паднімаліся людзі свабоднай Савецкай Беларусі, дзе жылі Янка Купала, Якуб Колас і другія пісьменнікі, творы якіх мы з такім захапленнем чыталі ў інтэрнаце Віленскай беларускай гімназіі.

У Клецку не хапала беларускіх падручнікаў. Але выратоўвалі нас некаторыя настаўнікі. У першую чаргу я маю на ўвазе выкладчыка хіміі Вячаслава Сцяпанавіча Арэня. Ён сістэматычна пісаў і размнажаў на шапірографе ўрокі па хіміі і раздаваў нам — вучыцеся, калі ласка! Акрамя ўсяго гэтага быў надзвычай добрым чалавекам (так я разумеў яго тады і разумею цяпер).

Пра дырэктара гімназіі Якубёнка хадзілі розныя чуткі, і мне цяжка сказаць што-небудзь канкрэтнае.

У маім разуменні ён застаўся простым, добрым чалавекам. Прывяду прыклады. Вучні раз’ехаліся на летнія канікулы. А як вярнуліся, убачылі ў інтэрнаце новыя драўляныя ложкі тыпу нараў і новы прасторны туалет у школе. Усё гэта за летнія канікулы зрабіў сам дырэктар, паказаўшы сябе сталяром, мулярам і печнікам.

Аднойчы ў інтэрнаце мы дажыліся да таго, што не было чаго есці, фармальная галадоўка. І вось Якубёнак заклікаў мяне да сябе і ўручыў пэўную суму (не помню колькі) злотых. Купіце, кажа, хлеба і каўбасы. Вядома, грошы я ўзяў, і мы пайшлі па хлеб і каўбасу. Я не ведаю, з якіх фондаў былі тыя грошы, думаю, што рэшткі ад уласнай зарплаты. Успамінаючы пра гэты факт, я заўсёды адчуваю сябе даўжніком, бо бачыў, што дырэктар жыў небагата.

Як у Клецку пабольшала вучняў з Віленскай беларускай гімназіі, у нас пачалася падпольная работа. Лістоўкі. Сцягі. Агітацыя. Улівалася ў падпольны камсамол і школьная моладзь Клецкага павета. Не драмала і тайная паліцыя, яна сачыла за намі ўсюды, нават у царкве, куды нам трэба было абавязкова хадзіць у праваслаўныя святочныя дні. Мы заўсёды ўхіляліся ад наведвання царквы, а ў царкве — ад цалавання крыжа.

І вось позняй восенню паўтарылася тое, з чаго пачалося ў Віленскай беларускай гімназіі. Паліцыя загадала выгнаць чатырох вучняў, як на цяперашняе паняцце, па смехатворнай прычыне: не хацелі цалаваць крыж. Абураныя вучні, аднак, ведалі, што гэта толькі прычэпка, бо ў паліцыі не было іншых важкіх фактаў. Узнікла забастоўка з патрабаваннем

вярнуць у школу выгнаных вучняў. Хутка прыбыла паліцыя і па-паліцэйску ліквідавала наш бунт. Пачаліся арышты, выгнанне. Выгналі і мяне, а ўсяго каля пяцідзесяці чалавек.

Вядома, было вялікае абурэнне супраць Якубёнка. Вось тут і разбярыся: вораг ён ці не? Мімаволі задаю сабе пытанне: а як паступіў бы я, каб быў дырэктарам, пайшоў бы ўслед за выгнанымі вучнямі ці застаўся б вучыць тых, каго яшчэ не кранула паліцыя?

Забастовачная дэманстрацыя адбылася ў Клецку ў канцы восені 1929 года. У Клецк я не вярнуўся, хоць некаторых выгнаннікаў потым зноў прынялі. Паспрабаваў шчасця ў трэцяй, Навагрудскай беларускай гімназіі. Прынялі ў верасні 1930 года. А выкінулі з 7-га класа ў маі 1931 года. На гэты раз выкінулі нягучна. У Навагрудку хіліліся да мяне асабліва малодшыя вучні, пэўна, бачачы перад сабой «героя». Я расказваў ім аб барацьбе і неабходнасці барацьбы беларускага народа за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы. Гаварыў, што з вучобай трэба ўмела спалучаць палітычную самаадукацыю, бо на нас, больш адукаваных, у будучыні ўся надзея…

Дырэктар Іван Цеханоўскі вёў сябе як лагерны стражнік. Паклікаў мяне ў кабінет і сказаў:

— Едзь дадому і не думай рабіць бунт, бо аддам паліцыі.

На гэтым і закончылася мая вучоба ў гімназіях. Але і ў вёсцы паліцыя не давала спакою, перад кожным святам арыштоўвала, катавала. Двойчы нават судзілі, хоць не было канкрэтных фактаў. Але навошта паліцыі факты? Выдумалі і судзілі «за чынны

опур владзы». У турме не сядзеў, бо з невялікім прысудам трапіў пад амністыю.

Аб сваіх сябрах, школьніках магу прыгадаць наступнае: прыемна ўсведамляць, што амаль усе нашы вучні з беларускіх гімназій сталі свядомымі барацьбітамі за інтарэсы рабочых і сялян. Многія, у тым ліку і мае малодшыя сябры, сталі выдатнымі людзьмі. Валянцін Таўлай — вядомым паэтам, Уладзімір Гуль — палітычным дзеячам, старшынёй Нясвіжскага гарвыканкама, Міхаіл Петрыкевіч — добрым настаўнікам, а потым стваральнікам і дырэктарам Дзятлаўскага музея народнай славы.

Я ўжо пісаў, што вялікі ўплыў рабілі на мяне беларускія паэты-класікі. Вершы пісаць я пачаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пісалі тады многія, але ў большасці іх пісаніна, як бачым, была часовым захапленнем, выпадковасцю. Аднак у гімназіі не адважваўся паказваць свае вершы, здавалася, што яны не маюць ніякай вартасці.

Адважыўся толькі даслаць вершы ў газету, як пасля ўсіх выгнанняў з гімназій жыў у вёсцы і працаваў з бацькам на ўласных загонах. Падпісаўся псеўданімам, каб не даведалася паліцыя. Надрукавалі. Колькі было радасці!

І праўда, доўгі час паліцыя не ведала, хто скрываецца пад прозвішчам Анатоля Іверса, пакуль не выйшаў зборнік вершаў «Песні на загонах». Прымаць да мяне рэпрэсіі было позна, бо ў верасні 1939 года пачалася вайна. Гітлер напаў на Польшчу.

А нам, беларусам, тады радасна бліснула сонца. Чырвоная Армія прыйшла ў Заходнюю Беларусь. У тым жа верасні мяне запрасілі працаваць у першую слонімскую раённую беларускую газету «Вольная

праца». У 1940 годзе прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР.

Сонца бліснула, ды не надоўга. Фашысцкі напад зноў пакалечыў жыццё. На маю долю выпала быць адным з арганізатараў, а потым кіраўніком Слонімскай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі. Быў таксама народным мсціўцам. Немцы жорстка расправіліся з сям'ёй — у Калдычаўскім лагеры смерці знішчылі бацьку і жонку. Думаў, выжыве хоць брат, але і ён загінуў у партызанах.

Прыйшлося зноў каторы раз брацца за новае жыццё. Марудна зацягваліся душэўныя раны. Як не думаю аб трагічных падзеях, здаецца, што ўсё ў парадку, бо маю новую сям'ю: жонку, жанатага сына і ўнука. А пачнеш успамінаць мінулае, аднаўляецца боль, прыглушаны шматлікімі напластаваннямі. Можа, гэта ў некаторай ступені добра, бо не дае чалавеку заўчасна зачарсцвець і рабіцца абыякавым да ўсіх падзей.

Калі казаць пра вершы, то трэба зазначыць, што салідная мая падборка змешчана ў калектыўным зборніку «Сцягі і паходні», які выйшаў у 1965 годзе. У 1970 годзе свет пабачыў другі асабісты зборнік «З пройдзеных дарог». Цяпер рыхтую кніжку выбраных вершаў.

Я — персанальны пенсіянер. Працую адказным сакратаром Слонімскага раённага аддзялення таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Наша барацьба з белапалякамі і нямецка-фашысцкімі захопнікамі стала ўжо таксама гісторыяй. Гісторыяй не так далёкай, бо можна яшчэ знайсці жывых сведкаў тых падзей.

*5 красавіка 1980 года*

## Бібліятэка імя Якуба Коласа

З кожным годам шырыўся нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі. Не апошняй у гэтым руху была і мая родная вёска Чамяры на Слонімшчыне. Са жніўня 1926 года дзейнічаў там гурток Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які паводле паліцэйскіх дадзеных налічваў 60 чалавек. Гурток не праіснаваў і года, бо 21 сакавіка 1927 года дзейнасць грамадскай арганізацыі забаранілі польскія ўлады.

Але ў наступным годзе ў вёсцы ўзнікла другая культурна-асветніцкая арганізацыя — Таварыства беларускай школы. Ужо сама назва арганізацыі гаворыць аб яе мэтах. Сяляне масава падавалі заявы «пану школьнаму інспектару» ў Слоніме з патрабаваннем адкрыцця роднай школы для сваіх дзяцей. Я сам і другія нашы гімназісты дапамагалі малапісьменным бацькам запаўняць гэтыя заявы, якія называліся «Дэкларацыямі». Ну, а вынік быў адзін — «пан школьны інспектар» знаходзіў надуманую прычыну і накладваў рэзалюцыю: «Адмовіць».

Вялікую ролю ва ўздыме нацыянальнай свядомасці адыграла беларуская мастацкая літаратура, якая пачала трапляць у вёску. Надзвычайную папулярнасць сярод вяскоўцаў мелі Янка Купала і Якуб Колас. Амаль адначасова былі створаны на грамадскіх пачатках бібліятэкі ў вёсках Вялікая Кракотка і Чамяры. Сваю бібліятэку кракоткаўцы назвалі імем Янкі Купалы, а чамяроўцы сваю — імем Якуба Коласа. Абедзве бібліятэкі паліцыя закрыла ў 1927 годзе. Частка кніжак засталася ў чытачоў.

Закрыццё бібліятэкі ў Чамярах я перажываў не толькі як грамадскае, але як і асабістае гора. Кожны раз, прыязджаючы з Вільні, некаторыя нашы гімназісты, у тым ліку і я, везлі ў бібліятэку беларускія кніжкі, набытыя са сціплых зберажэнняў ад недаядання. Акрамя таго, нашы хлопцы даручылі мне намаляваць шыльду бібліятэкі, што я, пацеючы, выканаў. І цяпер перад вачыма стаіць тая шыльда, як напамінанне аб днях трывожнай маладосці ў барацьбе за беларускую справу.

Бібліятэка за кароткі час свайго існавання мела больш за тысячу тамоў. Былі там амаль усе беларускія кнігі, якія знаходзіліся на паліцах віленскіх беларускіх кнігарняў. Акрамя беларускай літаратуры чытачы маглі атрымаць у сваёй бібліятэцы творы Талстога, Тургенева, Чэхава і іншых рускіх пісьменнікаў. Былі аўтары і польскай класічнай літаратуры — Міцкевіч, Славацкі, Сянкевіч.

Ну, а што тут сказаць пра праваднікоў польскай санацыйнай палітыкі на «крэсах усходніх»? Просіцца адно слова — цемрашалы!

Нельга прамінуць і тое, што жыхары маёй роднай вёскі Чамяры за грамадскія сродкі пабудавалі Народны дом. Для гэтай мэты ва ўрочышчы Палаўшчына скасілі траву, высушылі і прадалі сена. А таксама зрэзалі кавалак грамадскага лесу і прадалі драўніну. На лесанарыхтоўцы працаваў і я, бо вельмі хацелася не адстаць ад старэйшых. Гэта і была талака, аб якой цяпер сустракаем інфармацыі ў прэсе.

Большасць беларускіх спектакляў ставілі ў прасторных гумнах. Не помню, ці паставілі хоць адзін спектакль у сваім Народным доме.

У час ліквідацыі бібліятэк творы беларускіх драматургаў, за рэдкім выключэннем, не трапілі ў паліцэйскія мяшкі. Таму быў выбар рэпертуару для спектакляў. Пастаноўкі рэдка паўтараліся, хіба толькі па шматлікіх просьбах гледачоў. Вядома, найбольшым поспехам карысталася купалаўская «Паўлінка». Самадзейныя артысты пры размеркаванні роляў стараліся адхіліць ролю пана Быкоўскага. А калі хто ўзяў, то іграў па-сапраўднаму.

Добра прымала публіка спектаклі па п'есах Уладзіслава Галубка і Францішка Аляхновіча.

Не так цяжка было падрыхтаваць спектакль, як атрымаць дазвол на яго пастаноўку ў пана павятовага старасты. А часам і дазвол не вырашаў справы. Яшчэ для гэтага існавала паліцыя, якая знаходзіла безліч прычын, каб забараніць вечарыну. Адна з прычынаў забароны, напрыклад, пры ўваходзе ў гумно магла быць адсутнасць дзвюх бочак з вадой і пры іх мётлаў на ражнах. Гэта лічылася захаваннем супрацьпажарнай бяспекі. Супрацьпаказана была і саломіна ў гумне. Але вясною рэдка ў якога гаспадара ляжала ў гумне сена альбо салома — зіма ўсё з'ядала.

Кожны спектакль ставіўся з нагоды якога-небудзь свята. Тады ішлі на прадстаўленне і старыя, і малыя, не кажучы ўжо пра моладзь. Моладзь валіла і з суседніх вёсак. Вось гэтага і не хацела бачыць паліцыя.

Аднойчы камендант Касцянёўскага пастарунка Корзун, куды па яго загаду кожны тыдзень на працягу шасці месяцаў хадзіў я на мальдунак (своеасаблівую рэгістрацыю), казаў: «Я розумем, конь до коня ідзе», і, маўляў, людзі таксама могуць

сустракацца, толькі каб не было там камуністычнай «збюркі». Паны падганялі пад бальшавіцкую дзейнасць розную нацыянальную дзейнасць беларусаў. А цяпер наадварот, таго, хто гаворыць па-беларуску, наменклатуршчыкі называюць нацыяналістам, а то і фашыстам.

Апошні раз аж праз дзесяць гадоў пасля ліквідацыі зрабіла нам добрую паслугу бібліятэка імя Якуба Коласа. На другі дзень праваслаўнага Вялікадня мы правялі вечарыну. Па тых кнігах, што засталіся на руках і не знасіліся за дзесяць гадоў, паставілі ў гумне дзве п’есы — «Дзядзька Якуб» і «Лекары і лекі». Апошнюю прыйшлося перакласці на польскую мову, бо дырэктар школы Карл Навакоўскі паставіў такую ўмову. Справа ў тым, што вясковай моладзі павятовы стараста не даў дазволу праводзіць вечарыну, у той час як паляку ўсё дазвалялася.

Яшчэ я меў клопат з заказам на афішу. Ніводная друкарня ў Слоніме не хацела надрукаваць на беларускай мове. Прышлося згадзіцца на польскі тэкст для паведамлення аб культурным мерапрыемстве. Народу прыйшло многа, некаторыя людзі не маглі ўціснуцца ў гумно.

Вечарына закончылася дэкламацыяй беларускіх вершаў. Але і тут не абышлося без паліцыі. Калі чыталі вершы Янкі Купалы «Чаго вам хочацца, панове», паліцэйскі сцягваў са сцэны чытальніка.

Вось так рухалася культурна-асветная праца на вёсцы пры панскай Польшчы.

*1985*

## Кто ты естэсь?

Звыш двух гадоў на нашых землях ішла ваенная і палітычная гульня, якая прыносіла народу матэрыяльныя, маральныя і крывавыя страты. Я быў ужо васьмігадовым хлопцам, як на доўгі час усталявалася польская акупацыйная ўлада. Чытаць па-руску навучыў мяне бацька, я нават ведаў, дзе трэба ставіць цвёрды знак.

І вось прыйшоў бацька з нейкага вясковага сходу, які праводзіў прадстаўнік гміннай рады, і сказаў:

— Заўтра пойдзеш у школу.

Школа, якая прадстаўляла адзін вялікі пакой без перагародак, гула як вулей. Маладая настаўніца пасартавала нас, каго запісала ў першы, каго ў другі клас. І тут жа на першай лекцыі (уроку) задала на дом вывучыць невялікі верш:

— Кто ты естэсь?
— Поляк малы.
— Які знак твуй?
— Ожэл бялы…

Усе хлопцы і дзяўчаты натапырыліся, бо ніхто не лічыў сябе палякам. Праўда, ніхто не ведаў, хто ён такі. Убачыўшы здзіўленне вучняў, настаўніца растлумачыла, што яна ведае, што не ўсе мы палякі, але «тутэйшыя». А верш лёгка запамінаецца і дапаможа нам у вымаўленні польскіх слоў. Аднак, як цяпер відаць, не гэта яна мела на ўвазе.

Ідучы дадому пасля азнаямляльнай «лекцыі», мы злосна паджартоўвалі адзін з аднаго: «Поляк малы». Дома я расказаў пра азнаямленне са школай

і з настаўніцай. Бацька сядзеў задуменны, а маці прамовіла: «Божа, Божа, што гэта робіцца на свеце!».

Вершык мы вывучылі яшчэ ідучы са школы. А назаўтра заявілі настаўніцы, што мы — не палякі.

Хоць і цяжка было прывыкаць да ненавіснага рэжыму польскіх акупантаў, але час бег хутка. Я асвоіўся ў школе, пачаў прывыкаць да польскай мовы, нават палюбіў некаторых польскіх пісьменнікаў. У прыватнасці, мне падабаліся вершы Марыі Канапніцкай, якія нагадвалі нешта блізкае, знаёмае. А акупацыйная практыка паказвала, што мы — карэнныя жыхары «крэсаў усходніх» — людзі другога гатунку, а то і проста «хамы». Душа і розум пратэставалі супраць гэтага. Няўжо мы не любім прыроду, не адчуваем птушыных песень? Няўжо мы не сеем і не даглядаем збожжа? Або дрэнна адносімся да сваіх суседзяў? Чым жа мы горшыя за прышэльцаў, што здзекуюцца з нас? Не! І яшчэ раз не!

На гэтыя і іншыя пытанні даў адказ нам найвялікшы, найдаражэйшы паэт — незабыўны Янка Купала. Можа, зачаста аб гэтым успамінаю, але і цяпер не магу ўстрымацца, каб яшчэ раз не сказаць. У 1922 годзе прывёз бацька са Слоніма зборнік вершаў Я. Купалы «Гусляр». Яна зрабіла пераварот у маім жыцці. Па-першае, мілагучныя вершы напісаныя на мове, якая паўсюдна бытавала. Па-другое, я даведаўся, што я ніякі не паляк і не «тутэйшы», а беларус.

З той пары ніякі польскі настаўнік ці «ўжэндовец» (служачы, чыноўнік) не мог збіць мяне з толку. Я цвёрда ведаў, што мы — беларусы і жывём на сваёй, беларускай зямлі. Не хапала толькі ведаў. Ды і

не дзіва, я дасягнуў толькі дзесяцігадовага ўзросту. А таму — усё наперадзе. Трэба вучыцца хоць у польскай школе, больш чытаць беларускіх кніжак, прыслухоўвацца да старэйшых людзей, якія многа чаго ведаюць.

Прайшло яшчэ тры гады. Вялікай падзеяй для нашай вёскі было адкрыццё прыватнай беларускай пачатковай школы. Настаўнікам працаваў наш аднавясковец Максім Тарасавіч Бурсевіч, які добра ведаў беларускую мову. Потым ён стаў вядомым палітычным дзеячам — сакратаром цэнтральнага камітэта Беларускай сялянска-работніцкай грамады. А тады, у 1925 годзе, умела кіраваў беларускай школай. Я таксама пайшоў у гэтую школу, якая знаходзілася ў звычайнай сялянскай хаце. Гэта была своеасаблівая школа. Я вучыўся і дапамагаў Максіму Тарасавічу вучыць тых, хто не ведаў яшчэ літараў.

Толькі не доўга праіснавала наша школа. Праз пару месяцаў прыйшла паліцыя і закрыла нашу радасць. Ніякія скаргі бацькоў не дапамаглі, бо польскія ўлады кваліфікавалі вучобу як праяву бальшавізму. А між тым, акрамя навучальных прадметаў, ніякай палітыкі супраць акупантаў настаўнік не праводзіў. На працягу далейшага жыцця на ўласнай скуры я адчуў, што розную праяву беларускасці польскія захопніцкія палітыкі падводзілі пад камунізм.

Вельмі хацелася вучыцца на роднай мове не толькі мне, але і іншым хлопцам, хто адчуваў сябе беларусам. Таму нашы бацькі звязаліся з Віленскай беларускай гімназіяй і папрасілі, каб у часе летніх канікулаў адзін з вучняў старэйшых класаў завітаў да нас і правёў падрыхтоўку жадаючых паступіць у гімназію.

Прыбыў Казімір Чартовіч, які займаўся з намі каля трох месяцаў. У верасні 1926 года ў гімназію паступілі восем чамяроўскіх юнакоў.

Усе мы жылі ў інтэрнаце, як знаходзіўся пры гімназіі, жылі нібы ў роднай хаце. Вучоба праходзіла паспяхова. Усе прадметы выкладаліся па-беларуску, акрамя гісторыі і геаграфіі Польшчы, закон божы святар выкладаў на рускай мове.

Трэба зазначыць, што вучылі нас такія выдатныя настаўнікі, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч, Алёна Сакалова і іншыя.

Беларускую мову і літаратуру выкладаў Ігнат Сямёнавіч Дварчанін, які дасканала ведаў свае прадметы. Дастаткова сказаць, што ён напісаў вялікую хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года), якая выйшла ў 1927 годзе. Не памылюся, калі скажу, што ўсе вучні былі ў захапленні ад урокаў гэтага надзвычай добрага чалавека.

*1990*

## Слонімская міжраённая антыфашысцкая арганізацыя

Вёска Чамяры Слонімскага раёна, дзе я нарадзіўся і выхоўваўся, была даволі рэвалюцыйная. Нашы сяляне, як і сяляне многіх іншых населеных пунктаў Заходняй Беларусі, змагаліся за сацыяльную справядлівасць, за адкрыццё беларускай школы. Дапамагалі мне зразумець рэчаіснасць нашага быту тагачасныя беларускія гімназіі, у якіх давялося вучыцца і з якіх звальнялі па палітычныхматы-

вах. Тады з Віленскай беларускай гімназіі выкінулі каля сотні вучняў, у тым ліку і майго аднавяскоўца Феакціста Міско. Праз некаторы час гэтага хлопца палякі засудзілі на дванаццаць гадоў турэмнага зняволення і адправілі ў турму горада Грудзёндз, які знаходзіўся пры нямецкай граніцы.

Тым часам падзеі развіваліся хутка. У верасні 1939 года нашу тэрыторыю заняла армія Савецкага Саюза, а ў чэрвені 1941 года — войскі фашысцкай Германіі.

Даведаўшыся, што гітлераўцы захапілі Слонімшчыну, Феакціст, ужо зняволены нямецкага канцэнтрацыйнага лагера ў Грудзёндзы, уцёк з новай няволі і начамі пачаў прабірацца дадому.

Пры Саветах я быў работнікам рэдакцыі беларускай газеты «Вольная праца». Таму пакінуў горад Слонім і перабраўся з жонкай на чамяроўскі хутар, дзе жылі бацька і брат. Вось у ліпені 1941 года да мяне на хутар нечакана завітаў Феакціст. Мы шчыра прывіталіся і пачалі расказваць адзін аднаму, як нам жылося. Дагаварыліся да таго, што з ворагам трэба змагацца. Трэба ў вёсках ствараць гурткі і ў першую чаргу сабраць зброю і боепрыпасы, што засталіся па палях і ў лясах пры панічным адступленні сталінскай арміі.

Сяляне, асабліва былыя падпольшчыкі з часу белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі і моладзь, ахвотна прыступілі да збору і захавання вінтовак, аўтаматаў, кулямётаў і патронаў да іх. Пастунова дзейнасць падпольшчыкаў пашыралася. Яны сачылі за паводзінамі ворага, папярэджвалі суседзяў аб набліжэнні ўзброеных грабежнікаў. А як пачалася партызанская барацьба, падпольшчыкі займаліся разведкай, падводзілі мсціўцаў да чыгункі, збіралі

для партызанаў прадукты харчавання. І самі падпольшчыкі неаднойчы выходзілі на дыверсійную дзейнасць.

Наша падпольная антыфашысцкая арганізацыя паступова пранікала і ў суседнія — Зэльвенскі і Быценскі — раёны. І налічвала не менш за тысячу членаў. І стала называцца Слонімская міжраённая антыфашысцкая арганізацыя.

Антыфашысты сабралі і перадалі ў партызанскія атрады больш за 2 тысячы вінтовак і аўтаматаў, звыш 200 станкавых кулямётаў, звыш паўмільёна патронаў, многа гранатаў.

Каб паказаць масавасць антыфашысцкага руху на Слонімшчыне, прывяду некалькі прыкладаў са спісаў, якія кіраўнікі падпольных груп зараз жа пасля выгнання немцаў складалі. Некаторыя з гэтых спісаў падпольшчыкаў у мяне знаходзяцца. Вось у Малой і Вялікай Кракотцы было 19 падпольшчыкаў-антыфашыстаў, кіраўніком з'яўляўся Канстанцін Сцяпанавіч Петручэня, 1897 года нараджэння. У Шылавічах (кіраўнік Макар Паўлавіч Байбак, 1903) запісана 36 падпольшчыкаў, у Чапялёве — 21 (Мікалай Рыгоравіч Кандзіранда, 1921), у Савічах — 9 (Кандрат Карпавіч Панасеня, 1892), у Акунінаве — 15 (Архіп Філіпавіч Несцер, 1897). У дзесяці вёсках Міжэвіцкага падраёна налічвалася 50 антыфашыстаў.

Жывучы ў вёсцы (на хутары), я час ад часу прыходзіў у Слонім, наведваў сяброў і прыносіў цікавыя звесткі з горада аб тым, што там робіцца і што плануюць на бліжэйшы час. Вядома, што такія навіны не маглі не зацікавіць падпольшчыкаў, а

перадусім партызанаў. Вось кіраўнік антыфашысцкай арганізацыі Феакціст Захаравіч Міско і некаторыя акружэнцы, будучыя партызанскія камандзіры падказвалі мне ўладкавацца ў Слоніме з мэтай стварэння падпольнай антыфашысцкай арганізацыі і разведкі.

Скажу па праўдзе, не хацелася ісці ў горад, дзе за тваім крокам маглі сачыць служкі «новага парадку». Але перамагла любоў да зняволенай Бацькаўшчыны. І я 16 красавіка 1942 года накіраваўся ў знаёмы райцэнтр. Каб жыць легальна ў горадзе, трэба было абавязкова паступіць на якую-небудзь працу. Прыйшлося звярнуцца да бургамістра горада спадара Кіслага, каб назначыў загадчыкам бібліятэкі, якая налічвала 75 тысяч кніг польскай, рускай і беларускай літаратуры. Але Аляксандр Канстанцінавіч сказаў, што ён прыняў ужо туды Сяргея Сіняка (Хмару).

Бургамістр запрапанаваў мне працу памочніка бухгалтара гарадской управы. Я не згаджаўся, бо не меў паняцця аб бухгалтэрыі. Але Кіслы мяне заспакоіў, што буду сядзець і перапісваць пабеларуску паперкі, якія будзе даваць вопытны бухгалтар з часоў панскай Польшчы Ерашэвіч. Іншай працы не знайшлося, і я мусіў пагадзіцца.

Вечарам таго ж 16 красавіка на кватэру Вацлава Вільчынскага прыбылі настаўнік Леанід Сенчык, рабочы лесазавода № 16 Мікалай Мінчук і я. Правялі нараду і вырашылі стварыць гарадскі камітэт антыфашысцкай арганізацыі. Кіраўніком гарадскога падполля выбралі мяне.

У кожнага камітэтчыка былі надзейныя сябры. Яны, у асноўным, і склалі падпольную арганізацыю.

Паступова да падпольнай дзейнасці далучыліся новыя члены, якія праводзілі сярод гараджан агітацыю супраць акупантаў, што прычынілася да зрыву некаторых мерапрыемстваў ворага.

Асаблівую ўвагу гарадскі антыфашысцкі камітэт звяртаў на разведку, якая на франтах і тут, на месцы, давала найбольшы эфект у барацьбе з фашызмам. Мы даведаліся, што ў Грыбава каля Слоніма прыбыла рамонтная майстэрня 5-й танкавай дывізіі (здаецца, дывізіі). Логіка падказвала, што на фронт рухаецца буйная вайсковая часць. Інфармацыя своечасова была перададзена ў партызанскую брыгаду імя Ракасоўскага, а адтуль па рацыі — куды трэба. Дарэчы, за гэтую інфармацыю мне перадалі падзяку беларускага партызанскага штаба.

Дзякуючы нашай разведцы, партызанскія атрады маглі ўхіляцца ад аблавы альбо сустрэць нямецкіх карнікаў падрыхтаваным адпорам. Атрымаўшы з горада вестку, што ў вёску едуць фашысцкія «нарыхтоўшчыкі» — грабежнікі прадуктаў, сяляне хавалі сваё дабро.

Галоўныя нашы разведчыкі — гэта хлопцы Усевалад Багданчук, Георгій Пыцель і Георгій Касцюкевіч, якія па рэкамендацыі антыфашысцкай арганізацыі працавалі ў слонімскім СД. Разведвальныя звесткі траплялі да кіраўніка міжрайарганізацыі Ф. Міско, а ён, што трэба, паведамляў далей. Георгій Пыцель трымаў цесную сувязь з партызанскім атрадам «Савецкая Беларусь», створаным 1 верасня 1942 года.

14 жніўня 1943 года пачаў дзейнічаць Слонімскі міжрайпартцэнтр на чале з Міхаілам Анішчыкам, які падпарадкаваў Слонімскую міжраённую анты-

фашысцкую арганізацыю. Міхаілу Трафімавічу таксама спатрэбілася наша разведка, тым больш, што ў яго распараджэнні былі дзве радысткі. Са студзеня 1944 года была створана партызанская брыгада імя Ракасоўскага, якая дзейнічала на тэрыторыі Слонімскага і Быценскага раёнаў. І яе забяспечвалі разведкай.

Будучы кіраўніком гарадскога антыфашысцкага падполля, жыў я ў Слоніме на вуліцы Падгорнай у доме пад № 3 (праўда, нешчаслівая лічба?). На кватэры адбываліся сустрэчы членаў падпольнага камітэта. Два разы на тыдзень прыходзілі дзве шылавіцкія дзяўчыны — сувязныя ад Анішчыкавага цэнтра. Яны часам для маскіроўкі прыносілі прадаваць смятану, моркву і інш Заходзілі ў спальны пакой, закладвалі ў трусы невялікія скрутачкі паперы з маімі данясеннямі. Іншы раз на словах перадаваў навіны.

Немцаў насцярожыла партызанская няўлоўнасць. І яны заблакіравалі падыходы да ляснога масіву ў напрамку вёскі Акунінава. Часова спынілася сувязь з брыгадай імя Ракасоўскага. Анішчык быў у разгубленасці.

Прысылае да мяне Феакціста, які жыў на ўскраіне лесу каля вёскі Хадзявічы, каб схадзілі да дырэктара раённага краязнаўчага музея Сяргея Новіка наконт уладкавання ў музей радысткі пад выглядам новай жонкі або прыбіральшчыцы. Анішчыку стала вядома, што Сяргей Новік-Пяюн развёўся са сваёй жонкай праз нямецкі ЗАГС.

Я выклікаў Пяюна праз тыльныя дзверы ў агарод, перадаў прывітанне ад Анішчыка, а таксама прапа-

нову наконт «другой жонкі». Пяюн збялеў і нічога не сказаў. Мы з Феакцістам (псеўданім Фелікс) пастаялі некалькі хвілін і пайшлі з нічым. Не дапамаглі нашы тлумачэнні, што гэта на адну або дзве перадачы ў выключных выпадках.

Памыліўся Анішчык наконт Новіка, якога ведаў перад вайной як інспектара РайАНА, актыўнага праваднbackік савецкай школьнай палітыкі. Памыліліся і мы з Феліксам, даверыўшыся міжраённаму партыйнаму кіраўніку. Праз пару месяцаў, 25 лістапада, у Слоніме пачаліся арышты падпольшчыкаў-антыфашыстаў…

Перад самым пачаткам абеда 25 лістапада 1943 года на кватэру заскочыў Усевалад Багданчук і папярэдзіў маю Веру Аляксееўну, што хутка з’явяцца эсдоўцы арыштоўваць нас. І мы, не абедаўшы, рознымі дарогамі, каб не кідалася ў вочы, накіраваліся ў вёску Чамяры на наш хутар. Я паехаў на веласіпедзе, каб хутчэй папярэдзіць бацьку, а Веры сказаў затрымацца ў лесе, што мяжуе з хутарам. Бацькі дома не было, паехаў на млын. Пакінуўшы веласіпед, я пайшоў у лес, каб сустрэць жонку. Нідзе яе не сустрэў. А яна, пастаяўшы за кустамі, змерзла і пайшла ў хату пагрэцца. Прыцемкам дзве машыны карнікаў акружылі хутарскія пабудовы і схапілі Веру…

Ужо будучы партызанам, я наведаў бацьку і хацеў забраць яго ў лес. Але ён не згадзіўся: «Каму я, стары, патрэбны?» Аднак і стары спатрэбіўся душагубам. Праз некаторы час на хутар зноў з’явіліся карнікі. Загадалі запрэгчы каня, прывязалі да воза карову, пасадзілі старога і паехалі ў Слонім…

Казалі, што з нарабаванага дабра шэф СД узяў сабе толькі карову, бо давала многа малака.

У Слоніме ў дзень 25 лістапада арыштавалі Леаніда Сенчыка з жонкай Ядзвігай Дарафейчык, Мікалая Мінчука. Георгій Касцюкевіч з жонкай і малым дзіцём здолелі выбрацца з горада і прыбылі ў Ленінскую брыгаду Шчучынскага злучэння. Георгій Пыцель з жонкай прыбылі ў атрад «Савецкая Беларусь» Брэсцкага злучэння, дзе яго прызначылі камісарам гэтага буйнога атрада. Я, як кіраўнік слонімскага падполля, павінен быў падацца да мясцовых партызанаў, многія з якіх з'яўляліся антыфашыстамі.

У брыгадзе імя Ракасоўскага я трымаў сувязь з Вацлавам Вільчынскім і Усеваладам Багданчуком, якіх не кранулі арышты, і іншымі. Дапамагаў выдаваць раённую газету «Вольная праца», якая працягвала выходзіць у лесе з кастрычніка 1943 года. Слонімскія падпольшчыкі дапамагалі газеце: забяспечвалі чыстай канцылярскай паперай, друкарскай фарбай, дасылалі допісы. З мастаком Мікалаем Беляеўскім, што ўцёк з палону і прыбыў у нашу брыгаду, абмяркоўвалі тэмы будучых карыкатур, якія ён выразаў на дошцы. Я пісаў вершаваныя подпісы да гэтых карыкатур. Выдаваў антыфашысцкія лістоўкі, газету «Барацьба». Хадзіў і на баявыя заданні.

А што да карыкатур, то яны былі вельмі ўдалыя і адыгралі патрэбную ў той час агітацыйную ролю сярод насельніцтва. Цяпер ёсць спакуса прывесці подпісы да гэтых выразаных на дошцы клішэ. На адной карыкатуры пад назваю «Манія вялікасці» сядзіць Гітлер і трымае на каленях глобус. І мой подпіс:

Узяць у рукі глобус можна,
А з Еўропай… асцярожна.

*«Вольная праца», 22 красавіка 1944 года.*

На другой ілюстрацыі пад загалоўкам «Гебельс Гітлеру пад нос выхад з крызісу паднёс» відаць выстралы з савецкіх танкаў. Гітлер сядзіць на зямлі, а Гебельс падносіць яму гаршчок:

— Атлантыцкі рухнуў вал —
Гэта болей, чым скандал.
І на ўсходзе не ўсядзіш —
Гэта горшае, чым шыш…
Вось што, фюрар, рад не рад —
На гаршчок садзіся, брат.

*«Вольная праца», 4 ліпеня 1944 года.*

Пад трэцяй карыкатурай, дзе палкай б’юць па галаве фюрара, такі подпіс:

Разгуляўся звер-прахвост,
Ды адсеклі яму хвост.
Яшчэ тыдзень, яшчэ дзень —
Ён і морды не знайдзе.

*«Вольная праца», 27 ліпеня 1944 года.*

Незадоўга пасля майго прыходу прыбыў у брыгаду і Феакціст Міско. 23 лютага 1944 года ў штабной зямлянцы М. Анішчык праводзіў нараду. У зямлянцы прысутнічалі і мы з Феакцістам, стаялі недалёка ад дзвярэй і акенца, што пры дзвярах. На двары пачуўся сухі трэск выстралу. Феакціст пачаў падаць, і я яго падхапіў. Прыблізна праз пяць хвілін ён памёр. Куля прайшла праз дзверы якраз пры акенцы. Страляла з

пісталета Анішчыкава радыстка Яўгенія Валахновіч («Вольга»). Вось як пра забойства Феакціста пісала «Газета Слонімская» за 15 траўня 1992 года: «Слонимская антифашистская организация и ее руководитель Ф. Миско пользовались популярностью в народе. Некоторые, кто не верил в «случайный» выстрел, говорили, что «после войны антифашистский руководитель мог создать конкуренцию партийному секретарю».

Анищику пришлось бы с ним делить и боевые заслуги, и влиятельные посты в органах власти. Не исключено, что Анищик руками своей радистки и расправился с Феоктистом».

У партызанах мяне назначылі намеснікам камандзіра атрада імя Дзяржынскага. Не знялі з кіраўніцтва гарадской падпольнай арганізацыяй. А пасля гібелі Феакціста ўсклалі абавязкі ўсёй міжраённай антыфашысцкай арганізацыі. Словам, работы хапала. Часам прыходзіла ў галаву недарэчная думка, што і мяне могуць адправіць на той свет пры дапамозе «выпадковага» стрэлу. І тут жа адкінуў прэч такую думку: не, гэтага не будзе! Бо парвецца наладжаная сувязь з горадам, спыніцца паток разведвальных інфармацый. А разведка — гэта вочы і вушы партызанаў.

Як вядома, Слонім быў вызвалены 10 ліпеня 1944 года. Партыйнае і брыгаднае начальства ў гэты ж дзень даскочыла ў горад на конях. Асноўная маса партызанаў, а сярод іх і я, увайшлі ў раённы цэнтр 12 ліпеня. Тут я даведаўся, што мае бацька і жонка, а таксама Леанід Сенчык са сваёй жонкай знішчаны ў лагеры смерці Калдычэва. Там жа загінула жонка

Г. Пыцеля Ядзвіга Куніца. Яе пазнаў у Баранавічах слонімскі паліцай. Дзе падзелі Мікалая Мінчука, і дагэтуль невядома. Куніца ўцякала з лагера, і яе разарвалі нямецкія аўчаркі. Загінула ў час аблавы Касцюкевічава красуня з дзіцем.

Высветлілася прычына арыштаў падпольшчыкаў. Пасля нашага з Феакцістам прыходу наконт уладкавання ў музеі радысткі маўклівы Пяюн расказаў аб гэтым свайму сябру, сыну праваслаўнага папа, афіцэру 48-га батальёна «беларускага войска» (карнікаў) Барысу Данілюку. А той не замарудзіў схадзіць у СД і падзяліцца весткай з работнікам гэтай установы па прозвішчу Жултак, які да пачатку вайны працаваў загадчыкам кніжнага магазіна. Жултак тут жа данёс шэфу СД, які загадаў навіну трымаць у сакрэце і ўстанавіў нагляд за маёй кватэрай, каб даведацца пра наведвальнікаў. Сачылі аж да 25 лістапада…

Пасля вайны…

Вось што піша ў першым томе выбраных твораў пісьменнік Аляксей Карпюк:

«У Слоніме жыве паэт Заходняй Беларусі Анатоль Іверс (Іван Міско). Гэтага чалавека спаткала страшэнная несправядлівасць. Усе 20 гадоў пасля вайны ён патраціў на тое, каб давесці, што ён у перыяд акупацыі ў якасці кіраўніка міжраённага антыфашысцкага камітэта зрабіў, што мог, для Радзімы, што бацьку яго і жонку забілі немцы. Яго вінавацілі ў супрацоўніцтве з немцамі, не друкавалі. Яшчэ два гады таму ў Слоніме, калі чыталі лекцыі пра “бдительность”, Івана Міско абражалі нямецкім паслужнікам».

Да гэтага варта дадаць, што звальнялі з работы.

І калі, нарэшце, выдалі партызанскае пасведчанне, то падпольны стаж залічылі не з ліпеня 1941 года, а з лістапада 1942 года.

Раней мы не ведалі, што КПСС крыва глядзела нават на кампартыю Заходняй Беларусі, якая кіравала барацьбой працоўных супраць панаваўшых на нашых землях пілсудчыкаў. Цяпер усё высвятляецца. Вось як пісала газета «Свабода» за 10 чэрвеня 1997 года: «Дарэчы, КПЗБ прытрымлівалася сацыял-дэмакратычных (а не марксіцка-ленінскіх) прынцыпаў і была нацыянальна арыентаванай — за што Сталін запатрабаваў выключыць заходнебеларускіх камуністаў з Трэцяга Інтэрнацыянала».

А што казаць пра нашу антыфашысцкую арганізацыю, якая была не камуністычнай, а народнай?

*1998*

## Гісторыя адной рэдкалегіі

Актыўнымі змагарамі за народныя інтарэсы праявілі сябе ў былой Заходняй Беларусі юнакі з вёскі Мялькanавічы Слонімскага павета Уладзімір Бялько, Піліп Маркевіч і Антон Бішкірэвіч. Ім не раз прыходзілася начамі раскідваць па вёсках і дарогах газеты і лістоўкі і бачыць, як прагна сяляне чытаюць праўдзівае друкаванае слова. І аднойчы хлопцы вырашылі штомесяц выдаваць сваю, напісаную на мясцовых фактах, маладзёжную газету «Піянер», якая стала органам Слонімскага падпольнага райкама камсамола. Гэтая газета, адбітая на шапірографе ў ліку каля 100 экзэмпляраў, перадавалася з рук у рукі, зачытвалася да немагчымасці.

Трапляў «Піянер» і ў рукі паліцыі. Паліцэйскія шалелі ад злосці, днём і ноччу не выходзілі з беларускіх вёсак, шукаючы рэдакцыю. Не раз пабывалі ў іх крывавых лапах сябры рэдкалегіі. Але пасля катаванняў і чарговага адбыцця пакарання выходзілі «на волю» і працягвалі барацьбу. Газета выдавалася ў 1932 і 1933 гадах.

Рэдактарам газеты быў Валодзя Бялько. Ён нарадзіўся ў 1911 годзе. Скончыўшы польскую пачатковую школу ў сваёй вёсцы, паступіў у Віленскую беларускую гімназію. Там, аднак, доўга вучыцца не давялося: за камсамольскую дзейнасць яго выключылі з гімназіі. Але юнак быў занадта ўпарты, каб не вучыцца. Днём ён працаваў з братамі на сельскай гаспадарцы, вечарам самастойна працягваў вучобу, а ноччу рэдагаваў газету.

Хлопец быў яшчэ і паэтам. Цяжка сказаць, калі ён пісаў вершы, хіба толькі ў памяці, на дарогах, ідучы ад вёскі да вёскі. Шкада, што ў пошуках матэрыялу для гэтага артыкула я не знайшоў ні аднаго яго верша.

Уладзімір Іосіфавіч Бялько быў нястомным арганізатарам. Па яго ініцыятыве ў вёсцы Лапухова ў той час была створана і дзейнічала моладзевая арганізацыя.

Часта ён бываў і ў вёсцы Рахавічы, запальваў у маладых сэрцах агонь. Гэта ён, Валодзя, даў ідэйную загартоўку юнаку Мікалаю Гудзе, якім ганарылася ўся Слонімшчына. Мікалай Гуда быў арыштаваны, падвергнуты жорсткім катаванням, але не выдаў сваіх таварышаў па барацьбе. Стойкага беларуса дэфензіва не хацела выпусціць жывым. Каб не было вонкавых прызнакаў катавання, Мікалаю паклалі

на грудзі дошку і цяжкай гірай адбілі нутро. Так пагеройску загінуў мой зямляк.

У тыя змрочныя часы кожны дзень быў насычаны рэвалюцыйнымі падзеямі. То тут, то там, на высокай сасне ці на званіцы, з'яўляўся плакат з заклікамі да змагання супраць непасільных падаткаў і тэрору, за зямлю без выкупу, за школу на роднай мове. То тут, то там сяляне давалі адпор зборшчыку нядоімкаў — секвестратару.

У гэтым была бачна работа і самога Бялько і газеты «Піянер». Ён часта прыходзіў па парады да сваіх старэйшых сяброў. Былы член КПЗБ Лявон Сакалоўскі расказваў, як аднойчы Валодзя прыбег да яго і патрабавальна закрычаў:

— Дайце мне заданне, і я пастраляю паліцыянтаў, якія цягаюцца па вёсках!

Паколькі КПЗБ асуджала індывідуальны тэрор, то ніхто не даў энтузіясту дазволу на расправу з паліцэйскімі.

І Валодзя Бялько знаходзіў сабе іншую работу. Ён стварыў у Мялькнавічах гурток мастацкай самадзейнасці, які выступаў перад сялянамі з пастаноўкамі беларускіх п'ес і з дэкламацыямі баявых вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Вельмі доўга апладзіравалі аднавяскоўцы, калі сам Валодзя выходзіў на сцэну і дэкламаваў верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны»:

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?

У ноч на 1 мая 1932 года Валодзя вывесіў на мяльканавіцкай царкве сцяг, які да паўдня пераліваўся на ветры, падымаючы дух барацьбы ў працоўных і страх у прыгнятальнікаў.

Паліцыя праз сваіх даносчыкаў бачыла чыстату душы і непахільнасць волі юнака. Двойчы ў 1932 годзе Уладзімір Бялько арыштоўваўся, яго жудасна білі, так што не было патрэбы ўжо доўга трымаць у турме. Але і дома, нягледзячы на тое, што хлопец не падымаўся, паліцыя не пакідала ў спакоі юнака. Вясной 1933 года ў хату ўсунуліся паліцыянты з касцянёўскага пастарунка Бяжынскі і Сініцкі, скінулі хворага з ложка, моцна таўклі нагамі і абражалі самымі гадкімі словамі.

Гэты зверскі ўчынак паліцыі быў апошнім звяном жудасці. 1 мая 1933 года смерць перамагла надломленае здароўе. 3 мая Уладзіміра пахавалі на мяльканавіцкіх могілках. Паліцыя забараніла моладзі прыняць удзел у пахаванні.

Другі член рэдкалегіі газеты «Піянер» Піліп Маркевіч таксама гарнуўся да навукі, якая ў той час была не для беднякоў. Як і Бялько, ён займаўся самаадукацыяй. У прамежку паміж арыштамі і турмамі Піліп не пакідаў падпольнай работы. Аднойчы польская паліцыя, нібы шукаючы камуністычную літаратуру, спусціла на зямлю ўсю салому са страхі яго дома.

Пасля вызвалення з турмы Маркевіч працаваў сакратаром Слонімскага гарсавета. І яго надломленае здароўе не вытрымала. Піліп Маркевіч памёр ад туберкулёзу ў 1941 годзе.

Найдаўжэй пажыў трэці член рэдкалегіі газеты «Піянер» Антон Бішкірэвіч. У гады Другой сусветнай вайны ён быў народным мсціўцам і са зброяй у руках адстойваў свабоду роднай Беларусі. Смерць наступіла ад выпадковага выстралу.

Так закончылася гісторыя адной падпольнай рэдкалегіі.

*1969*

## Выдавецкія пакуты Гальяша Леўчыка

Да тых пісьменнікаў, якія друкаваліся ў газеце «Наша ніва», належаў і мой зямляк паэт Гальяш Леўчык (1880–1944). Са скупых біяграфічных звестак, якія можна знайсці ў друку, вядома, што ён нарадзіўся ў Слоніме 20 ліпеня 1880 года ў сям’і каваля, выхадца з вёскі Шайпякі былога Слонімскага павета. Але затое чытачы Заходняй Беларусі з газет і часопісаў, якія траплялі пад саламяныя стрэхі, ведалі яго вершы. Многія палітычныя дзеячы і дзеячы культуры таго часу ведалі паэта асабіста і сустракаліся з ім.

У канцы трыццатых гадоў мне таксама давялося некалькі разоў бачыцца са старэйшым нашым літаратарам. Гальяш Леўчык чытаў мне вершы, рабіў крытычныя заўвагі, выказваў свае думкі аб становішчы ў панскай Польшчы, пільна сачыў за развіццём нацыянальна-вызваленчага руху.

Гальяш Леўчык загінуў недзе ў Варшаве ў 1944 годзе, а яго жонку немцы расстралялі ў Слоніме на Пятралевіцкай гары. Нідзе ў літаратуры не ўспаміналася імя па бацьку паэта. І добра, што ста-

рэйшыя сланімчане падказалі, што на Лабазоўскіх могілках пахаваны бацька нашага земляка. І сапраўды на адным невялікім абеліску было напісана: «Міхаіл Ляўковіч. 1830–1899».

Першы зборнік вершаў Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі», які ў 1912 годзе быў надрукаваны лацінскім шрыфтам, з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. І вось нядаўна работнікі Слонімскага краязнаўчага музея знайшлі новыя матэрыялы аб Гальяшу Міхайлавічу Леўчыку (Ляўковічу). Гэта перапіска паэта з рознымі дзеячамі і выдавецтвамі. Характэрна, што ён пакідаў копіі сваіх пісьмаў, якія цяпер пашыраюць нашы веды аб літаратурнай дзейнасці і жыцці паэта.

Праўда, наведаўшы некалькі разоў свайго земляка, я меў уяўленне аб яго жыцці. Жыў ён у Слоніме на Чырвонаармейскай вуліцы, недалёка ад Шчары, у невялікім доміку. Памятаю, аднойчы я спытаў у дзядзькі Гальяша, ці не цесна ў такім памяшканні. Той з усмешкай адказаў:

— Што ж ты зробіш, калі не хапіла грошай, каб пабудаваць большае жыллё.

І тады я ўспомніў верш Гальяша Леўчыка з яго нявыдадзенага ў свет зборніка «Беларускі жаўранак».

На адзежы латы,
Хворы, худ і бос —
Я багат, багаты
Аж да смеху, слёз.

Сярод архіўных дакументаў ёсць цікавае пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка, напісанае на бланку Беларускага выдавецкага таварыства 7 лютага 1914 года. Вось яго змест: «Паважаны пане! Вашага

«Чыжыка» аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экзэмпляр.

Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага выдавецтва Ів. Луцэвіч.

П. С. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.».

«Чыжык беларускі» кірыліцай (рускімі літарамі) не выйшаў — перашкодзіла вайна 1914 года. 23 красавіка 1927 года ў пісьме да Антона Луцкевіча аўтар яшчэ раз ставіць пытанне аб выданні свайго зборніка. Дарэчы, і грошы ўнёс на гэтую справу Г. Леўчык, а ад продажу кніжкі, якая поўнасцю разышлася, ён нічога не атрымаў.

У гэтым жа пісьме паэт паведамляе, што ў яго «назбіралася шмат новых твораў, мо крыху іншага роду», на новы зборнік пад назвай «Беларускі жаўранак». Гэтыя творы былі перасланы з Варшавы, дзе тады жыў аўтар, у Вільна Ігнату Дварчаніну, «каб ён выбраў сабе штось для «Хрэстаматыі». Паслаў і біяграфію з фатаграфіямі — «няхай там у Вільні будзе, бо як памру, то і так усё прападзе».

Наш зямляк падрыхтаваў да друку зборнік трыялетаў на 96 старонках «Мудра пагаворка — соладка і горка». Пераклаў шмат папулярных песень з рускай і польскай моваў — таксама на цэлы зборнік. І яшчэ пераклаў амаль поўнасцю «Дзяды» Адама Міцкевіча.

У наступных пісьмах да розных асоб Гальяш Леўчык ставіць пытанне аб выпуску яго сатырычнай брашуры з карыкатурамі «З калекцыі палітычных

дзеячаў», якія «нам шмат злога нарабілі». У пісьме за 7 кастрычніка 1927 года, адрасаваным І. Дварчаніну, аўтар піша, што пасылае сто злотых для рэдактара беларускай газеты М. Шылы, каб той выдаў брашуру.

М. Шылу тым часам засудзілі на тры месяцы турмы за тое, што ў газеце былі надрукаваны непажаданыя польскім буржуазным уладам артыкулы. Дзядзьку Гальяшу зноў клопат — могуць прапасці грошы і сарвецца выхад брашуры. Зразумела, што пры такіх умовах аўтар разлічваў не на ганарар, а на ўласныя выдаткі.

Ігнат Дварчанін карыстаўся вялікай павагай у тых, хто яго ведаў. Ён быў сумленным чалавекам. Таму хутка даў адказ: «Грошы ад Вас дастаў і яны ляжаць у мяне. Але ліста і саміх грошай Шылу не аддаваў — я проста баюся, што яны будуць страчаны».

А тым часам М. Шыла пісаў: «Усё зроблена так, як я табе гаварыў. Клішэ дастану, а якіх не можна будзе дастаць, трэба будзе зрабіць. Сядзець яшчэ не збіраюся».

Лёс брашуры невядомы, пэўна, не выйшла. З пісьма да Шылы даведваемся, што гэта былі б сатырычныя тэксты і карыкатуры на дзеячаў нацыяналістычнага толку. А дзядзька Гальяш усё чакаў брашуры: «Так што калі выйдзе, то аб ёй здагадаюцца толькі Маразовіч і Касцевіч» (рэдактар і супрацоўнік гумарыстычнага часопіса «Маланка» Янка Маланка і Міхась Васілёк).

Рэдактара беларускай газеты М. Шылу паліцыя пасадзіла ў турму. І. Гальяш Леўчык 19 лістапада 1927 года піша ліст да рэдактара «Маланкі» Івана Маразовіча, каб той узяўся за выданне сатырычнай

брашуры. Гальяш Леўчык хацеў, каб гэтая брашура выйшла ў свет перад выбарамі ў сейм. Сатыры «да рэшты пазнімаюць ці паздзіраюць маскі з тых махераў, што, магчыма, цяпер кінуцца і ўжо кідаюцца на выбары...».

Брашура павінна была выйсці ананімнай або пад псеўданімам. Але аўтар, хоць сам недаядаў, — не шкадаваў ні сваёй працы, ні грошай. У пісьме да Маразовіча ён піша, што грошы на яе выданне знаходзяцца ў Дварчаніна.

Цярністым шляхам ішлі пісьменнікі Заходняй Беларусі. У краіне лютаваў фашысцкі тэрор, які імкнуўся задушыць жывое слова праўды, праяўленне беларускай нацыянальнай культуры. Таму, каб выпусціць у свет свае творы, літаратары павінны былі прайсці праз шматлікія выдавецкія пакуты, самім, як Гальяш Леўчык, маляваць карыкатуры і плаціць выдаўцам грошы.

Гальяш Леўчык вельмі хацеў выдаць свае трыялеты, шукаў выдаўцоў. І нарэшце знайшоў яго ў асобе Уладзіслава Знамяроўскага. Больш таго, 3 кастрычніка 1927 года паэт заключыў з ім і яго жонкай Марыяй Знамяроўскай пісьмовую дамову на выдавецтва беларускіх кніжак пад фірмаю «Кніжніца».

Аднак, відаць, з гэтай умовы нічога не выйшла. Знамяроўскі, атрымаўшы ад Леўчыка 400 злотых на выданне зборніка трыялетаў, перастаў пісаць да яго. І ў пісьме за 30 лістапада аўтар абрушыўся на выдаўца за тое, што хоча разваліць «Кніжніцу», і за тое, што не хоча друкаваць творы.

Праз некалькі дзён прыслаў адказ Знамяроўскі. Ён паведамляе, што затрымка выйшла з-за таго, што завод не адліў новы шрыфт, а старым не варта набіраць.

Нарэшце шрыфт быў куплены. І Знамяроўскі ў пісьме ад 16 красавіка 1926 года піша, што паслаў Леўчыку карыкатуру трыялетаў, а дагэтуль яшчэ назад не атрымаў.

І далей: «Дэкламатара» я табе пасляць не магу, бо сканфіскаваны. Кніжка наша выйдзе на 96 старонках, паперу даю добрую. Мне не хапала грошай на клішэ, то ўзяў у Дварчаніна 25 злотых. У мяне па канфіскаце «Дэкламатара» страшэннае безграшоўе. Як-ніяк, а ён мне каштаваў 500 злотых і ўсё прапала. Калі маеш грошы, то прышлі мне крыху, а то не маю на вокладку».

У наступным пісьме (за 22 красавіка 1926 года) Знамяроўскі просіць прыслаць яму яшчэ 100 злотых на паперу, якая закладзена ў банку, і на паперу на вокладку, «а то кніжка будзе ляжаць да канца свету». Пры гэтым Знамяроўскі зганьбіў трыялеты.

Варта прыгадаць яшчэ два пісьмы Гальяша Леўчыка, якія ў чэрвені 1928 года ён паслаў: адно нейкаму Ігнату (як відаць, загадчыку кнігарні), другое на імя нейкага Мікалая.

У першым піша, што Знамяроўскі яшчэ выпрасіў 25 злотых, а кніжку і дагэтуль не выдае. Паэт просіць, каб яны з Дварчаніным знайшлі якуюсь раду на «шахрая Знамяроўскага, які тады енчыў перада мною, што няма работы і няма з чаго жыць».

У другім пісьме дзядзька Гальяш паведамляе, што ён звольнены з работы на цэлы год, «бо мой шэф Чэмб паехаў у Амерыку на гадавы водпуск. А мне цяпер трэба шукаць іншай работы». Праўда, Г. Леўчыку заплацілі за тры месяцы. Але «з гэтых грошай я мусіў адкупіць гэтую беларускую машыну,

на каторай цяпер пішу, за 400 злотых, бо яе хацеў Ч. замкнуць на год».

Шырокія планы, толькі вельмі малыя магчымасці былі ў Ільі Міхайлавіча Ляўковіча. Напрыклад, у адным з пісьмаў успамінаецца аб тым, што наш паэт пачаў пісаць кінасцэнарый паводле Міцкевічавых «Дзядоў». Перапіска з тагачаснымі прагрэсіўнымі беларускімі палітычнымі дзеячамі кідае святло не толькі на жыццёвы і творчы шлях паэта, але паказвае, якім цяжкім і бяспраўным пры пілсудчыках было жыццё ўсяго працоўнага народа.

*1972*

## Добры след паэта

Бываюць на свеце (і ў жыцці) бязвоблачныя, сонечныя дні. І не хочацца з імі расставацца. А яшчэ горш не хочацца разлучацца з добрым, задушэўным таварышам. А гэта — на шляхах барацьбы — часта здаралася. І толькі веру ў перамогу, у лепшую будучыню не змог забраць ад нас ніякі вораг. Гэтая вера падмацоўвалася баявымі справамі, перадавалася з пакалення ў пакаленне. Такія думкі набягуць, калі ўспамінаю Валянціна Таўлая.

Першая мая сустрэча з Валянцінам адбылася ў верасні 1927 года. Я ўжо год вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а ён толькі паступіў. Амаль усе прыезджыя жылі ў інтэрнаце, і гэта зблізжала, давала магчымасць лепш прыгледзецца адзін да другога. А найбольш згуртоўваў нас у адну сям’ю падпольны камсамол.

Ці варта гаварыць, што ў гімназію прывяла нас не толькі прага вучыцца, але і любоў да роднага слова, якое забаранялася ў Заходняй Беларусі і якое квітнела ў БССР. Яно ішло адтуль невядомымі нам шляхамі, прабіралася праз панскі калючы дрот і трапляла ў інтэрнат. Трэба было бачыць, як на вачах ператвараўся, квітнеў Таўлай, узяўшы ў рукі новую кнігу з паметкай на тытульным лістку: «Мінск». Мінскія кнігі згуртоўвалі нас не менш, чым моладзевая арганізацыя.

Помню, нехта са старэйшых вучняў прынёс у інтэрнат невялікую кніжачку Кандрата Крапівы пад назвай «Біблія». Некаторыя вучні адышлі ад стала: маўляў, на ўроках абрыд нам «закон божы», якім поп забіваў галовы. Але даволі было пачаць чытанне:

Як былі яшчэ мы дзеткі,
Ўсе «Завет» вучылі «ветхі», —

як вакол стаяла ўжо жывая сцяна. Валянцін Таўлай адзін з першых пачаў перапісваць «Біблію» ў сшытак, каб завезці дадому, у вёску Рудаўка, што на Слонімшчыне. Перапісвалі амаль усе інтэрнацкія вучні. А потым перапісванне не спатрэбілася, многія ведалі ўжо твор на памяць.

У інтэрнаце часта праводзіліся калектыўныя чытанні лепшых твораў рускай літаратуры, кніг беларускіх пісьменнікаў. Бывала, Валянцін не адыходзіць ад стала, пакуль не патрымае ў сваіх руках томік вершаў ці апавяданняў.

Пад кіраўніцтвам старшакласнікаў у гімназіі выдаваліся на шапірографе рукапісныя вучнёўскія газеты і часопісы. І тут не абыходзілася без Таўлая. Ён

пісаў вершы, занатоўкі са школьнага жыцця. Я гэта помню, бо сам прымаў удзел у выпуску некаторых гэтых выданняў. Крыху зайздросціў свайму земляку, што яго вершы друкавалі нават у грамадскіх газетах.

Аднак нашы хлопцы не кожны вечар сядзелі за доўгім інтэрнацкім сталом. Былі вечары, калі мы мянялі форменныя вучнёўскія шапкі на звычайныя кепкі і выходзілі на вуліцы распаўсюджваць лістоўкі. Ён не прамінаў і дэманстрацый рабочых. Помню, як на адну з такіх дэманстрацый накінулася пешая і конная паліцыя. Некалькі нашых вучняў, у тым ліку і Таўлай, доўга блукалі па горадзе, пакуль дабраліся ў інтэрнат. І, не вячэраўшы, крадком, па адным праскоквалі ў спальню. Кіраўніцтва інтэрната рабіла выгляд, быццам нічога не здарылася.

Расстаўся з В. Таўлаем пад канец 1929 года, калі нас выключылі з гімназіі за ўдзел у вучнёўскай забастоўцы. Паліцыя развезла па хатах — і «баста».

Ва ўмовах паліцэйскага праследавання і падпольнай канспірацыі аж да лета 1931 года я не ведаў, дзе падзеўся мой лепшы таварыш па гімназіі.

І вось у канцы мая 1931 года атрымліваю павестку з Касцянёўскага паштовага агенцтва, што мне прыйшла пасылка. Я падумаў, што гэта паліцэйскія хітрыкі, каб яшчэ раз зацягнуць мяне на пастарунак, які знаходзіўся поруч з агенцтвам. Пасылка была з Мінска, ад Валянціна Таўлая. Ён прыслаў сем кніг, і сярод іх зборнік вершаў «Лукішкі» нашага вучнёўскага трыбуна Алеся Салагуба. Гэта было так нечакана, так радасна, што я маланкай ляцеў дадому. Значыць, Валянцін вырваўся з воўчых зубоў, жыве ў свабоднай краіне, удосталь чытае родную літаратуру! А нас тут таўкуць перад кожным рэвалюцыйным святам.

Наступная вестка ад Таўлая прыйшла таксама нечакана, ужо з Вільні ў канцы 1933 года, калі там рыхтаваўся з’езд сялянска-рабочых пісьменнікаў. Менавіта ён і рыхтаваў гэты з’езд, знаходзячыся на нелегальным становішчы.

Аднак мала ён пабыў на гэтай нелегальнай свабодзе. Недзе ў пачатку 1934 года Валянціна арыштавалі пры пераходзе польска-савецкай граніцы.

Так мы і не бачыліся аж да ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР.

Найбольш памятная сустрэча з Валянцінам Таўлаем адбылася ў Лідзе напрадвесні 1940 года ў час прыезду Янкі Купалы да выбаршчыкаў. Туды прыбылі таксама некалькі заходнебеларускіх пісьменнікаў.

Летам 1940 і 1941 гадоў наш зямляк наведваў Слонім, бацькоўскую Рудаўку, дзе прабеглі яго дзіцячыя і юнацкія дзянькі. Было чаму радавацца: свабодна ходзім па роднай зямлі, ён — супрацоўнік лідскай, а я — слонімскай газет.

Гітлераўскае нашэсце перакрыжавала ўсе нашы мары і сустрэчы. Амаль тры гады, калі не лічыць недакладных чутак, я не ведаў, дзе і ці жывы Валянцін. І толькі ў 1944 годзе наш разведчык Мікалай Ціхан прывёз з Мінска прывітанне ад Таўлая, дзе яны выпадкова пазнаёміліся.

Таўлай пасяліўся ў Мінску, рыхтаваў да выдання першы зборнік вершаў, які так і не пабачыў. Цяжкая хвароба сэрца прыкавала яго да бальнічнага ложка. Але паэт не здаваўся і тут — працаваў, пісаў. У пачатку красавіка 1947 года наведаў я ў бальніцы свайго даўняга сябра. Адсунуўшы ўбок лісткі паперы, з ледзь улоўнай усмешкай ён сказаў:

— Доктар абяцаў выпісаць да 1-га Мая…

Як вядома, Валянцін Паўлавіч Таўлай не дажыў да гэтага дня, памёр 27 красавіка 1947 года.

Усе, хто ведаў яго, моцна смуткавалі. У горадзе Лідзе на доме, у якім да вайны жыў паэт, вісіць мемарыяльная дошка. І калі мне паказалі яе, я зноўку перажыў і незабыўныя сустрэчы, і цяжкую страту: я ж у 1940 годзе начаваў у тым доміку…

*1984*

## Мой настаўнік Ігнат Дварчанін

У 1922 годзе мой бацька прывёз са Слоніма зборнік вершаў Янкі Купалы «Гусляр», надрукаваны лацінскімі літарамі. Гэтая кніжка зрабіла пераварот у маім жыцці, мысленні. Упершыню даведаўся, што мы не «хамы», не «тутэйшыя», як у лепшым выпадку называлі нас паны, а беларусы.

Потым на вёсцы пачалі з’яўляцца беларускія газеты, кніжкі. Цяпер нікому, пэўна, не сакрэт, якое выключнае значэнне ў справе пашырэння нацыянальнай свядомасці мае беларуская літаратура і прэса на роднай мове. У дваццатыя гады гэтага я дастаткова не ўсведамляў, а проста падсвядома імкнуўся, як да сонца, да пазнання сваіх каранёў. Даведаўшыся, што ў Вільні ёсць беларуская гімназія, не мог дачакацца верасня, калі са сваімі хлопцамі-аднавяскоўцамі паеду ў далёкі казачны горад.

Сапраўды, у 1926 годзе Вільня здавалася казачным горадам: там працавала беларуская гімназія, выдаваліся беларускія кніжкі, выходзілі беларускія

газеты. Не тое, што на Слонімшчыне, толькі і чуеш ад паліцэйскага: «Хам, большэвік, быдло!»

Даволі падрыхтаваным чатырнаццацігадовым хлопцам я паступіў у трэці клас Віленскай беларускай гімназіі, што адпавядала пятаму класу цяперашняй сярэдняй школы. Нават крыху дзіўна было, што раптам пасля стапрацэнтнай польскай пачатковай школы ўсе прадметы ў гімназіі (за выключэннем польскай мовы, гісторыі Польшчы і закона божага) выкладаліся на беларускай мове.

Самымі любімымі прадметамі былі беларуская мова і беларуская літаратура. Найбольшым аўтарытэтам у вучняў карыстаўся выкладчык гэтых прадметаў Ігнат Сымонавіч Дварчанін. Яго ўрокі заўсёды праходзілі лёгка, цікава. Настаўнік не стараўся прытрымлівацца рамкаў падручніка, расказваў шырэй, прыводзіў шмат цікавых прыкладаў з літаратуры і жыцця пісьменнікаў. Я не помню, каб ён калі зазлаваў або каго пакараў. Усе вучні выдатна ведалі тое, аб чым гаварылася ў класе і што задавалася на дом. Амаль у кожнага настаўніка была мянушка, толькі ніякая мянушка не прыставала да Ігната Сымонавіча.

Дварчанін любіў, разумеў дзяцей, не патрабаваў сляпога паслушэнства. І таму дысцыпліна ў класе была не палачная, а вясёлая, я б сказаў, дэмакратычная. Дзяжурствы выконваліся акуратна, усе адчувалі сябе свабодна. Я ўжо вучыўся ў пятым класе. Падсумоўваючы пройдзенае, настаўнік сказаў:

— Як бачыце, мае маладыя сябры, за свабоду трэба змагацца. А як здабудзеце, не меншая патрэба ўмела карыстацца ёю.

На наступны ўрок Ігнат Сымонавіч, як і заўсёды, з’явіўся бадзёрым, з прыветлівай усмешкай. Але ў гэтай усмешцы праглядвалася нешта новае, усхваляванае. Урок набліжаўся да канца. Настаўнік прайшоўся паміж партаў і, падышоўшы да стала, запытаў:

— А ці ведаеце, сябры, што гэта мой апошні ўрок? Я прыйшоў развітацца з вамі. Мяне чакае вялікая грамадская работа ў сейме.

Гэтыя словы ашаламілі нас. Спачатку запанавала неймаверная цішыня. А потым пачулася ўсхліпванне дзяўчат. Хлопцы (таму яны і хлопцы) не плакалі, а калі ў каго і скацілася сляза, то ніхто яе не бачыў, бо моцнага полу галовы нізка апусціліся над партамі.

— Не плачце, — папрасіў настаўнік, — мы яшчэ не раз убачымся, я буду прыходзіць у гімназію, заглядваць і ў інтэрнат. А вас будзе вучыць добрая настаўніца Алёна Сакалова.

Не сказаць, каб Алёна Сакалова кепска вучыла нас. Але мы заўсёды сумавалі па Ігнату Сымонавічу, які сваёй дабратой, чалавечнасцю завалодаў нашымі сэрцамі. Так, як і абяцаў, ён сяды-тады заходзіў у гімназію, відаць, былі ў яго пільныя справы. Вучні радаваліся і такой, мімалётнай сустрэчы.

Да ведама: 4 сакавіка 1928 года беларускае насельніцтва Навагрудскага ваяводства выбрала І. С. Дварчаніна паслом (дэпутатам) польскага сейма.

Вялікім святам для вучняў, асабліва для старшакласнікаў, было, калі беларускі пасол наведваў інтэрнат. Ён častаваў курцоў дарагімі папяросамі «Мадэн»: у доўгім калідоры, дзе мы вучыліся, плаваў няўлоўны для вока прыемны мадэнаўскі пах дымку. Гэтыя папяросы малодшыя жыхары інтэрната трапна празвалі пасольскімі.

Ігнат Сымонавіч быў вельмі ўважлівы, цікавіўся нашым жыццём, як вучымся, што чытаем. Убачыўшы на стале кнігу апавяданняў Янкі Нёманскага «На зломе», выдадзеную ў Мінску, пахваліў вучня (не помню каго), што чытае літаратуру беларускіх пісьменнікаў.

Трэба зазначыць, што ў інтэрнат Віленскай беларускай гімназіі невядомымі мне шляхамі з БССР паступалі творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Помню паэму Якуба Коласа «Сымон-музыка», раман Міхася Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі», «Біблію» Кандрата Крапівы. Відаць, Дварчанін ведаў сцежкі-дарожкі, якімі прыбывалі да нас кнігі савецкіх паэтаў і празаікаў. Бываючы ў нашым інтэрнаце, ён нібы правяраў, ці даходзіць гэтая літаратура да юнага чытача.

Перабіраючы ў памяці той далёкі, шасцідзесяцігадовай даўнасці час, выплыла з небыцця адна дэталь сустрэчы з нашым былым настаўнікам. Праўда, Ігнат Сымонавіч найбольш гутарыў са старэйшымі вучнямі, магчыма, з кіраўнікамі падпольнай работы. Вось падышоў да яго мой блізкі зямляк аднавясковец Якуб Міско. Прывітаўся, і ў іх завязалася прыблізна такая гутарка.

— Як там Слонімшчына, вёска Хмяльніца? — пацікавіўся Ігнат Дварчанін.

— Нічога, жыве, змагаецца. А ў Хмяльніцы, — прызнаўся Якуб, — ніколі не быў. Каб жылі там якія-небудзь сваякі, то заглянуў бы.

Тады я не ведаў, што напярэдадні Першай сусветнай вайны І.С. Дварчанін настаўнічаў у вёсцы Хмяльніца. І, відаць, пасля таго ніколі там не быў...

Пад канец 1928 года Радаслаў Астроўскі паклікаў паліцыю і пры яе дапамозе выключыў з гімназіі каля ста, можа і больш, самых актыўных вучняў.

Мой любімы настаўнік Ігнат Сымонавіч быў адважным чалавекам. Ён ведаў, што яго чакаюць арышты, катаванні ў дэфензіве, а потым доўгія гады прабывання ў турмах. Але нішто не магло застрашыць барацьбіта за свабоду народа. Буйная дзейнасць Дварчаніна як народнага дэпутата радавала і адначасова трывожыла, бо надта лютавала паліцыя, збівала паслоў, хоць па закону яны лічыліся недатыкальнымі. Як доказ подлай палітыкі пілсудчыкаў, у 1930 годзе Дварчаніна арыштавалі і засудзілі на 8 гадоў турэмнага зняволення.

Я цяжка перажываў зняволенне свайго настаўніка. А потым, у 1932 годзе, радаваўся, калі Дварчанін апынуўся ў Мінску ў выніку абмену палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай. А ў 1933 годзе мучыла недаўменне, калі раптам яго і іншых выдатных дзеячаў КПЗБ арыштавалі і абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне, накіраванай супраць Савецкай улады. Не верылася, што ён здраднік. Няўжо наш школьны клас мог памыліцца ў шчырасці гэтага чалавека? Не верылася і тады, калі ў вёсцы сярод іншай падпольнай літаратуры паявілася брашура на добрай тонкай паперы з ганьбаваннем такога выдатнага рэвалюцыянера, паэта, літаратуразнаўцы, які ў 1927 годзе выдаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры». Мы ж па ёй вучыліся ў Вільні.

Цяпер вядома, што брашура была выдадзена ў Мінску з паметкай віленскай друкарні імя Францішка Скарыны. Помню абрыс літар, толькі не магу ўспомніць загаловак, бо быў доўгі.

Так, у 1937 годзе ад рук сталінскіх апрычнікаў загінуў зямляк, педагог, літаратар, выдатны беларускі дзеяч Ігнат Дварчанін.

Пад яго настаўніцкім уплывам і дзякуючы паэзіі Янкі Купалы я пачаў пісаць вершы.

*1994*

## Дарога да Звестуна

У тыя часы, калі Заходняя Беларусь знаходзілася ў калючых рамках буржуазнай Польшчы, беларускія літаратары амаль не сустракаліся. Жылі ў вёсках, пісалі, як умелі, вершы, апавяданні, карэспандэнцыі, у якіх выказвалі свой боль і гнеў, і дасылалі ў Вільню, у прагрэсіўныя газеты і часопісы. Беларуская прэса выходзіла тады рэдка, канфіскавалася, таму не ўсё напісанае бачыла свет. А калі і стаялі на адной старонцы вершы двух аўтараў, то ўсё роўна яны не ведалі адзін другога, бо падпісваліся псеўданімамі, што давала магчымасць схавацца ад паліцэйскага вока. Важна было другое: каб твор узнімаў настрой, клікаў на барацьбу.

Менавіта такімі творамі, што рэдка траплялі ў друк, з’яўляліся вершы за подпісам Звястун. Вершы падабаліся мне сваёю баявітасцю, задушэўным лірызмам. Відаць, пісаў іх больш адукаваны, спрактыкаваны чалавек, чым мы — пачаткоўцы. Ды я не ведаў, хто іх аўтар, дзе жыве, чым займаецца. Вельмі хацелася пабачыцца са Звестуном, пагутарыць, параіцца, абмяняцца думкамі. Але ў панскай Польшчы было гэта амаль немагчыма. Помню, у

канцы 1933 года мяне паклікалі ў Вільню на з’езд пісьменнікаў. З задавальненнем я выбраўся ў дарогу, спадзеючыся, што ўбачу там Звестуна. Але на чыгуначнай станцыі ў Слоніме затрымала тайная паліцыя: «Седзь, хам, в дому, пільнуй гною».

І вось праз некалькі дзён пасля здарэння на вакзале зайшоў да нас у хату ў вёсцы Чамяры на Слонімшчыне незнаёмы малады хлопец. Перадаўшы прывітанне ад Валянціна Таўлая, расказаў, што рыхтуецца выпуск беларускага літаратурнага часопіса. Напісаны зварот групы рэвалюцыйных паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі з заклікам да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. І ці згадзіўся б я, каб мой подпіс стаяў пад гэтай дэкларацыяй (зваротам)?

— Не можам усіх паклікаць у Вільню (клікалі ўжо), ды гэта і небяспечна, — сказаў ён.

Вядома, я не мог не пагадзіцца з такой патрыятычнай, актуальнай прапановай. Даўшы згоду на подпіс, запрапанаваў падарожнаму павячэраць.

— Няма часу. Бывайце, — сказаў незнаёмы і хутка выскачыў з хаты, дзе зліўся з густой асенняй цемнатой.

Часопіс «Літаратурная старонка», як вядома, выйшаў у студзені 1934 года і на першым нумары быў канфіскаваны, забаронены. Але хлопцы, відаць, выхапілі частку тыражу, бо пошта прынесла і мне адзін экзэмпляр часопіса. Я адчуваў сябе, як кажуць, на сёмым небе. Змясцілі мой верш «Вёска», а галоўнае — «Дэкларацыю» за подпісамі: Янка Чабор, Міхась Васілёк, А. Рэдзька, Пятрусь Граніт, Звястун, Анатоль Іверс.

Звястун… Хто ж такі Звястун?

Неўзабаве я даведаўся ад падпольшчыкаў, што гэта наш зямляк са Слонімшчыны Піліп Пестрак. На сэрцы стала цёпла-цёпла. Захацелася, як найхутчэй пабачыць гэтага загадкавага земляка.

Аднак дарога да Звестуна была вельмі доўгая і цярністая, бо не так лёгка сустрэцца, калі дэфензіўшчыкі ходзяць за табой па пятах. Нездарма потым Піліп Сямёнавіч свой раман аб вызваленчай барацьбе працоўных назваў «Сустрэнемся на барыкадах». У 1935 годзе паэта судзілі ў Вільні, далі шэсць гадоў турэмнага зняволення і два гады дабавілі за выступленне на судзе. Увесь народ сачыў за гэтым судовым працэсам, захапляўся непахісным Піліпам Пестраком.

Пабачыўся я з Піліпам Сямёнавічам толькі пасля верасня 1939 года. Дарэчы, тады ж першы раз паціснуў рукі Максіму Танку, Ніне Тарас, Ганне Новік…

Больш як на тры гады разлучыла нас гітлераўскае нашэсце на Савецкі Саюз. Я рабіў усё, што мог, каб скараціць гэту разлуку. Спадзяваўся, што і Пестрак усімі сродкамі змагаецца супраць азвярэлых фашыстаў. Так яно і было, бо інакш быць не магло. А потым, як адваявалі Беларусь, сустракаўся з колішнім Звестуном пры розных нагодах. І кожная сустрэча вылівалася ў задушэўную гутарку. У Піліпа Сямёнавіча можна было многаму павучыцца.

Было гэта ў 1956 годзе. Вечарэла. Да мяне дамоў у Слоніме заходзіць Піліп Пестрак.

— Пусціце нанач? — з уласцівай яму ўсмешкай ставіць пытанне, а потым вітаецца.

— Заходзьце, заходзьце, — запрасіла жонка, бо я ляжаў хворы.

— Што з табою? — пацікавіўся госць.

— Нешта ўбілася ў грудзі і тузае, не магу павярнуцца.

— Нічога, перастане. Як заеду ў Мінск, прышлю табе карэння дзівасілу, што дала мне нарачанская бабка. Пап’еш — і ўсё як рукой зніме, — сказаў Пестрак і пры гэтым прачытаў верш «Дзівасіл».

І праўда, праз некалькі дзён атрымаў я бандэроль з цудадзейным дзівасілам. Поруч з доктарскімі лякарствамі піў і дзівасіл.

Паправіўся. Пэўна, ад дзівасілу.

А пакуль што Піліп гаварыў:

— Ці ведаеш, чаго я прыехаў на Слонімшчыну? Задумаў напісаць апавяданне «Гумно без варот». Пайду раненька ў Дзеравянчыцы, дзе некалі жыў, як служыў лесніком у купцоў-лесапрамыслоўцаў.

Да позняй ночы не спалі, успаміналі мінулае, загінуўшых у барацьбе таварышаў.

— Ведаеш, што, — кажу дарагому госцю, — як успомню паднявольнае жыццё, здаецца, увесь час ішоў да цябе, а мяне ўсё затрымлівала паліцыя.

— Усе мы, брат, ішлі адзін да аднаго, нават падсвядома ішлі, каб цясней згуртавацца перад акупантам.

Назаўтра я з жонкай Нінай Паўлаўнай цёпла праводзілі Піліпа Сямёнавіча. Глянуўшы на грады, на маладую буйную цыбулю, ён з захапленнем выгукнуў:

— Вось гэта цыбуля!

І дадаў:

— Ведаеш, Іван, ідзі вучыцца на агранома. Гэта самая найлепшая прафесія.

— Позна.

— Ніколі не позна…

Звястун-Пестрак на працягу ўсяго пасляваеннага часу падтрымліваў са мною добрыя, сяброўскія адносіны, прысылаў пісьмы, фотаздымкі з падарожжаў. А 11 снежня 1968 года прыслаў на маё імя два экзэмпляры паэмы «Слова пра Мінск» з аўтографамі — адзін экзэмпляр мне, а другі майму блізкаму суседу Сцяпану Жуку, з якім сядзеў у турме.

Хутка бягуць гады, адыходзяць у нябыт людзі. Не стала і нашага паважанага Піліпа Сямёнавіча Пестрака. А здаецца нядаўна віншаваў яго з 70-годдзем. Па-таварыску шкада чалавека, які ўжо не вернецца назад. Але тое, што ён стварыў, яго добрыя справы застануцца ў гісторыі беларускай літаратуры, у гісторыі барацьбы нашага народа за сваё вызваленне.

*1983*

## Маім «Песням на загонах» — 50

Калі ў 1926 годзе я паступіў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, то ўжо ведаў многія вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Францішка Багушэвіча, Канстанцыі Буйло. Сярод паэтаў Заходняй Беларусі падабаліся творы Гальяша Леўчыка, Міхася Васілька. У беларускіх газетах і гумарыстычным часопісе «Маланка», якія траплялі ў вёску, таксама змяшчаліся вершы іншых, менш значных аўтараў.

Чаму я кажу пра вершы?

Вершы, асабліва баявыя, — вельмі ўспрымальны, даходлівы жанр літаратуры. Вершы любіла, дэкламавала наша моладзь. Ды, зрэшты, празаічных

беларускіх твораў у першай палове 1920-х гадоў бадай што і не было на вёсцы.

З беларускай літаратурай я пазнаёміўся шырэй будучы ўжо вучнем згаданай гімназіі. Траплялі да нас у інтэрнат кнігі з БССР. Ды і ў самой гімназіі быў свой паэт Алесь Салагуб. А галоўнае, быў добры настаўнік беларускай мовы і літаратуры Ігнат Сымонавіч Дварчанін, які адкрываў шырокі свет цудоўнага.

Усё гэта прывівала любоў да роднага краю, роднага мастацкага слова, як кажуць, штурхала да пробы пяра.

Хто з вучняў у маладосці не пісаў вершаў? Пісалі многія, бо гэта было захапленне. Але не ўсе сталі паэтамі. З нашай кагорты найлепшым паэтам стаў наш зямляк Валянцін Таўлай. Ужо тады яго вершы друкаваліся ў беларускіх газетах.

Пачалі з’яўляцца ў друку творы такіх выдатных майстроў слова, як Пілiп Пестрак, Максім Танк, Міхась Машара, Ніна Тарас, Ганна Новік. Гэта таксама станоўча адбівалася на маім паэтычным настроі.

І я пачаў пасылаць свае вершы ў тагачасную беларускую прэсу. Першы верш «Вёска» надрукавалі ў № 1 часопіса «Літаратурная старонка» ў студзені 1934 года. Польскія ўлады часопіс канфіскавалі і забаранілі яго далейшы выхад. Друкаваўся ў часопісах «Беларускі часопіс» і «Калоссе».

Першыя зборнікі заходнебеларускіх паэтаў выйшлі ў Міхася Васілька — «Шум баравы» ў 1929 годзе, у Міхася Машары — «Малюнкі» ў 1928 годзе, у Максіма Танка — «На этапах» у 1936 годзе. З’яўленне кожнай новай кнігі было святам для ўсёй Заходняй Беларусі.

Мой першы зборнік паэзіі «Песні на загонах» выпусціла выдавецтва «Калоссе» ў 1939 годзе…

Зараз я не помню, колькі даслаў вершаў рэдактару зборніка Яну Шутовічу. Адабралі і змясцілі 26, крыху «прыгладзіўшы» вострыя бакі. Аднак я ўдзячны і за такі выхад кнігі.

У той час, калі кніжка рыхтавалася да друку ў Віленскай беларускай друкарні імя Францішка Скарыны, я атрымаў ад Шутовіча ліст, каб зайшоў да ксяндза Адама Станкевіча, якому польскія ўлады забаранілі жыць у Вільні і выселілі на працу ў Слонім у бернардзінскі касцёл.

Я завітаў да яго і там прачытаў карэктурныя лісткі свайго зборніка, бо Шутовіч ведаў, што за мною ходзіць па пятах паліцыя і не раз затрымлівала пошту, таму даслаў карэктуру Адаму Станкевічу.

З кожным днём з нецярпеннем чакаў выхаду зборніка і думаў, што ён не зможа выйсці ў свет, бо 1 верасня 1939 года фашысцкая Германія напала на Польшчу, фашысцкія войскі прыбліжаліся да Заходняй Беларусі. І ўсё ж за пару дзён да ўваходу ў Слонім Чырвонай Арміі я атрымаў павестку аб пасылцы не з Касцянёўскага паштовага агенцтва, як бывала раней, а чамусьці са Слоніма. Па пасылку я пайшоў з жонкай. Ледзь здолеў узяць у рукі і кінуць бандэроль з дзесяццю аўтарскімі экзэмплярамі ў сумку Веры, як за плячамі вырас вядомы шпік Шварц: «Цо пан ту робі?» Адказваю: «Хачу купіць пару канвертаў». Шпік паглядзеў на мяне крыва і пайшоў, нічога не сказаўшы.

Пасля выгнання гітлераўцаў са Слонімшчыны, я вярнуўся з лесу і застаў пустую, з выдранымі вокнамі сваю хату. Адзіны экзэмпляр свайго першага зборніка «Песні на загонах» мне падаравала беларуская паэтка Вольга Іпатава, за што ёй вельмі ўдзячны.

Як бачыце, з таго памятнага і трывожнага часу, калі я не паспеў добра парадавацца з нагоды выхаду сваёй кніжачкі «Песні на загонах», прабегла 50 гадоў. Шчыра дзякую сябрам — Рыме Міско і Сяргею Чыгрыну — за тое, што перад такой культурнай аўдыторыяй арганізавалі ўрачыстасць, каб адзначыць юбілей майго першага сціплага зборніка.

*1989*

## Каб школа стала калыскай народа

Першыя матчыныя словы дзіця чуе і вучыцца разумець і гаварыць у калысцы. Потым маці перадае сваё маладое пакаленне ў большую калыску — у дзіцячы сад, а затым у калыску народа — школу. Зразумела, што ў гэтых выхаваўча-навучальных установах павінны прыняць дзяцей па-мацярынску, развіваць далей беларускую мову, прывіваць любоў да ўсяго роднага, да роднай культуры.

На жаль, гэта не робіцца. Чыноўнікі хутка ўлавілі сталінскую «навуку» аб зліцці нацый, самавольна, без загаду, перавялі ўсе гарадскія школы з беларускіх на рускія. І лічылі сябе ў вышэйшай ступені інтэрнацыяналістамі. І што дзіўна, за такі, мякка кажучы, фальш атрымлівалі дзяржаўныя ўзнагароды. А сапраўды інтэрнацыяналіст — не той, хто адрокся ад сваёй нацыі або топча чужую нацыянальнасць. Інтэрнацыяналістам можа назваць сябе той, хто змагаецца за развіццё і роўныя правы ўсіх народаў.

У Слоніме, як вядома, было дзве беларускія школы: сярэдняя № 1 і сямігадовая № 3. Так, было…

За пасляваенны час будаваліся і адкрываліся новыя школы — і ўсе яны рускія. Раённае і гарадское начальства, якое пры кожнай нагодзе любіла нам дакладваць аб поспехах развіцця духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа, увесь час закрывала вочы на нацыянальную несправядлівасць — адсутнасць беларускіх школ.

Перабудова, якая пачалася ў краіне, узняла народныя масы на сапраўдную дэмакратычную ступень перагляду застойнага перыяду. А застойны перыяд у Беларусі імкнуўся звесці да нуля нацыянальную мову і культуру, не ўспамінаўся нават такі некалі ходкі лозунг, як «нацыянальнае па форме, сацыялістычнае па зместу»...

Лёд, як кажуць, крануўся. Пра катастрафічнае становішча, у якім апынулася беларуская мова ў БССР, першымі загаварылі пісьменнікі і журналісты рэспубліканскай прэсы, шукаючы выхад з моўнага крызісу. Было некалькі артыкулаў на гэтую тэму і ў Слонімскай раённай газеце, але яны не знайшлі шырокага водгуку.

І што дзіўнае. Маўчаць, нібы ў рот вады набраўшы, тыя, каму ў першую чаргу трэба гаварыць аб адкрыцці беларускіх школ і павелічэнні гадзін беларускай мовы і літаратуры ў існуючых рускамоўных школах. Маю на ўвазе кіруючых работнікаў аддзелаў народнай асветы гаррайвыканкамаў, а таксама шырокага кола настаўнікаў, дырэктараў, завучаў гарадскіх і раённых школ. Мне могуць зрабіць заўвагу, што ў сельскай мясцовасці школы беларускія. Так, лічацца беларускімі. Аднак і ў іх трэба звярнуць большую ўвагу на паляпшэнне і павелічэнне гадзін выкладан-

ня беларускай мовы і літаратуры. І, наогул, трэба, каб у сельскай школе панавала добрая беларуская мова, каб і наглядная агітацыя была таксама на беларускай мове.

У прэсе шмат гаворыцца, што ў гарадах рэспублікі склалася двухмоўе, у тым ліку і ў навучальных установах. Што датычыць гарадскіх навучальных устаноў, то там, як адзначалася вышэй, з'яўляецца пакуль што аднамоўе — рускае. Як зразумець двухмоўе ў школах? Просіцца такі вывад: трэба, каб у горадзе працавала хаця б палавіна беларускіх і другая палавіна рускіх школ — для дзяцей небеларускай нацыянальнасці, бацькі якіх жадаюць адмежавацца ад беларускай мовы і ад беларускай культуры.

А між іншым рускія патрыёты выказваюцца так, што маральны абавязак кожнага, хто прыехаў на даўжэйшы час у нашу рэспубліку, ведаць і карыстацца беларускай мовай. Гэта не прынясе яму ніякай шкоды, наадварот, пашырыць кругагляд.

Дык вось — школа. Трэба зрабіць так, каб яна і дашкольныя дзіцячыя ўстановы сталі для падрастаючага пакалення сапраўднай калыскай развіцця беларускай мовы, культуры, гісторыі. А ў гісторыі беларускага народа шмат белых плям. Іх трэба запаўняць сапраўднымі фактамі. І прыйдзецца гэта рабіць маладым вучоным, якіх павінна падрыхтаваць школа. А то што атрымліваецца? Нават завуч адной з сярэдніх слонімскіх гарадскіх школ не ведае, хто такі Браніслаў Тарашкевіч. Дык што ён скажа вучням?..

*1988*

# Змест

Паэт служыў Радзіме. *Сяргей Чыгрын* .......... 3

## Вершы

На далёкіх курганах .......... 9
* * * Каб не злыя шугавеі… .......... 10
Песні на загонах .......... 11
* * * Я выйду ў прастор безбярэжжаў… .......... 12
У шуме жыта .......... 13
Вёска .......... 14
За варштатам .......... 15
З чужыны .......... 16
Звоняць дні .......... 17
Зорныя дарогі .......... 18
У сінеючыя паплавы… .......... 19
Хтосьрасчэсваў зялёныя сосны .......... 20
Малюнкі .......... 21
Пад ранак .......... 22
Над Шчарай .......... 23
Веснавыя думы .......... 24
Спатканне .......... 25
Гэта вясна .......... 26
* * * Я шукаў яшчэ вясною… .......... 26
* * * Апошнім шолахам скрываўленыя раны… .......... 27
Да жніва .......... 28
* * * Раз таварыш піша… .......... 29
Максім Багдановіч .......... 30
Загарэліся іскрамі зорнымі .......... 31
Ноччу .......... 32
Залацілася раніца .......... 33
Ці то песні? .......... 33
Восень .......... 34
* * * Ізноў ліюцца песні, песні… .......... 35
Збуджаны верш .......... 36
З песняй .......... 37

Пра сэрца .................... 38
Сялянскі паэт .................... 39
* * * Восень, восень, восень… .................... 40
На бруку .................... 41
Касьба .................... 41
На этапнай дарозе .................... 42
Мая песня .................... 43
Верасень .................... 44
* * * Часамі сумна быць паэтам… .................... 45
Сон .................... 46
Вясёлай раніцай .................... 46
* * * Чым прыкавала ты, вёска, мяне… .................... 47
* * * Трапяткімі лісцямі каштана… .................... 48
Дык прыходзь .................... 49
Верш .................... 50
Я выйду ў поле рана .................... 50
Ліст у Нямеччыну .................... 51
Аганёк .................... 52
Горад у тумане .................... 53
* * * …Перамога! Перамога!.. .................... 54
Гляджу на лес .................... 54
Другу юнацтва .................... 55
След рукі .................... 55
Малюся я .................... 56
Шчасце .................... 57
Прыляцелі снегіры .................... 58
Сасна .................... 59
Жураўлі .................... 60
Паэзія .................... 61
Унучка рыбака .................... 62
Спарышы .................... 62
Слонім — мой родны горад .................... 63
Тры сасны .................... 64
Лясная ідылія .................... 65
Блакітная хусцінка .................... 65
Лісткі календара .................... 66

Мосцік ........ 67
У роднай вёсцы ........ 68
Мой горад ........ 69
Валянціну Таўлаю ........ 70
У лесе ........ 71
* * * Адшумеў прастор калоссем… ........ 72
Ключык сіні ........ 73
Вера ........ 75
Пароль ........ 77
Пачатак шляху ........ 78
Роднаму краю ........ 79
Абеліскі ........ 79
* * * Па-над Слонімам стыне… ........ 80
Песенны край ........ 81
Лясны паклон ........ 83
Дзівосны свет ........ 87
У зімовым лесе ........ 88
* * * Пакасілі мае лугі зялёныя… ........ 89
Ты стала песняю ........ 90
Сонца і краты ........ 91
Тое поле ........ 92
Зацесна Нарве ў берагах ........ 93
Дзе тыя Пясчанікі? ........ 94
На братняй зямлі ........ 95
Закаласуе новы дзень ........ 96
Беларусь у кожнай кроплі ........ 97
Пачатак вясны ........ 98
Першы снег ........ 98
Мірная раніца ........ 99
Скарына ........ 100
* * * Быў цудоўны ранак сіні… ........ 101
Перамога ........ 102
* * * Дні бягуць, і мы старэем… ........ 102
Памяці Міхася Васілька ........ 103
Твой дзень ........ 104
Жыву ў бацькоўскім краі ........ 105

Чаму стралялі ў нас паны? ........ 106
Мяне зямлянка берагла ........ 107
Разгарнулася лета ........ 108
Сляды ........ 109
Перамога ........ 110
То было не на праспекце ........ 111
Успамін далёкі ........ 112
Ад чаго дрыжаць асіны? ........ 113
Узнімаўся раніцай туман ........ 114
* * * Затужыла пры лузе бяроза… ........ 115
Акраец хлеба ........ 116
Плач жалейкі ........ 118
Сустрэчы ........ 120
Песня недапетая… ........ 121
У Гута-Міхаліне ........ 122
Сцежкі юнацтва ........ 123
Жывая крыніца ........ 123
На родных загонах ........ 124
Па дарогах вайны ........ 125
Ты жывеш пад небам сінім ........ 126
Гэта Новы год ........ 127
Прыдарожныя сосны ........ 128
Святое пачуццё ........ 130
Ты — як песня ........ 131
Хлеб і мова ........ 132
Паперка ........ 133
Дзякуй небу і табе, Радзіма ........ 134
Даматканыя кашулі ........ 135
Не быць жабракамі ........ 136
Лясы і пералескі ........ 137
Да нашага сонца ........ 138
Калдычэва — Курапаты ........ 139
На Шпаковай гары ........ 140
Валобрынка ........ 141
Дарога палявая ........ 142
Жураўлі і гусі ........ 143

Шлях да зорак ........ 144
Касцёл святога Андрэя ........ 145
Упершыню на Свіцязі ........ 146
Шлях у маладосць ........ 147
Падкова ........ 148
Засталіся толькі мары ........ 150
У дзень перапісу ........ 151
Марозны ранак ........ 152
Белая чарэмшына ........ 153
Бярозы на шляху ........ 154
Роздум ........ 155
Наша слова ........ 156
Па зямлі я хадзіць прывык ........ 157
Думкі аб вясне ........ 158
Я да Коласа прыйшоў ........ 159
Такая ўжо Радзіма ........ 161
На сустрэчу ........ 162
Сам Забэйда тут хадзіў ........ 163
Ой, лясы ........ 164
Разведчыца ........ 165
Ля студні ........ 166
Звініць каса на дзічцы ........ 167
За край ........ 168
Мяне кліча перагуд ........ 170
Веснавы разліў ........ 171
Зноў у лесе ........ 172
Цвіце чабор ........ 173
Ціхі вечар ........ 174
Бусел ........ 175
Травень ........ 176
Родная хата ........ 177
Бярозкі ........ 178
Мая Радзіма ........ 179
Прадзедава мова ........ 180
Шумелі сосны ........ 181
Родная мова ........ 182

Песня .......... 183
Родныя краявіды .......... 184
Хто ж такі я? .......... 185
Я — той самы .......... 187
Тры сасны .......... 188
Крыху гісторыі .......... 189
Нас трое .......... 190
Кароткая сустрэча .......... 190
Жыта і пшаніца .......... 191
Думка пра Віслу .......... 191
Навагодняе .......... 192
Адкуль туга? .......... 193
Крокі .......... 194
Да светлага юбілею .......... 197
1946–1996 .......... 198
Фасоля .......... 199
Развеяліся хмары .......... 201
Каласы .......... 202
Там, за рэчкай… .......... 202
Паэт-бунтар .......... 203
Ігнат Дварчанін .......... 204
Такія дні .......... 205
Стыкоўка пакаленняў .......... 206
Былы партызан .......... 207
Хлеб і глянец .......... 208
Ці дажыву? .......... 209
Мо апошні юбілей .......... 210
Вызваленне .......... 212
А вёска кліча… .......... 213
Майскі дождж .......... 214
Даўно на хутары не быў .......... 215
Кветкі Радзімы .......... 216
«Чыжык Беларускі» Гальяша Леўчыка .......... 217
Родная старонка .......... 218
Тры калгасы імя Сталіна .......... 219
На Дзяды .......... 220

Зорка ... 221
Гляджу ў акно ... 222
Між дубоў векавых ... 223
* * * Зранку сонца лашчыць… ... 224
Снежная зіма ... 225
Жыву ў Беларусі ... 226

**Успаміны**

Святлу насустрач ... 229
Бібліятэка імя Якуба Коласа ... 238
Кто ты естэсь? ... 242
Слонімская міжраённая антыфашысцкая арганізацыя ... 245
Гісторыя адной рэдкалегіі ... 256
Выдавецкія пакуты Гальяша Леўчыка ... 260
Добры след паэта ... 266
Мой настаўнік Ігнат Дварчанін ... 270
Дарога да Звестуна ... 275
Маім «Песням на загонах» — 50 ... 279
Каб школа стала калыскай народа ... 282

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Іверс** Анатоль (Іван Дарафеевіч Міско)

АЎСЯНЫЯ РОСЫ

*Вершы, успаміны*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 15.11.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 15,33.
Ул.-выд. арк. 9,32.
Наклад 200 ас. Зак. 800.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.